# Латышская савецкая паэзія

## Анталогія ў двух тамах 1

Рэдактар
РЫГОР БАРАДУЛІН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1984

С(Лат)2
Л 27



Укладальнікі:

МІРДЗА АБАЛА
СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК

Прадмова

МАРЫСА ЧАКЛАЙСА

$3\frac{4702340200-164}{М302(05)-84}147-84$

## ЧАЛАВЕК — ЗДАБЫТАК ЧАЛАВЕКА

Паміж першай кнігай латышскай паэзіі «Песенькі» Юрыса Алунана (1856) і першай кнігай Райніса «Далёкае водгулле ў сінім вечары» (1903) няма і паўстагоддзя, але пройдзены шлях ад першых паэтычных спроб да ўзроўню паэзіі сусветнага класа. Калі ўлічыць, што яшчэ да Райніса вострападзённыя вершы, толькі па прычыне сацыяльных абставін і культурнай замкнёнасці Латвіі не вядомыя ўсёй астатняй Еўропе, пісалі і Эдуард Вэйдэнбаўм, і Аспазія (якая пазней стала жонкай Райніса) і тую акалічнасць, што інфармацыя ў тыя часы была не такая актыўная, як цяпер у краінах, што сталі на шлях развіцця, дык мы ўбачым дзівосны вынік. Я маю на ўвазе многіх латышскіх паэтаў дзесятых, дваццатых, трыццатых, а таксама пасляваенных гадоў. Чаму гэта стала магчымым?

На маю думку, па трох прычынах.

Па-першае. Хоць нашым першым паэтам даводзілася з цяжкасцю адольваць даўно вядомыя культурным народам класічныя формы, хоць яны і павінны былі перакладаць класіку, тым самым даводзячы, што вялікія культурныя каштоўнасці могуць арганічна прыжыцца на іншамоўнай глебе, хоць даводзілася пераадольваць былую прыгнечанасць — поспех быў забяспечаны тым, што ў латышскай паэзіі, песні, культуры была багатая гістарычная аснова — песенны фальклор. Паэты стаялі на цвёрдым грунце народнай песні, багатай і высокаразвітай не столькі фармальна, нават не ў плане яе выяўленчых магчымасцей, паэты адчувалі яе здаровае этычнае і эстэтычнае дыханне. Што ж такое латышская народная песня?

Сведка сямі стагоддзяў нескаронасці? Ці не таму яна такая стойкая і моцная, што ў ёй укараніліся народная этыка і эстэтыка, якія склаліся ў цеснай сялянска-язычніцкай еднасці з прыродай, што ў ёй апеты вяселлі, народныя святы, людская доля? Дыдактычныя павучальніцкія вершыкі на латышскай мове пісаліся і нямецкімі свяшчэннікамі; побач з настаўленнямі, як трэба шанаваць паноў, у іх былі і «вельмі выхаваўчыя» мясціны пра тое, як нядобра піць гарэлку, як нядобра маніць і пляткарыць, як нядобра тое, як нядобра сёе. Але ці такія вершы выхоўвалі народ? Не, гэта рабіла народная мудрасць, народная песня, «блазенская песня», у тым ліку і дасціпная, жартоўна-гарэзлівая народная дайна, такая сапраўды далікатная і паэтычная.

«У гэтых паэтычных мініяцюрах выяўляецца ўся душа вынослівага, цягавітага, негаваркога і ў маральных адносінах на рэдкасць чыстага народа... Яна ёсць з'ява непаўторная ў маштабах усяго свету, багацце выключнае, якое аберагаецца, як зрэнка вока»,— пісаў прафесар Пражскага Карлава універсітэта Радэгаст餐олек.

З усіх вытокаў латышскай паэзіі самы заканамерны той, які вынікае з цесных сувязей паэзіі з жыццём народа. І сувязі гэтыя даволі грунтоўныя, нягледзячы нават на тое, што часам ім нададзены дэкларацыйныя формы. У той жа час такія паэты, як, скажам, Аўстра Скуіня, Яніс Зіемельніек, Эрык Адамсан і яшчэ цэлая плеяда іншых, так званых паэтаў, што «ідуць сваім шляхам», так арганічна ўліліся ў гэтую плынь, што цяпер латышскую паэзію без іх нават уявіць сабе нельга.

Ужо першая кніга латышскай паэзіі «Песенькі» Юрыса Алунана складалася як з яго арыгінальных твораў, так і з вершаваных пералажэнняў, дзеля дакладнасці скажам — з «перайманняў». Зразумела, асэнсаваўшы шляхі і формы развіцця фальклору і мастацкай паэзіі мінулага, успрыняўшы тое, што Эрык Адамсан назваў нацыянальным шармам (ён дадаў яшчэ: «Гэтага шарму нельга набыць ні ва універсітэце, ні сышоўшыся з вярхушкамі грамадства,— не, ён развіваўся з пакалення ў пакаленне, удасканальваючыся праз сямейныя традыцыі...»), засвоіўшы ўсё гэта, латышская паэзія чым далей, тым больш актыўна ўбірае ў сябе і класічную спадчыну, і адначасова паэзію іншых народаў. Шмат творчай энергіі паэты аддалі перакладу паэзіі (і не толькі паэзіі), чэрпаючы з яе рэсурсаў,— і для пашырэння далягляду, і для ўдасканалення свайго прафесійнага майстэрства.

Творчыя ўплывы ідуць, галоўным чынам, ад вялікіх суседніх культур — нямецкай і рускай; але, азіраючыся на

мінулы час, мы можам гаварыць і пра своеасаблівыя ўплывы некаторых іншых культур, напрыклад, пра ўплыў англійскай школы лрэрафаэлітаў на Эрыка Адамсана альбо пра блаславенне французскай паэзіяй творчасці Эльзы Стэрстэ. («Ці памятаецца мясціна, дзе Сена ў Даўгаву ўпадае?») Гэтыя тры фактары, на маю думку, найбольш садзейнічалі развіццю нашай паэзіі.

Як жа яна развівалася ў апошняе дваццацігоддзе, у час, калі паэтычныя кнігі ў Латвіі выдаваліся тыражом у 16—33 тысячы экземпляраў, у час, калі паэзія функцыянальна ўдзельнічала ў духоўным жыцці народа? Перш за ўсё — праз сувязь з жыццём чалавека, і з духоўным і з грамадскім. Нават не гаворачы пра вечныя, нязбытныя каштоўнасці, якія ёсць у кожнай паэзіі, можна згадаць важную думку, выказаную нямецкім паэтам Гансам Магнусам Энцэнсбергерам на міжнародным сімпозіуме ў Грузіі, што паэт — гэта сейсмограф, падобны на сабаку, які сігналізуе пра набліжэнне землетрасення і рэгіструе перамены ў працэсе яго набліжэння.

У гэтым сэнсе мне здаецца унікальным вопыт Оярса Вацецiса. І не толькі ў востра сатырычных вершах, як, напрыклад, у «Маналогу прусака», дзе Вацiецiс з лірычным спакоем, пазбягаючы ўсякага пафасу, ужываючы фразы станоўчай ацэнкі, выварочвае авечую шкуру і адкрывае сапраўдную сутнасць пераапранутага і замаскіраванага ваўка. У час, калі з'явіўся гэты верш, ён выклікаў шмат пярэчанняў, таму што сам быў напісаны не занадта рана. Але ж гэта і ёсць адна з функцый паэзіі — ранняе абуджэнне, прадбачанне, прадвесце.

Першыя вершы, якія забілі трывогу з прычыны легкадумных адносін да акаляючай прыроды, яшчэ былі ўспрыняты як настальгія некаторых паэтаў па традыцыйным, прывычным трохі патрыярхальным быце, а сёння такая трывога нават афіцыйна расцэньваецца зусім інакш. Чаму? Таму, што літаральна на нашых вачах склалася сапраўды духоўная і псіхалагічная праблема. кажучы словамі Оярса Вацiецiса, стварылася сітуацыя, калі:

Шукаючы месца, дзе водзіцца рыба
і дзе кацялапкі яшчэ растуць,
ў цывілізацыі хоча знайсці чалавек
месца, дзе ён яшчэ чалавек.

Амерыканскі паэт Рыд Вітмар сказаў пра паэзію свайго народа сямідзесятых гадоў: «Мы цяпер гіпертрафіруем індывідуалісцкую традыцыю нашай паэзіі, і таму сённяшнія амерыканскія паэты занадта звужаюць свае мэты. Лепшая

амерыканская паэзія — гэта паэзія сацыяльная, паэзія, у якой гаворыцца пра ўсё грамадства. Гэта галоўная задача паэта, і ён не мае права грэбаваць ёю». Такі акцэнт думкі. Свет не павінен быць у паэзіі абстрактным, неабагрэтым чалавечым цяплом.

Песціць далоня, хапае, трымае
голая, як напачатку,—
прагну сустрэчы я і адчуваю
цябе нават цераз пальчатку;
прэч — самалюбства сарву я пячатку,
сцісну далонь, што далоні чакае.

*(Лія Брыдака)*

Цёплы міфалагізм, фальклорны лірызм на гэтым шляху амаль непазбежны. Вось як малюе дзіця: «І чалавек яго большы за дом»,— сказана ў вершы Візмы Бэлшавіцы «Майму харошаму».

Ты добры і, дзе я была,— не спытаеш.
Зірні, наш малюе малыш,
І чалавек яго большы за дом.

Аснова верша, «факт і развіццё» (Райніс) па-чалавечы простыя і вялікія; вырашаецца гэта эканомнымі, нават скупымі паэтычнымі сродкамі, пры гэтым не бачна даволі звычайная кампазіцыйная канструкцыя, якая змацоўвае верш у цэльнае збудаванне, што ў іншых больш груваcткіх і менш істотных варыянтах толькі б назаляла вачам. Вось далейшае развіццё верша:

У кветкі была я, ты знаеш.
Чым звязана з кветкаю, знаеш.
Зірні, наш малюе малыш.
І большая кветка за дом.
Іду я дамоў, ты насустрач... Але
Ты — большы за дом.
І кветкі стаяць на маім стале,
Большыя кветкі за дом.

Да ўсіх здабыткаў сямідзесятых гадоў залічым яшчэ і тое, што пашырыліся абсягі паэтычнага бачання, ажывіўся мастацкі вобраз, намеціўся шлях да паліфанізму і нярэдка новыя задачы рэалізуюцца грунтоўна. Напрыклад, у трохчастным вершы Олафса Гутманіса «Паляванне», у пачатку, калі «паляўнічыя сабакі яшчэ на павадку», пазіцыя паляўнічага, удзельніка падзей,— ясная: «Заўсёды пах звера ў сласталюбстве вастрэйшы»; і іншая пазіцыя: «Раптам я —

звер. І цікуюць і ловяць мяне. І палююць на мяне. І на мой след пушчаны сабакі».

Тут не простая перастаноўка пунктаў погляду, тут унутраная дыялектычная супярэчнасць — «выклік самаму сабе супроць сябе і супроць спушчаных сабак». Арганічна — само — без грубых аўтарскіх дэкларацый складваецца шырокае, не проста канкрэтна разгорнутае абагульненне — каларытная карціна палявання.

Лепшы кантакт паэтаў з жыццём у сямідзесятых гадах у параўнанні з шасцідзесятымі выяўляецца больш апасродкавана, праз паглыбленне паэтычнага аналізу. І вельмі гэтаму паспрыяла (а можа, нават часткова стала вынікам) тая сапраўды вялікая праца над перакладам паэзіі, якая вялася ў Латвіі ў апошнія паўтара дзесяцігоддзі.

Натуральна, што многія з перакладзеных аўтараў (Лорка, Рыльке, Рыцас, Баброўскі і інш.) адчувальна паўплывалі на нашу паэзію. Па-першае, сваім шырокім, дэмакратычным асэнсаваннем свету, глыбокім гуманістычным дыханнем, нечаканым адкрыццём многіх стылёвых дзвярэй.

Хачу ў двух імгненнях гучаць удосыць,
У два імгненні жыццё ўкладу,—
Калі свет праз мяне праходзіць
І калі я праз свет іду,—

сказаў Леанс Брыедзіс. І менавіта такая скіраванасць мыслення робіць сваю пазітыўную справу — гэта скіраванасць не толькі на павагу да іншых, а на заглыбленне ў іншую, не падобную на нашу культуру (ужо не проста павага), скіраванасць на сапраўды культурнага, без падробнага фальшу чалавечнага чалавека.

Шчыра кажучы, гэта цяпер з'ява не толькі ў Латвіі, але ў Латвіі ніколі раней не назіралася такой ярка выяўленай цягі да кніг пра жыццё прыроды, раслін, жывёльнага свету, як цяпер. Дэтэктывы ляжаць ва ўсіх кнігарнях, але паспрабуйце знайсці хоць адну кнігу Дарэла!

Сімвалічны сімптом уніфікацыі эпохі — патрабаванне жыцця. Патрабаванне жыццёвай літаратуры. Успамінаю гады свайго маленства, калі дзеці выкалупвалі і елі вугельчыкі з толькі што спечанага жытняга хлеба. Мусіць, гэта абумоўлівалася недахопам у арганізме таго ці іншага рэчыва, і дзеці падсвядома, інстынктыўна спрабавалі яго кампенсаваць. Як мне здаецца, нешта падобнае адбываецца ў сённяшняй Латвіі з папулярнасцю фальклору. Папулярнасць гэтая — велізарная. Калі раней амаль усе выканаўцы фальклорных твораў працавалі ў асноўным з ужо вядомымі запі-

самі альбо нават з кампазітарскімі аранжыроўкамі больш позняга часу, дык сёння большасць фальклорных ансамбляў стараецца дасягнуць поўнай аўтэнтычнасці, прабіцца да карэння песеннага гучання, зразумець дух песні.

«Вы ж ведаеце саламянае соцейка з бульбінай-сэрцам? — піша ў 1981 годзе школьніца-выпускніца, дзяўчына, якая нарадзілася ў пачатку шасцідзесятых гадоў, і апісвае свой класны сход, далучэнне да фальклору, народнага мастацтва.— Свечкі, свечачкі. Цёплае і ўтульнае святло. Ніводнай серпанцінкі, ніводнай рушкі, ніводнага пампона «снежнай» ваты. Вы ж ведаеце саламянае сонейка з бульбінай-сэрцам? Вокны заслонены лістамі кардону, упрыгожанне сцен — этнаграфічныя запісы... І неяк неназойліва мяне перапаўняе вячэрні настрой. Як усё сёння вечарам нязмушана свабодна! І паводзіны, адносіны такія сапраўдныя, не навязаныя, не вымучаныя».

Вядома, у гэтай дзяўчынкі няма чужой агульнаеўрапейскай бытавой культуры з магчымасцямі штодзённых зносін з мастацтвам. І ўсё-такі такая выхаваная, такая паглыбленая, засяроджаная, такая накіраваная дзяўчына выбірае нешта зусім іншае і піша: «Як усё сёння вечарам нязмушана свабодна!» І свой допіс у маладзёжную газету называе: «Будзь з намі, песня народная!»

Будзь з намі, песня народная...

Я думаю, што беларускім чытачам гэта таксама добра вядома. Бо яшчэ да таго, як развіццё гэта стала такім глыбокім і шырокім, яшчэ на пачатку сямідзесятых гадоў моладзь (ды ці толькі моладзь!) ва ўсёй Латвіі напявала рытмы, унутрана вібравала бурлівымі ўсплёскамі «Песняроў».

Спробы спяваць народную песню ў старым, традыцыйным стылі амаль усе без выключэння закончыліся правалам. Таму што жыццё патрабуе новай вобразнасці, новага каларыту, патрабуе нечаканасці, свежых ідэй. А народная песня (і ў гэтым яе сіла!) расказвае, спявае толькі пра тое, што ўсім вядома, што ўсе бачылі, што ўсе прачулі. Калі гаварыць пра літаратуру, пра тое, што ёю апісана, зроблена, створана, дык у гэтым сэнсе народная песня больш разрослая. І не толькі таму, што яна выкрышталізавана, выпрабавана многімі спевакамі, але і таму, што ў ёй панує арганічны сэнс, нязмушаны дух і, натуральна, яна патрабуе адшліфаванага выканання.

Мне здаецца, што вывучэнне фальклору, вучоба ў фальклору — вельмі важныя для натуральнага духоўнага праяўлення, для натуральнага таленту. Гэта першы непрыкметны (дакладней кажучы,— нябачны) здабытак і вынік фальклорнага ўплыву. Важна, каб мы, адышоўшы ад свай-

го атачэння, арганічна браліся за тое, што мы можам і ўмеем, каб — працуючы дзеля нейкай пэўнай мэты — захавалі цэльнасць асобы. Пра гэта гаворыць паэт Імантс Аўзіньш:

Не змагайся, не змагайся
Ніколі з сваім сэрцам.

У паэце, у паэзіі, як і ў працытаваных радках, народная песня прысутнічае перш за ўсё сваёй этычна-эстэтычнай асновай, самой ідэяй. Але яна жыве ў нас непрыкметным гучаннем, знешне даволі аднастайным, але такім, што прамяніцца ўнутранай стабільнасцю. У сучаснай латышскай паэзіі часамі «нябачная гукавая форма... стварае ілюзію поўнай аўтарскай абыякавасці да фальклору...— пісала пра паэтыку ў латышскай лінгвістычнай кнізе «Выказаць невыказнае» Рута Вэйдэмане.— Знешняя прастата формы, сінтэзаваная з нечаканымі паэтычнымі вобразамі,— у гэтым грунт непаўторнай своеасаблівасці Яніса Петэрса».

Народная песня больш аперыруе паралелізмамі, сучасны паэт — метафарай:

я ўсё ўмею я ўсё знаю
нават камень ажыўляю

я ўсё знаю я ўсё ўмею
з гліны дом раблю і з глею

хлеб пяку я з чорнай хмары
і жыццё твару я з мары

я ўсё ўмею я ўсё знаю
я сам Сонца ўспалымняю

болей знаюць толькі змеі
знаюць словы што знямелі.

Мноства назоўнікаў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі ў народных песнях, вытанчанасць выказвання думкі — не выключае і магчымасці даволі іранічнага выкарыстання сённяшняга груваcткага, складанага, нярэдка і хаатычнага жыццёвага матэрыялу.

Латышскай паэзіі ўвогуле, а сучаснай у прыватнасці ўласціва антрапамарфізацыя прыроды і ў больш адкрытай, і ў менш апасродкаванай форме. Мусіць, таму і не дзіва, што такі вялікі ўплыў на нашу паэзію зрабіла адкрытая латышскаму чытачу паэзія немца Ёганеса Баброўскага.

Вось як проста ўвасабляе гэты ўплыў наш Олафс Гутманіс:

Бура ўночы ўздымае на ногі —
А жанчына ласкавым словам.
Агаляе ствол корань сасновы —
Колькі слабасці ў ім і знямогі.

Больш складана гэта робіць Кнутс Скуеніекс:

як шмат карэнне шэпчацца з сабой
і ў шэпце радасць моцнасці і горыч
рака эскіз завершвае травой
дзе слова гучнае найзлейшы вораг.

Фальклор, вядома,— выразнік народнай этыкі і эстэтыкі, адкрывальнік духоўнага і разумовага складу народа, але фальклор яшчэ і адкрывальнік жыццёвых рэалій, жыццёвага асяроддзя народа, народная песня пазначана і вялікай пазнавальнай каштоўнасцю. Зразумела, у гэтым ёсць вялікая радасць гісторыкам, этнографам, даследчыкам прыроды, але, на мой погляд, у фальклоры ёсць і яшчэ адна нязбытная якасць — ён дорыць адчуванне, першаснасць. Не перабольшваючы, мэтанакіравана, ясна.

Відавочна, што народная песня імпульсіўна ўмацавала (гэта было ўласціва і латышскаму язычніцкаму мысленню) у латышскай паэзіі прымат вобразнага мыслення, якое прывяло да асноў прадметнай вобразнасці.

І яшчэ — фальклор як урок мовы. Зразумела, ёсць цэлыя пласты рэчаіснасці, якія фальклор не ўздымае, але ж мы не патрабуем ад мінулага, каб яно вярнулася ў нашу сучаснасць. Важней браць з фальклору жывы неуніфікаваны рух моўнага фармавання, таму што фальклорная мова, хоць і вельмі вытанчаная, але не стэрыльная, яна разгорнутая, разгалінаваная, разжылкаваная, непрычасаная, натуральная. І тут на памяць прыходзяць словы П. Нэруды пра тое, што паэзія не мае права быць квінтэсэнцыяй, у ёй павінны быць і моманты няўдач, і штодзённы пыл, і каменне. А гэта прыгнятае жывое ўспрыманне і разуменне фальклору.

Ёсць нейкая мужная аддаленасць, нейкая се́верская дыстанцыйнасць, з якой наша паэзія агаляе свой эмацыянальны вопыт. Візма Бэлшавіца:

Я дома?.. Мілыя... Але...
А сэрца не — не дома,
На сініх сакавіцкіх льдах
Маё вандруе сэрца,
І, мілыя, яно не з вамі —
З сарокай чорна-белай
На камені гамоніць.

У лепшых вершах гэта азначае не адыход ад канкрэтнасці, а — «непрыстасаванне» са сваімі штохвілiннымі лірычнымі настроямі. У гэтай дыстанцыйнасці, у гэтай прасторы ёсць азон мастацтва.

Доўгі быў шлях да асноўных чалавечых каштоўнасцяў, але гэта не быў шлях назад. Новыя абставіны вымагаюць новых рашэнняў, фальклор тут не можа быць ратункам, ён — саюзнік, як сістэма, у якой зашыфраваны выпрацаваныя на працягу стагоддзяў у свядомасці народа асноўныя погляды на прыгажосць і дабро. Фальклор за табой, ён твой — але працуй сам — тваё сэрца, твой розум, твая рука. Зыходзячы са сваёй паэзіі, я слухаю Уладзіміра Караткевіча ў «Беларускай песні»:

Калі б нават сляпым і глухім
я прыйшоў да цябе.
Што сляпым?
Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай
палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны,
і неба — разлівы ільноў.

Але ж і ў мяне такія пачуцці, і яны абвастраюцца кожны раз, як я думаю пра маю радзіму!

Паэзія, гэты дзівосны карабель на плыні культуры, якая то бывае караблём у плыні культуры, то часткай гэтай плыні, выпраўляецца міма сваіх Сцылы і Харыбды, халоднага эксперымента, аблегчанага то святочнасцю, то забаўляльнасцю. Такім шырокім суладдзем з чытачамі, якога дабілася латышская паэзія ў шасцідзесятыя гады, мы ў сямідзесятых гадах ужо не можам пахваліцца. Проста тады былі свае аб'ектыўныя моманты ўнутранага развіцця жыцця і паэзіі. Магчыма, на паэзію было ўскладзена залішне многа, магчыма, спадзяванні, што яна вырашыць тое, што магла вырашыць толькі ўся культура, былі перабольшчаныя.

Трэба было ўзбагачацца стылёва, трэба было прарывацца на чалавечыя выжарыны, выходзіць на дарогу, якая ніколі не была папулярнай. А ўшчыльняцца, згушчацца, не шукаючы дзейснага выйсця,— гэта магло стаць багнай.

Не прайсці і міма штурму нашай паэзіі халтурай, патрабаваннямі ад мастацтва «неакрэсленасці», што ласкае свядомасць (нямецкі фатограф Ганс Фінслер), патоку псеўдаінтэлектуалізму. Не прайсці і міма самабытнай інерцыі, калі, гаворачы словамі Петруся Броўкі:

І крытыкі і песняры
Ад рання і да рання
Таўкуць, як мак той камары,
Адзінае пытанне.

*(«Паэзія»)*

Добра, што жыццё рухае спантанныя ідэі не так, як у канцы пяцідзесятых — пачатку шасцідзесятых гадоў. Але кепска, што выпрацавалася нешта накшталт пачуцця задаволенасці — прыйдзе, бачыце, хваля, вось тады і пабачым! Пасіўная пазіцыя чакальніка. Занадта многа вершаванай прадукцыі, якая цягне ў замкнёнасць, занадта многа глухамані, вершаў з аднабока, як у камбалы, пасаджанымі вачамі, агульна-філасафічных, без канкрэтызацыі, вершаў праз зубы, вершаў герметычных.

На жаль, і так званая чыста рамантычная паэзія не здолела знайсці, выпрацаваць для сябе задавальняючую доўгатэрміновую аснову і даволі рана нырнула ў нудную экзатычную аднастайнасць.

У аснове дэталі ў латышскай паэзіі па-ранейшаму ляжыць вельмі экспрэсіяністычна ўзятая, часам нават сюррэальна складзеная, падфарбаваная экспрэсіяй, але ў аснове сваёй рэалістычная дэталь.

Адной з сіл нашай паэзіі відавочна з'яўляецца тое, што — гэта мы ясна бачым сёння — ланцуг яе развіцця не разарваўся і ў храналагічнай паслядоўнасці аўтараў. Вырасла надзейнае, самабытна-непаўторнае маладое пакаленне (Аватыньш, Мелгалвс, Аўзпурыетэ, Маеўскіс, Бутузаўс), сутнасць якога разгледзеў праз сваю прызму і з вялікім абагульненнем выказаў Яніс Рокпэлніс: «Стаць бы дзеля смеху на чалавека падобным». Гэта натуральна і неабходна і ў аднолькавай меры важна і для папярэдняга пакалення.

Бесперапыннасць неабходна ва ўсіх пакаленнях, таму што культура сапраўды моцная тады, калі яна бесперапынная.

Разам з папярэднім пакаленнем маладое працуе ўжо на місію вялікай паэзіі, якую, хай, можа, крыху таўталагічна, але дакладна акрэсліў на з'ездзе савецкіх пісьменнікаў Арман Лану: «Чалавек — здабытак чалавека».

Гэта вечная думка з'яўляецца і для латышскай, і для беларускай паэзіі самай вялікай актуальнасцю.

*Марыс Чаклайс*

## Яніс Судрабкалнс



### ПАМЯЦІ КУПАЛЫ

Я ў Рызе пазнаёміўся з Купалам.
Аднойчы ў старажытнай зале,
Дзе мовы розныя гучалі,
Яго мне песня сэрца ўсхвалявала.

З душою простаю, добразычлівы
Стаяў Купала перад намі.
Не ўсланы шлях яго вянкамі.
Бяду і славу нёс пясняр маўкліва.

На Беларусі быў і я калісьці
У курных і крывых хацінах,
Там елі праснакі з мякінай,
Здавалася, няма з галечы выйсця.

Ды ў Беларусі волі дачакалі,
Нядолі горкае не стала.
Дрыгва, цямрэча пазнікала,
Пра шчасны дзень жалейкі заспявалі.

І ў час вайны мяне Купала ўзрушыў,
Быў добра кліч ягоны чутны —

Ляцеў ён праз эфір магутны:
— За край свой родны б'юцца беларусы.

Адпомсціць клікаў ён за боль, за раны,
І песня мкнула па-над светам,
І людзі слухалі паэта —
За Беларусь змагаліся аддана.

Хай беларусы разам з латышамі
У братняй дружбе заспяваюць,
На скрыпках перамог зайграюць,
Купалы песні спавіюць вянкамі.

## ЭЛЕГІЯ З ПАГРОЗАЙ

З жыцця знікае нехта час ад часу,—
Бяспраўны кватарант між жыхароў,
Ён выйдзе і не вернецца ні разу,
З паветрам зліўшыся лягчэй пароў.
Няхай ён будзе п'яніца прыблудны,
Альбо жабрак — гаротны чалавек,—
Ці ганарлівец, лёсу непадсудны,—
Назад ужо не вернецца нівек.

Але барак сусвету не пусцее:
Грымяць казармы, чадзяць гарады,
Заход і досвітак штодня ірдзее,
Хоць нехта захлынуўся ад жуды.
І, не зважаючы на брук гарбаты,
Рыкаюць бойні, клічуць караблі,
І сэрца, палічыўшы ўпотай страты,
Да пульсу прымяраецца зямлі.

Смерць рэдка ходзіць з залацістым мечам,
Часцей у вочы сочыцца імжой,—
Вялікіх і славутых точыць нечым,
Аж покуль плоць расстанецца з душой.
Змагар, што не растраціў сваю сілу,
З задумаю няздзейсненай паэт
Ідуць з жыцця, і кніжную магілу
Гісторык ім капае — цешыць свет.

І, чуючы, што лёс згінае плечы,
З сябе самога цешыцца дзівак:
«Што толку паміраць па-чалавечы?
Памерці б папай рымскім — хоць бы так!
Любы цяжар стамляе нашы ногі
І не ратуе летуценне-сон,
І нам не выбраць гэтакай дарогі,
Дзе б быў ад навальніцы парасон».

Жартуючы пасмешліва-сурова,
Працяўшы зрокам гора навылёт,
Хаця б ты не праслухаў выпадкова:
Заходзіцца гіенай кулямёт,
І час-каваль, свой распаліўшы горан,
Куе сабе героя з дабраты,
Ды падкідае ў полымя і горач,—
Шкада, яе адну заўважыў ты.

Вядома, мы хмурнеем ад пакуты,
Паміж дабром і злом губляем шлях
І, нібы захмялеўшы ад цыкуты,
Хістаемся на стомленых нагах.
І думка мужная здаецца нечым,
Прыкідваецца другам слізкі гад,
Але гаркотай — мы хваробу лечым,
І наш набытак — непазбежнасць страт.

Грукоча барабан, і вальс уторыць млявы,
І кругам, што акрэслены здаўна,
Ідзём да неўміручасці і славы,
Пакуль не змоўкне кожнага струна.
Няхай ты пры жыцці быў непрыкметным,
Ты свету нёс нятленнае святло
І ззяеш зоркай на шляху сусветным,
І вечна чорным застаецца зло!

## ЗОРКІ НЕВЯДОМЫХ ЖЫЦЦЯЎ

Часам цямнее ў душы, і сэрца раптоўна згасае,
Як вугаль прытлелы без подыху свежага ветру.
Дзе тыя шчасце, каханне светлае, слава,
Што прымушаюць гарэць яго полымем яркім?

Душу маю боль нясцерпны сціскае,
Не паспеўшы здзейсніцца, гінуць мары,
І толькі сэрца прастрэльваюць думкі,
Нібыта гадзюк куслівыя языкі.

Але калі ўжо ад знямогі на вуснах
Вялікага гневу праклёны збіраюцца —
Раптам праз ноч душы маёй стомленай
Пралятаюць зоркі невядомых жыццяў.

Можа, гэта мне знак вачыма застылымі
Падае той салдат, што ў лясах памірае?
Ці з карнуэльскай капальні вугальнай
Вітаюць мяне, як цьмяная лямпачка, вочы?

Быць можа там нейкі просты шахцёр,
Прыбіты штодзённай працай нечалавечай,

Прыўзняў з мальбой вачэй медзякі цяжкія,
Што радасці ў жыцці ніколі не бачылі?

Жыцці людзей невядомых, гаротных,
Нібы тыя знічкі, рассыпаюцца ў цемры.
І толькі ў бязмежным небе з папрокам
Ззяюць вочы іх зоркамі серабрыстымі.

Вось так мірыяды жыццяў ціха згасаюць
Без скаргі, без плачу і без надзеі...
У сэрцы маім летуценні людскія трапечуцца,
Дакараючае дыханне праясняе думкі.

Дык чаго ж я хачу ад свайго жыцця?
Чаго шукаю, чаго дасягнуць імкнуся?
Так, кожны хацеў бы ззяць зыркім святлом,
Але мала хто стане зоркай нябеснай навекі.

Затаіўшы дыханне, гляджу ў захапленні:
У глыбокай начы душы маёй стомленай
Загараюцца ў цемры і ў цемры ж згасаюць
Зоркі невядомых жыццяў чалавечых.

## ДЗЕ ТЫ, МОЙ ГОРАД?

1

Дзе ты, мой горад?
Я вышукваў між спляценняў з дроту,
Я спыняўся ля цёмных скляпенняў,
Адкуль патыхала цвіллю
і дзе пішчалі пацукі.
Я чуйна ўслухоўваўся ў антэны
І радасна клікаў: «Алё, Рыга!»

Ды голас твой губляўся, бы ў лесе рэха...
Мяне гойдала вежа, а я ўсё думаў,
Чаму нідзе цябе не чутно.
І няма ў цябе ні свайго аблічча, ні думкі:
Няма сваёй богамацеры,
Такой, як у вокнах парыжскага сабора.
Не твае яны, англійскія каралі і вяльможы,
Італьянскі вінароб і манах,
Што ў сутарэнні вякі загарнуў у пергамент,
Не твае яны, германскія валькірыі,—
Не адшукаеш нідзе народа,
Што Латвіі быў бы кроўны,
Яе разумеў бы душою і сэрцам...
Ідзе земляроб — госць шумлівых бароў і палеткаў,
І, рукою кранаючы лоб, яшчэ спрабуе
Нешта прыпомніць ад Земгале, Відземе
Ў мітусні новай Рыгі.
Усё ў галаве пераблытана.
І толькі прывіды старажытных паноў
Тарашчаць на яго вочы з-пад вежаў і дахаў...
Моўчкі, бы цень,
ступаю я за разгубленым чалавекам
Па старой Рызе
І марна пытаю:
— Дзе ты, мой горад?

2

Я нагнуўся над склепам і слухаю —
Як маркотна спявае певень.
Гэта птушка галаў. Грабянец у яе пунсовы
Ад крыві і пажараў.
Ён біцца ўмее не толькі з-за рэўнасці.
У яго вострыя шпоры і моцныя крылы —
Ад узмаху іх уздымаецца вецер
І «Марсельеза» гучыць над сценамі Бастыліі.

Ён у рыжскага бюргера ў склепе
Чакае свайго прысуду —
нырнуць у гаршчок з супам.
Вольны ж певень спіць
на вежы сабора святога Пятра...
А гэты, жывы, ды паўмёртвы, галосіць.
Няўжо кроў лілася дарэмна, скажыце,—
Ты, бездапаможны крыкун у падвале,
Ты, хто знайшоў супакой у маўклівым балоце,
Ты, каго выгнаў на бульвар голад,—
Вы даўно чужынцы ў сваім горадзе.
Заплюшчу вочы, хачу ўспомніць былое,
А яно расплываецца, нібы ў тумане:
І няма там зялёнага паплаўка, каб прылегчы.
Калі іду ў сёння — сцінае дыханне.
Столькі людзей, ды рэдка сустрэнеш Чалавека,
Шмат вежаў, ды не знойдзеш прытулак нанач,
Шмат новых законаў, ды няма новых думак.
Як чужаземец, блукае тут летуценнік,
Глядзіць на новых паноў і пытае:
— Дзе ты, мой горад?

## КАЛЮЧЫ ДРОТ

Вочы заплюсні — і ён увап'ецца
Ў цела Радзімы, ў Сусвет — дрот калючы.
Хітра на лузе між кветак зашыўся,
Ў гаях, на пагорках гадамі ржавее —
Бачацца мне за ім ямы акопаў,
Цьмяныя постаці, лужыны з крывёю
Ў вялікіх і слаўных краінах Еўропы.
Вочы заплюсні — яны ўвап'юцца
Вострымі джаламі, злосць і нянавісць;

Гора, адчай запаўняюць да краю
Пустку душы, разрываюць на часткі.
Часам так ціха, ну нібы ў магіле,
Ў мудрай Еўропе, аблытанай дротам...
Ці ж са здаровай і чыстай душою
Светлае сонца надзеі убачыць,
Дзецям пакажа на дрот той калючы —
Там, дзе ён марыў, цярпеў і змагаўся?
Не, пагадзіце! Дзяцей не пужайце!
Наша мінулае ў дроце калючым.

## МАЙСКІ ПЕРАВАРОТ

Э-гей! Ізноў бушуе хларафіл,
Пупышак цноту абуджае ўночы,
Травінкі ўзняў на дыбачкі, а сіл —
Хоць адбаўляй: баранчыкам блякоча.

Э-гей! Слупамі выбухі растуць —
І дым зялёны ходзіць над імшарай,
Пацее млява ў градусніках ртуць,
І сэрца б'ецца, як більярдны шарык!

Э-гей! Пад сонцам трон зімы гарыць,
Маёўку ладзяць эмігранты мары,
І паліцэйскі снежнае пары
Паспешліва з чырвоным бантам шпарыць.

Э-гей! У неўпяў — сотні марсельез,
І вераб'і пяюць пра бой астатні,
А кветкі з транспарантамі праз лес
Спяшаюцца на луг — на мітынг братні.

Э-гей! Дні веснія слату ў мяхі змялі.
Далоў сумненняў плесневую кліку!
О жаўранак, звіні, чытай зямлі
З нябёсаў Майскі Маніфест Вялікі!

## СЭРЦА

Сэрца пакута сверліць,
Як не было вякі.
Дзе мерку знайсці, каб змераць
Пралітай крыві раўчукі!

У сэрцы нянавісць,
Што кіпела вякі падрад.
Воіны ў бітвах яе выяўляюць,
Іх не страшыць смяртэльны град.

Сэрца салдатаў палае,
Ім вялікі абсяг відзён.
Апошняя бітва склікае,
За полымем — росквіт дзён.

## З ЗАПІСНОЙ КНІЖКІ

1

— Мне перавага заўсёды,— дзень кажа,—
На золку крамяным маглі вы дзівіцца.
Мой водбліск зіхціць на маліне, пшаніцы...
— Мая перавага заўсёды,— дзень кажа,—
Спяшаецца змрок ад сваіх уладанняў,

Як зорка чырвоная вынырне ўранні.
— Мая перавага заўсёды,— дзень кажа,—
Растуць і растуць мае цёплыя рукі,
Зямлю абдымаюць да болю, да мукі...
— Мая перавага заўсёды,— дзень кажа,—
Са мной нараджаюцца ў сэрцы надзеі:
Да кроплі святла — для людзей, для людзей.

2

Хачу жураўлём стаць, змарнелым, галодным,
Што з выраю крык зноў прынёс жураўліны
І ў родным балоце дасвеццем халодным
Прамёрзлыя сквапна бярэ журавіны.
О, як па душы кіслых ягад гаркота
З тых купін імшыстых, дзе ногі хадзілі!
Як боль несціханы, як весняя нота
Ляці, мой пічымлівы наказ, на радзіму:
Спяюць журавы цераз моры і рэкі —
Мы ж вернемся ў край свой навекі, навекі.

## ЖЫВАЯ МОВА

Жывую латышскую мову
Далёка на захадзе, ў сне,
Я слухаў як зачараваны
І сон перарваць не пасмеў.

Свісталі ў прысадах сініцы,
Крышыла Даўгава лёд.
Пярун грукатаў у нябёсах,
І маці люляла дзіця.

Спяваў пастушок свае дайны,
І Райніса слова гучала.
Я раптам у сне скалануўся —
Мне сціснула шыю змяя,

Бо дзякаваў хтосьці фашысту,
Бо хтосьці назваў яго другам.
І я прахапіўся ад жаху —
Кашмар! Адступіся, кашмар!

Хто нашай ласкаваю мовай
Так дзякуе вылюдку-немцу,
Той словам, як тручаным джалам,
Мне сэрца пячэ навылёт.

І нават сабакі ад страху
Знікаюць за шчыльным парканам.
Я ж слухаю енкі і стогны
На захадзе сірат і ўдоў.

Там мала глухіх баязліўцаў,
Там воіны дужыя клічуць
Змагацца за шчасце і праўду
Сумленных усіх латышоў.

У вольнага толькі народа
Ёсць мова жывая заўсёды.

## ПЕСНЯ

Лунае песня над зялёным гаем.
О светлы час,
перамагай!

* * *

Пра шчасце мне пяеш, дзяўчынанька?
Здалося, пацалунак я адчуў.
Ці голас дарагой Айчыны там?
Здалося, ласку маці я адчуў.
Ці я сустрэўся са свабодаю?
Здалося, полымя ў грудзях адчуў.
Жыццё шуміць лісцёвай одаю?
Яго бязмежнасць сёння я адчуў.

Лунай жа песняю, зялёны гай,
І ў сэрцы век не замірай!

## ВАДА З БЯРОЗАВЫМІ ЛІСТАМІ

На ветры кружацца,
У ціхім маўчанні паволі спускаюцца
Па аднаму і тысячамі
Восеньскія лісты
Струменьчыкамі,
Чародамі,
І каміны робяцца жоўтымі,
Шыбы — чырвонымі.
Мне падабаецца, і ўпэўнены — падабаецца многім
Хвіліна альбо гадзіна, дзень, а мабыць, тыдзень
Нейкая аднастайнасць,
адчайнасць,
апантанасць прыроды,—
Каб толькі бяды не было.
Так можна на нейкі час на ўсё забыцца ў завеі,
Можна дзень, можна дзесяць дзён
Жыць утрапёна ў лістападзе.

Я ў зорную ноч гляджу
Праз калыханне галін —
Зоры кружацца, як лісты серабрыстыя.
Ручаіны і студні засыпаны
Бярозавымі і кляновымі,
Асінавымі і ліповымі лістамі.
Мыюся сёння раніцай.
Вядро з лістамі бярозавымі —
Са студні сам зачарэпнуў.
Жоўты, адзін заляпіў мне левае вока,
Другі, у пражылках сініх,
Прыліп да правага вуха,
Фіялетавы, трэці, трапіў мне проста ў рот —
Лістамі бярозавымі сёння наспедаю,
Са студні вада сцюдзёная, заспаная,
З бярозавымі лістамі —
Чым яшчэ прыямнейшым можна
Восеньскай раніцай мыцца...

## ЯШЧЭ АДНА ВЯСНА

Яшчэ адна вясна
Пагрукала ўладна ў акно.
Аснежаным голлем сасна
Хмеліць мяне, як віно.
Паветра наліта
Дзівоснай сінечай.
Сыходзяцца крыгі,
Нібыта
На веча.
У вачах у адлігі —
Смяшынкі-бомы,
Пралеска ў руках —

Снежны гадзіннік знаёмы.
Дакладней за ўсе гадзіннікі
Адраджэнне сонца
Абвяшчае маленькая краска.
Ледзяшы дзінькаюць.
Напоўніла сэрца ласка.
Салодкай гаркотай сасны
І настылай смалою
Пахнуць вясновыя сны,
Поўніцца сэрца светлай журбою.
Я сам, як гадзіннік жывы,
Адлічваю час красавання.
Чую шэпт маладой муравы,
Галасы гаманлівага рання.
Прылятае ластаўка зноў,
Ад усмешак блакіт маладзее,
Цягне нітку жаўрук з палёў,
Што парваць не змаглі завеі.
Нават дыму каменнавугольнага пах
Ласкавей і радней ахінае.
У ветру паўночнага на губах
Прысмак мая.
Нібыта глушцы, такуюць заводы.
Як пчолы,
Гудуць тэлефоны, трамваі.
Хто за дзвярыма ходзіць вясёлы
Ад прахалоды?
Вясну
Я ў дзве рукі абдымаю.

# Яніс Гротс



## ЯЗДОК НА САНЯХ

Вы забярыце сабе параходы,
Рэйкі, трамваі і тлум гарадоў,
Мне ж адступіце бярозаў чароды,
Соснаў бары, санны шлях між снягоў.

Хочацца мне, праімчаўшы праз ліха
Багнаў і топяў, нібыта віхор,
Ззяць гэтай ноччу, знікаючы ціха,
Ловячы з-пад капытоў сотні зор.

Трэба прамчацца праз боль і праз гора.
Лёгка палоззе спявае, звініць.
Хай жа насустрач адвечнай прасторы
Радасць агнямі ўваччу заблішчыць.

І пад гадзінніка ход аднастайны
Хочацца ўсё адчуваць, даравань.
І зразумелым хай многае стане —
Лёгка тады у віхуры знікаць.

Хай я грахі і правіны прызнаю —
Быў я суровым ці чуйным каму,

Сонца, дажджу мне ці шмат выпадае,
Лёд гэты, снег расквітнеўся чаму?

Саннай вандроўкі апошняя радасць —
Гэтым за ўсё адарыў мяне лёс.
Што ж я гляджу заімглёным паглядам —
Мо гэта цепліцца сэрца ад слёз?

Лішняй здавалася кожная мара,
Ціха згасала, як рэха ў гадах.
Ні чалавека, ні звера не ўдарыў —
Вось ён і лёгкі, цярплівы мой шлях.

Вось ад чаго у бярэзніку лёгка
Віцца сняжынкам і доўга кружыць,
Сыпацца з белых і сініх аблокаў.
Снег на мяне, быццам кветкі, ляціць.

Бура мацнее і гурбы ўздымае.
Сані замерлі. Мароз — гадунец!
Зноў — і сляды, і вандроўка знікаюць.
Сонца, ну дзе ты?
Выдатны канец!

Вы забярыце сабе параходы,
Рэйкі, трамваі і тлум гарадоў,
Мне ж адступіце бярозаў чароды,
Соснаў бары, санны шлях між снягоў.

## ЦВІЦЕННЕ ЛЕТА

Вясна мне — сонца прывітанне!
Хмялею ад яе заўжды,
Хмялею ад рамонкаў ззяння,

Хмялеюць дрэвы і кусты
У час у гэты залаты,
У года залатое ранне.

Мая цудоўная краіна
З вадою ў студнях, як бальзам,
Тут пошчак дзіўны салаўіны
Ля ручаінкі, дзе лаза,
Мяне нібыта прывязаў
Да сэрца любае мясціны.

Дарункі ж лета раздае нам!
Яго багатыя дары.
Вятрыскі подых, нават гэта
У грудзі поўныя бяры.
І бліскавіцы, што ўгары,—
Усё чароўна і адменна.

Дабрэе свет, цвіце, красуе,
Цяплее ўсё — гара і дол,
Наўкол жыццё бурліць, пульсуе
І наліваецца наўкол.
Наеўся і напіўся вол —
Прывольна шчодрасць галасуе.

Працяг жыцця не ад рахунку
Зязюлі шэрае, калі
Запахлі, зацвілі мядункі,
Дзе роем пчолы і чмялі,
Калі ад сонца пацалунку
Наўсцяж пяшчотна ўсёй зямлі.

## ПЕСНЯ ПРА БЯРОЗЫ

Люба глядзець, як бярозы цвітуць,
Як на галінках пупышкі гайдаюць.
Ясныя сонейкі з іх прарастуць,
Зыркімі промнямі хутка зайграюць.

Люба глядзець, як бярозы цвітуць
У каташках, што з галінак звісаюць.
Люба глядзець, як бярозы растуць,
З імі расту, мне здаецца, і сам я.

Люба глядзець на бярозы, калі
Кволае, ліпкае лісцейка пырсне,
Ветрык іх ціха калыша — люлі —
Як адвячорка сінеча павісне.

Люба глядзець на бярозы, калі
Цягнуцца ў неба яны ўперагонкі,
Люба глядзець на бярозы, калі
Сонечны дождж ля іх тупае звонкі.

Люба глядзець на бярозы, калі
Лісце зялёнае і залатое,
Лета спадае на дол пад камлі,
Лета з густым і духмяным настоем.

Хутка ляцяць, аж мільгаюць гады —
Зімы ды леты, зімы ды леты,
Гэтак было, гэтак будзе заўжды,
Бесперапынна і ёсць яно гэтак.

Вось чаму ўпэўнена знаю здаўна,
Што да пары халады і марозы,
Сонца сваё расчырвоніць вясна,
Зноў зацвітуць каташкамі бярозы.

Зноў будзе лета і гэткае, што
Больш не паўторыцца ўжо аніколі,
Зноў будуць леты — і дзесяць і сто,
Тысяча летаў і будзе іх болей.

Я ж пад бярозамі лягу спачыць,
Што на пагорку стаяць, як сястрыцы,
Пэўна, і ў той, ужо вечнай, начы
Будуць бярозы любімыя сніцца.

## ПОДЫХ БУДУЧЫНІ

На зайздрасць злыдню-крумкачу
Мінулых дзён па родным краі
Я вольнай птушкаю лячу
І песню вольную складаю.

Хоць сівізна на галаве,
Хоць пражыта мной багата,
Ва мне упэўненасць жыве,
Што прыйдзе будучыні свята.

Зямля свабодная мая
Ад змрочных злыдняў, што калісьці
Сляпілі нам жыцця маяк
І не давалі з цемры выйсця.

Святлей і радасней гляджу
Сягоння я у дзень наступны,
Шчаслівы рукі натруджу
І заўтра ж буду гэткі рупны.

А вораг з'явіцца калі,
Няхай спагады не чакае,

Бяру я сілу ад зямлі,
А сэрца знойдзе, што шукае.

Жыццё натхнёнае бурліць,—
Пад сонца аж цякуць барозны.
Для шчасця мы павінны жыць
І ваяваць з пазаддзем розным.

Барозны нашы на палях
Кладуцца шырака, глыбока,
Нам яркім промнем ззяе шлях
У даль, што не акінуць вокам.

Я чую грукат цягнікоў
І чую гул пракатных станаў,
А караблі з усіх бакоў
Прасуюць грудзі акіянаў.

Хоць сівізна на галаве,
Хоць пражыта мной багата,
Ва мне упэўненасць жыве,
Што прыйдзе будучыні свята.

# Мірдза Кемпэ



## ЛАТВІЯ

Мяне ты клічаш сінімі лясамі,
Гаворкай птушак, рэчак галасамі.
Твае вясёлкі да мяне прыносіць
І свежым халадком чаруе восень,
Пакінуўшы сады на нівах, на пракосах.

Ты мне ўяўляешся галубкаю ляснoю,
Буслом руплівым над бацькоўскаю страхою.
Там мой народ жыве ласкавы, непакорны.
О, колькі ён разоў адольваў гора!
У ім — спакойны, мудры дух памораў.

Мяне гукаюць вецер твой,
твае сцяжынкі,
На могілках, за вёскай, жоўтыя пясчынкі...
О Латвія,
ты светлаю струною
Гучыш з жывымі,
з мёртвымі,
са мною!

## СЭРЦУ БЕЛАРУСІ

Слаўлю, Беларусь, цябе маладою песняй.
Сэрца тваё дужае сілаю прадвесняй.
Нібы клён — ласкавае, як бяроза — крознае,
смелае і мужнае, з ворагамі — грознае.
Ціхае і простае, як запеў бяседны,
сэрца, што заходзіцца ад бяды суседа.
Памятаю час той — на святло надзеі
мары нашы вольныя радасна ляцелі:
доля з сонцам роўная ў барацьбе здабыта
сэрцам тым, якое і маё нібыта.
Колькі ў гэтым сэрцы вернасці, спатолі.
Разам будзем вечна, ў ростані — ніколі!
Дзіўнае, праўдзівае... Я здаўна імкнуся
пад крыло сябрынае —
сэрца Беларусі!

## ВАДА, ХЛЕБ, ПАВЕТРА

У Белым возеры вада
Празрыстая. Глынеш, бывала,
І нібы выцвіла бяда,
Ад злосных спрэчак — ні сляда,
Ізноў на сэрцы светла стала.
Мяне радзіма ратавала,
Як птушку
цеплыня гнязда.

Я хлеб каштую аржаны,
І доўга пахнуць кменам губы.
А ты ў спякоту сціснеш зубы,
Але не разагнеш спіны,

Мая зямля!
Мы аднalюбы:
У нас з табою дух зямны.

Маё паветра, вецер — мой!
Я скрыль зямлі лясной, марской
Яшчэ пасыплю снегам чыстым...
Сасновых лапак дух смалісты
І сена свежага настой —
Паветра мілага дзяцінства
Нашу я ў памяці сваёй!
Як у вайну тужыла я!..
Радзіма светлая мая,
П’ю волю, я ўдыхаю волю.
І помню: ты была святой
Для тых, хто паў на ратным полі;
Была і хлебам, і вадой,
Паветрам бессмяротнай долі.

## МОЦНАЯ ДУША

Калі прыйшоў ты на падмогу
У час душэўнае трывогі,
Каб стала мне
Крыху лягчэй,
Дык будзь святлом, гары ярчэй,
Сагрэй праменнямі сваімі
І прамільгні, пяўлоўны, міма.

Калі ж ты да мяне прыйшоў
Цяжар маёй душы памножыць,
Зрабі ўсё, што зрабіць павінен,

Не абыходзь і не марудзь.
Хай доўга боль мяне трывожыць
І неадольны і няспынны —
Для духу буду панцыр куць.

## ЯК ДОБРА

Як добра, што дзень нараджэння
Твайго супаў з парой вясенняй,
Калі ўздымаецца разводдзе
І кветкам хочацца ўзыходзіць,
Калі праз пошум непагоды
Чуваць звон светлы жураўліны
І абвяшчае ветру подых:
— Зімы ліхое царства гіне!
Як добра, Ленін, што ў час гэты
Цябе мацней мы адчуваем,
Бо твой бунтарны дух над светам,
Ўсё абуджаючы, лунае.
Але мы ў дні красавіка
Цябе найбольш выразна бачым:
Віруе, крышыць лёд рака
Пад сонцам веснавым, гарачым.
Жыццё, збудзіўшыся, бруіцца,
Займае дух ад захаплення.

Ты мусіў быў на свет з'явіцца
У гэты ледаход вясенні.

## АДКАЗЫ РАЙНІСА

Скажы, што паможа,—
Спытала я,—
З болем сардэчным расстацца?
І ты адказаў: — Праца.
А што застаецца,
Калі самы блізкі твой друг адышоў?
І ты адказаў: — Любоў.
А што мне рабіць,
Калі недзе паду на гасцінцы?
І ты адказаў: — Адрадзіцца.
Магутны, маёй слабасці не здзіўляйся.
Але ці змагу я?
І ты адказаў мне: — Змагайся.

## МУЗЫКА

Якую велічную музыку я чую,
Які сусветны Бах, Бетховен усемагутны мяне чаруе,
мучыць?
Які, спавіты ў навальніцы, Шастаковіч звяртаецца
так смела да мяне?
Я слухаю, я ўсхвалявана слухаю:
У шэпце лесу Курсы ансамблі гулкія віяланчэляў,
Адказваюць ім гулам кантрабасы Балтыкі,
Ясныя галасы скрыпак латвійскіх рэк пераліваюцца
ва мне,
Гудуць альты віроў,
А нівы — бронзавыя лютні — па струнах іх калосся
Вятроў гулліва пальцы прабягаюць.
Уздымайцеся да шчасця гулкія акорды!

Сям'я птушыная ўзлятае ўвысь
Сярэбранымі пырскамі мелодый,
А ў пералётных, белых аблачынках
Чуць Моцартавых флейтаў звон.
Як гулкая труба ці як фанфара
Мяне праймае кліч далёкарэйсавага карабля.
І напаўняе мяне горад
Бразгатам сваіх літаўраў працы
І грукатам грымотных барабанаў,
Што гулка адбіваюць рытм жыцця.
А трактары, як самаходныя арганы,
Далёка ў полі пад адкрытым небам
Іграюць араторыю зямлі.
Скажы мне, велічная музыка,
Якіх чакаеш слоў,
Якіх чакаеш вершаў ад паэта?
Якім павінна інструментам быць і маё сэрца?
Я невыказнага ўсяго аркестра
Магутныя акорды чую.

## ДРЭВА ВЕЧНАЕ ЛЮБОВІ

Дрэва вечнае любові,
Дай свой цень у скварт паўдзённы,
Ноччу ззяй сузор'ем кветак,
Адлюструйся ў з'явах сонных
І шумі над цэлым светам.

Дрэва вечнае любові,
Ты заўсёды зелянееш,
Хоць бушуюць буры, сцюжа,
З незнішчальнасцю, з надзеяй,
З недасяжнасцю ты дружыш.

Дрэва вечнае любові,
Сілу, што ты нам даруеш,
Наша сэрца захавае.
Ты, народ латышскі, чуеш,
Як па-над табой спявае
Дрэва вечнае любові.

## ВЯЧЭРНЯМУ СОНЦУ

Я люблю цябе, сонца,
вячэрняе сонца.
Асядаеш наніз,
чырванееш, як медзь.
І ты робішся, сонца,
вялікім, бясконцым,
На цябе можна нават
і зблізку глядзець.
Я гляджу табе ў твар,
і ты ласкай лагодзіш.
Як пагляд твой гарэў
і высвечваўся днём!
Ён цяпер цеплынёй
у душу пераходзіць,
І праменяцца вочы
іскрыстым святлом.
Ты, вячэрняе сонца,
пяшчоту мне дорыш.
Ты, як вока сусвету,
спытала мяне:
— Як жывеш, што зрабіла
і што яшчэ зробіш?
Я шчаслівa маўчу,
нібы ў сне.

Ты магутнае,
сонца вячэрняе, знаю.
Спачываць могуць сіла
і слабасць мая.
Заўтра шлях свой жыццёвы
ты зноў пачынаеш..
І на золку з табою
сустрэнуся я.

## БЕСКАЗЫРКА МАРАКА

Твая бесказырка дагэтуль са мной,
Мой брат, мой саколе!
Гады, праляцеўшы, не сцёрлі на ёй
След поту і горкае солі.
Яе пасылаў ты ў блакіт над кармой,
Дзе вецер гарачы сваволіў,
І топкі гулі, як прыбой,
І дыхалі парам катлы пад табой,
Ты ж гімн напяваў мімаволі,
Мой брат, мой саколе!
Вясёлы, як вольныя хвалі,
Ты верыў сябрам і ніколі
Без дружбы пражыць бы не здолеў,—
І братам сябры цябе звалі.
Ты з полымя бою іскрой
Узвіўся, згарэў над зямлёй,
Мой брат, мой саколе!
Тваю бесказырку трымаю ў руках,
На стужкі гляджу ў якарах,
На след гаркаватае солі
І думаю аб змагарах
За лёс наш, за шчасце і волю.

Я веру: не мёртвым ты спіш —
Нязгаснай іскрою гарыш,
Саколе!

## ЯК ХОРАША...

Як хораша, калі згубіў ілжывае!
Цябе пакрыўдзіць болей немагчыма ўжо.
Не з просьбаю глядзіш ты ў вочы — з радасцю...
А хтосьці зберагае несапраўднае,
Каб шчасце не разбіць — адзіны клопат,
Катуе палахліўцаў ён, як допыт.

А ты жывеш, ад іх пагляд адводзіш,
Хлусню губляеш, а сябе знаходзіш.

# Андрэйс Баладзіс



## КАМУНІСТ

Камуніст не той, што ў грудзі б'е,
І не той, што зверху пазірае,
Што былых сяброў не пазнае,
Што заўжды кагосьці дакарае.

Не, жыццё на месцы не стаіць:
Новае расце, старое гіне.
Той не многа здолее зрабіць,
Хто не дбае аб сваёй краіне.

Хто пад ветрам гнецца і дрыжыць,
Хто блукае торнаю дарогай,
Можа нават сто гадоў пражыць,
Не зрабіўшы на зямлі нічога.

І калі душою ты пусты,
Пры жыцці цябе народ забудзе,
А пачнеш гарэць, як зорка, ты —
За табой заўсёды пойдуць людзі.

Камуніст выходзіць першы ў бой,
Шчыры, цвёрды, нібы сталь, заўсёды.
Ён вядзе да шчасця за сабой
Партыяй з'яднаныя народы.

## РАДЗІМА

Была мая радзіма
Акругай невялікай —
Ні рук табе раскінуць,
Ні ўволю нахадзіцца.
У берагах у вузкіх
Жыццё маё марнела,
І толькі думка-песня
Удалячынь імкнула.
І вось радзімы межы
Рассунуты шырока —
Да акіянаў бурных,
Да стэпаў неабсяжных.
Сябры, вялікі дзякуй,
Браты, вялікі дзякуй
За тое, што далі вы
Ўздыхнуць мне на ўсе грудзі.
Савецкая радзіма,
Люблю цябе я шчыра
Біццём нястомным сэрца,
Крыві апошняй кропляй.
Народжаную ў бітвах,
З'яднаную у працы,
Цябе народы славяць,
Цябе яны шануюць.
Ты мне падаравала,
Радзіма дарагая,
І нашых мэтаў веліч,
І шмат сяброў адданых.
Калі спяваю ў Рызе,
Ў Маскве мой голас чуюць,
Калі ў Маскве спяваю,
Ўвесь свет вялікі чуе!

## БАЛАДА ПРА МАТУЛЮ

Фронт сына першага ў матулі
Забраў,— без літасці вайна!
У лоб, прабіты злою куляй,
Не пацалуе больш яна.

У партызанскую брыгаду
Тады другі панёс свой гнеў.
Ды неяк трапіў у засаду
І ў доме з хлопцамі згарэў.

А трэці сын, яшчэ падлетак,
Такі прыгожы, слаўны быў.
Цягнуўся к сонцу, нібы кветка,
Матулі сэрца весяліў.

Ды кветку тую растапталі,
Скасілі востраю касой,—
Яго заложнікам забралі
І расстралялі раніцой...

Яна з сынком праводзіць ночы,
Грудзьмі магільны грэе прах.
Глядзяць яе няўцямна вочы,
І сэрца напаўняе жах.

«Мой хлопчык,— шэпча,
— ўстань, прачніся!
Жыццё ў цябе ўдыхнуць хачу!
На голас матчын адгукніся,—
І над зямлёй яго ўзнясу!

Я дзёран падыму з магілы,
Ідзі ж сюды, сынок, хутчэй!
Я цемру чорную, мой мілы,
З чысцюткіх прагаю вачэй!»

У дождж, у сцюжу, ў замець злую
Сюды сляды яе вялі,
Пакуль нарэшце і самую
Ля сына мёртвай не знайшлі.

## Я ЎГЛЯДАЮСЯ Ў ЖЫЦЦЁ

Наіўнасць я прэч праганяю,
Ўглядаюся пільна ў людзей.
Няўжо пад блакітам бяскрайнім
Ўсё шляхам ранейшым ідзе?

У нетры зямныя, ў глыбіні,
Ў душу не пранікнуць ніяк
Таму, чыё сэрца няспынна
Грызе славалюбства чарвяк.

Такога вось чын ап'яняе
І гонар, захоплены ім.
Ён смешным падчас выглядае,
Часцей жа за ўсё — дык тупым.

Пагладзь жа яго супроць шэрсці,—
Пакажа ашчэр ён зубоў:
Ў імя справядлівасці знесці
Тваю галаву ён гатоў.

Наіўнасць я прэч праганяю.
Я кветкавы ведаю лёс:
Хоць сонца яе сагравае,
Ды потым знішчае мароз.

Вось гэты — свяцейшай любові
Ён здрадзіць для шчасця свайго.

Заняты ён толькі сабою,
Хоць выгляд прыстойны ў яго.

А гэты — у дружбе клянецца,
Клянецца бясконца любіць.
Хаваць жа цябе давядзецца —
Са смакам віно будзе піць...

Наіўнасць я прэч праганяю,
Я знаю: дзе зло, дзе дабро.
Пад ясным блакітам вітаю
Я новых, сапраўдных сяброў.

## ЖАР-ПТУШКА

Мяне і ўночы верш шукае
І не дае адпачываць,
Падняцца з ложка прымушае,
Каб мог яго занатаваць.

Яшчэ у словах — прадчуванне
Таго, што парастку дасць ход.
Якім жа выдасца світанне,
Як запалае сонца ўсход?

Кляну сябе... і вельмі рады,
Калі схаплю я за крыло
Такое слова, што уладна б
Верш за сабою павяло.

Не выпусціць жар-птушкі б толькі!
Калі яна куды зляціць,
Пагасне ззянне яснай зоркі
І больш не будзе ўсім свяціць.

## КАХАННЕ

Якім ты быць павінна
І чым ты быць змагло?
Успышкай на хвіліну?
Нягаснучым святлом?

Як ноч, чарнееш гэтак,
Схаваўшы воблік свой?
Ці ты — дыханне кветак
Вясноваю парой?..

Маланка на світанні
Сасну спаліла ўраз...
Бяздумнае каханне
Спаліць так можа нас.

Кахання сок салодкі
Прыгубіць толькі той,
Хто шчасця міг кароткі
Акропіць і слязой.

Дае каханне сілу;
Пульсуе кроў часцей...
І парастак пахілы
Пад ласкай зацвіце.

— Якое ты каханне,—
Пытаем часта мы,—
Ці зорак яркіх ззянне,
Ці змрок глухой турмы?

## ВЕРШ

Мяне верш гэты перажыць павінен,
Ён не сатлее ў забыцці пяску.
А думка, што ў маёй душы даспела,
Як зерне, будзе спачываць стагоддзі,
Пакуль у нейчым, мне сугучным, сэрцы.
Пачне зноў зелянець і красавацца.

Магілы сцішаны пад глыбамі нямымі,
Шумяць над імі, нібы хвалі, плыні часу.
Нарэшце дня святло ўздымае цяжкі камень
І адкрывае іх для ветру і для сонца.
Расою свежы ранак іх акропіць,
Дождж жыццядайны з воблакаў пральецца.

Ці зноўку пылу суджана падняцца,
Каб адрадзіцца ў палымненні новых гукаў?
Не адкажу я вам на гэтае пытанне,
Яго мне існасць зразумець нялёгка.
З пяску вось бліснуў чарапок даўнейшай вазы,
Хай так зіхціць і верш праз год напластаванні!

## ЗБАН І ПАЭЗІЯ

Як песня, збан матулін
З дзяцінства мне запомніўся.
Глынуць бы раз адтуль мне —
Я сілаю б напоўніўся!

Пітвом ён быў выдатны,
І сам быў — рэч выдатная:
Такі бліскучы, статны,
Нібы страфа дакладная.

Звінець твой верш павінен,
Як збан, такімі гукамі,
Калі яго падымем
І пальцамі пастукаем.

Звон чысты — не збракуеш,—
Не размінешся з песняю.
Як продкаў збан, такую
Нясі ў душы паэзію!

# Пэтэрыс Сілс



## СЭРЦУ

> Усё зможаш,
> Калі любіш сонца, волю, вясну.
>
> *Ян Судрабкалнс*

Сэрца, не праганяй
Усмешку, не праганяй,
Калі нейкі шрам баліць,
Калі слёзы хочацца ліць,
Боль свой цярпі з усмешкай.

Сэрца, не праганяй,
Радасць, не праганяй.
Хоць часам бяда гняце,
Чало захмарвае цень,
Ды пераможа радасць.

Сэрца, ўсміхніся,
Шчасцем заззяй, засвяціся.
Радасцю поўніцца дом,
Дарога ідзе на пад'ём
Насустрач сонцу.

## РУЖОВЫ КУСТ

Марозны дзень зімовы.
Без кветак, як без слова,
Здаецца сад пустым.

Дзіўлюся на цябе я:
Пад снежнай коўдрай белай
Спіш, як і ўсе кусты.

У тэрмін доўг свой летні
Вярнуў ты роднай глебе
Багаццем залатым.

У сцюжы і ў мяцеліцы
Красу вясны ты спеліш,—
Сок бродзіць, не застыў.

Не век ты будзеш голы.
Вясной засведчаць пчолы,
Што распусціўся ты.

І я жыву надзеяй:
Вясна мой сум развее,
Растопіць сэрца стынь.

## ІНЕЙ

Учора іней быў на соснах і таполях,
А сёння ён блішчыць на скронях у мяне.
Ды гэта не бяда! Я клапачуся болей
Аб тым, каб не змагло і сэрца заінець.

## ЖМЕНЯ ВЕРАСУ

Шумяць над галавой сасонкі голлем ветла,
Ганюся, як за сарнай, я за летам.

Квітнее верас на зацішных схілах.
Нарву я жменю кветак гэтых сініх,
Як дым густы асенняга пажару
Ці водбліск цьмяны ранішняй зары.

Падкажа сэрца мне, каму іх падарыць,—
Дзяўчына ёсць, падобная на сарну,
З касою светлай колеру пшаніцы,
З паглядам чыстым, як вада крыніцы.
Магчыма, «дзякуй!» скажа мне яна,
Дарунак прыме мой як дружбы знак,
А можа, прамаўчыць, пачырванее...
Хаця б і так.
Ці ж мне чакаць падзяк?
Пачуццям слоў не трэба, і бывае,
Што моўчкі сэрца з сэрцам размаўляе.
...І з гэтым верасам зраблю я так.

## АДКАЗЫ

Што даў Радзіме ты, каваль руплівы?
— Сякеры я і лемяшы каваў,
Якія працавалі зіхатліва.

Што даў Радзіме ты, араты дбайны?
— Дзе я пшаніцай поле засяваў,
Звінелі каласы, як спеў цымбальны.

Што даў Радзіме, воін са шрамамі?
— Я кроў за край наш родны праліваў,
Каб неба мірнае было над намі.

А ты што даў, на плошчы пахаваны?
— Сваё я сэрца барацьбе аддаў,
А сам паданнем стаў, ушанаваны.

## РУЖОВАЯ ЦЁТКА І ІНВАЛІД

«Горкае ты, жыццё, злое...» —
Гэткую дзікую думку
Чую ад цёткі ружовай,
Што цягне цяжкую сумку,

Лаецца без прычыны:
— Згінуць нам з гэткае мукі...
— Дайце падсоблю,— мужчына
Тут падышоў аднарукі.

Пры медалях быў мужчына,
У гімнасцёрцы вайсковай.
Сумку падняў і чынна
З цёткай ідзе ружовай.

Кажа: — Жыццё — не суконка
Ды і не пернік салодкі,—
Морам здаецца бясконцым,
Лугам квяцістым, шырокім.

Кажаш: «Лепей памерці»,
Не падабаюцца людзі?
Хто глянуў у вочы смерці,—
Клікаць яе не будзе.

## ЗВІНІ, ПЕСНЯ

Ой вы, горы, ой, даліны,
Поле, бор, квяцісты луг!
Мы змаглі нарэшце скінуць
Цемры векавы ланцуг.

Цераз рэкі і азёры
Узняла вясёлка мост.
Славіць родныя прасторы
Сонца ўстала на ўвесь рост.

І не полымя шугае
Над вяршыняю гары,—
Наша песня агнявая,
Сцяг чырвоны наш гарыць!

Сэрца радасна грукоча.
Песня вольная, звіні!
Жыць па-новаму мы хочам,
Сонца ззяе ў вышыні.

## ТРЫ ДУМКІ

Узнікла думка — лёгкі подых ветру,
Што твар мілуе цёплай весняй песняй:
«Каханне, як святло світання, песціць».
Даспела думка — цяжкі жытні колас,
Што, голаў хілячы, вітае ранне:
«Як горкі боль, каханне сэрца раніць».
Мільгнула думка — хуткая маланка,
Што цемру ночы смела рассякае:
«Шчаслівы той, хто ўсёй душой кахае».

# Валдзіс Лукс



## ШКАДАВАННІ

Відаць, ад розуму тупога,
як у склеротыка якога,
марудна і лянотна б'ецца
размяклае, як з воску, сэрца,
што, нібыта канава ўвосень,
у шкадаваннях разлілося.

Убачыць п'яніцу, якому ў лужу легчы рупіць,—
шкада.
Убачыць брахуна, які ваду таўчэ у ступе,—
шкада.
Убачыць злодзея, што лезе у кішэнь чужую,—
шкада.
Убачыць дзеяча, які з пагардаю кіруе,—
шкада.

Шкада ўсё і шкада.

А рукавы каб закасаць —
сябе шкада.

## ПРА КАХАННЕ

Калі б я пачаў пра каханне...
Сказалі б вы: «Гэта ж — кашмары!
Напэўна, няшчаснага хтосьці
па галаве вельмі моцна ўдарыў!»

Калі б я пачаў яе славіць:
«Колькі у ёй прыгажосці,
колькі святла і пяшчоты,—
неапісальнае штосьці!»

Сказалі б вы: «Кепскія справы!
Гэта — з хвароб небяспечных,
якія чапляюцца толькі
да дзівакоў невылечных!»

А я ўсё сваё: «Усміхнецца —
і радасна мне і млосна,
мяне саграване ласка
сонечна-кветкавых вёснаў».

Сказалі б вы: «Паглядзіце,
якія вар'яцкія рэйды!
Яго ўжо цяпер не ўратуюць
нават разумныя фрэйды...»

Я зноў за сваё: «Ах, пакуты,
нечалавечыя мукі!
Калі яна міма пройдзе,
дрыжаць пачынаюць рукі...»

Сказалі б вы: «Пэўна, не варта
словам тваім пярэчыць,—
ёсць навізна ў іх і праўда,
але ж твой узрост — старэчы!»

Адзін Вацыецiс сказаў бы:
«Ты што? Пра каханне, стары?
У семдзесят год? Дай руку мне!
З табой мы навечна сябры!»

## ЛАСКА

У крыві я водар адчуваю
I зямлі i мяты з медуніцай.
I трава з пакосаў лугавая
Скача ў сэрца, як лісіца.
Фыркаю, нібы калючы вожык,
I на ногі наракаю.
Што яны
Да кветак
Літасці не знаюць.
I пясок нішчымны Курземе дыміцца,
Лезе ў грудзі,
Мо таму мяне
Штовосені сініцы,
Стукаючы ў шыбы,
Будзяць.
Мо таму вавёрка
Паўз мяне не мільгане
Пушком рудым,
А заўсёды сядзе
На плячы маім.
Квітней жа,
Таварыш зямля,
Каб звон жаўрука
Сонцам пераліваўся
I абвяшчаў нам вясну.

## СУМНЫ МАНАЛОГ

Так, так, так... Ты гаворыш!
Стары Уга, гаворыш, учора памёр?
Здараецца!
Кожнаму адзін век адмераны!
Уга, гаворыш...

Чакай, чакай,
Мы разам з ім Георгія ля Перамышля атрымалі,
Добры чалавек,
Таварыш добры.
Ён не любіў плявузгаць,
І не быў бяздушным,
І да работы
Быў заўжды ахвочы.
Потым у стралкі падаўся,
Праганяў паноў.

І ты гаворыш,
Ён памёр учора?
Вядома, шкада!
Ды што парадзіш?

Гады́, як сабакі
Ці калючкі,
За штаны чапляюцца,
Сляпнямі прыстаюць да твару,
Як п'яўкі...
Ды што казаць!
Памёр,
Пакінуў нас.
І нам свой час настане.
Такі ўжо гэты свет,
І ўсё ж шкада Угу.
Шкада.

## НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Сэрца вытрымала,
Сэрца вытрымала бухенвальды, саласпілсы.
Сэрца вытрымала кулакі, нагайкі эсэсаўцаў.
Сэрца вытрымала і вар'яцкія сцюжу і голад,
Сэрца вытрымала ўсё...

І раптам —
Ласку чулых рук,
Цяпло чулых вачэй,
Чулых слоў
Не змагло сэрца вытрымаць.

Цішэй —
Дайце адпачыць сэрцу!
Цішэй!

## ПРА ЗОРКІ

У мяне свая ёсць зорка —
Такая зыркая,
Што аж вочы рэжа.
Толькі вось шкада, не знаю,
Як завецца.
(У нябесных справах я
Прафан бязмерны.)
А шкада...

Толькі змрок пачне згушчацца,
Чорным тварам ноч прытуліцца да вокан,
Як мая прыходзіць зорка.
— Добры вечар,— мне гаворыць.
— Ну?

Ну, а мне што адказаць ёй?
Што не ўсё зрабіў як трэба?
Што шмат слоў яшчэ
Заношаных, пацёртых?
Што і думкі
Зарываліся ў пясок,
Як камбала,
Каб схавацца
Непрыкметна?
Ну, пра што мне расказаць?

Ведаю,
Што мне так гаварыць не варта.
Калі б людзі гэта чулі,
Асудзілі б:
— Бачыш, які ён пераборлівы.—
Сказалі б:
— Чаго ныеш?!
Лепш рабі! —
Яны сказалі б.

І яны ўсе мелі б слушнасць,
Бо доўг сам сабой не знікне.

А там мая зорка
І да суседа зойдзе.
Вельмі добра!
Да світання
Яшчэ часу шмат.

## БУДЗЬ ДОБРЫМ

Адну ўсе песню завялі:
Расці ды развівайся ўдала!

А што рабіць табе, калі
Культурных гэтых генаў мала.

Іх адчуваем недахоп,
Хоць ты шукай у пекле дзесьці.

Глыбокадумна моршчыш лоб
І топчашся на тым жа месцы.

А за табой услед ляціць:
— Ну, калі ласка, не ўпірайся!

Будзь добры, і хутчэй расці,
І развівайся!

## САЛДАЦКАЯ КОНАЎКА

Ты,
        сяброўка дзён маіх салдацкіх,
Пацямнела, конаўка, ў баях.
Ты ў сабе змясціла кроплі поту,
Чорны снег,
                        вады балотнай пах.

Што ты скажаш мне,
                                        калі аднойчы
Прыйдзе мір дарогай франтавой?
Рыжая бляшанка, давялося
Пераждыць нямала нам з табой.

Ведаеш мае на памяць песні —
Боль і соль турбот маіх цяжкіх.

Па імёнах,
нават па паходцы
Пазнаеш таварышаў маіх.

Баявая, верная сяброўка!
У цябе са мной агульны лёс —
Мы людскую праганяем смагу;
Ўсё да кроплі
людзям я прынёс.

Пра сябе саміх мы забываем,
Ці ж пра гэта сёння гаварыць?
Шмат прайсці нам суджана,
каб сонцу
Брамы урачыстыя адкрыць!

На шляху — грымучыя завалы,
Цені следам гоняцца ўначы.
Выстаім, адолеем!
Для шчасця
Трэба нам адно — перамагчы!

## Аляксандрс Чакс



### ПРЫРОДА

І аднойчы летам,
Калі сэрца маё стала дзіўнае,
Я пайшоў у вёску.

Цэлымі днямі
Блукаў я па лясах і лугах,
Піў з лужын,
Еў чарніцы,
І падэшвы мае сталі тоўстымі,
Як тая кара дубовая.

А аднойчы,
Калі я, ўлегшыся на траве,
Назіраў, як вецер тчэ аблачынку ў блакіце,
Да мяне падышоў стары чалавек
З лапатаю на плячы.

Пачуўшы маё дзіўнае сэрца,
Ён сказаў:
— Сын, хадзем са мной,
Чакае нас праца.—
І яго словы здзьмулі пух з дзьмухаўцоў.

Такім чынам
Я ўвесь канец таго лета
Працаваў глыбока ў лесе,
Капаючы ўпадзіны для вод.
І цяпер?
Цяпер я зноў у горадзе,
Я стаю пасярод бульвара
І ўсміхаюся,
Таму што нічога мяне не хвалюе.
Мне могуць навязацца публічная жанчына
Ці мітуслівы гандляр,
Мяне можа штурхнуць прахожы,
вулічны хлопчык ці джэнтльмен,

Мяне могуць забрудзіць трамвай і аўто,—
Мне ўсё адно.

Усё лета я спаў на імху,
Лашчыў карэнне,
Расказваў казкі грыбам
І збіраў расу з лісця.

Усё лета месяц ткаў золата для маіх вачэй.
І вечнасць
Ляжала на маім ілбе, быццам ліст.

Яшчэ цяпер
Мае пальцы пахнуць мёдам,
У сэрцы, як зярняткі ў яблыку, ляжыць спакой,
А ў мозгу гайдаюцца туманы азёр і водар поўдня.

## У КРАМЛІ Ў ЛЕНІНА

Германскі пасол Мірбах забіты...
Ляжыць, бы цяжкое, поўнае яду дыханне,
У раскошнай труне пасярод пасольства.
Мігаюць свечкі.
Прыцемак.
Пахі ўюцца.
Твары немцаў застылі ва ўсмешцы:
— Добра зроблена. Узаменададзена блюда;
Украіна на ім ляжыць, як дыня.
Да бальшавікоў дабяромся нарэшце.—
Пацірае здаволена рукі Блюмкін,
Левы эсэр, здраднік, забойца.

Горад трывогай наскрозь працяты,
Вежы старыя нема крычаць, як дзятлы.
Усё ў тумане, як мора ўранні.
Голаў узняў эсэр, працоўных вораг,
Што, скачучы сам у бездань смерці,
Хоча Расію ўсю пацягнуць за сабою.

Яраслаўль увесь у полымі лютым:
Белагвардзейцы рыхтуюць сабе там гібель;
Вогненны круг надзеты ім на загрывак,
Наўкола сціскаецца пояс куль пякучых.

Іх змрочныя трупы, трупы злачынцаў,
Вялікая Волга прымае з гнеўным тварам.
На кожным рагу, на базарах і плошчах,
Паміж салдатамі ў казармах
Пранырліва шныраюць, як таракапы,
Паслугачы эсэраў і немцаў,
Ім дагаджаюць. Кроў і варожасць
Віном салодкай хлусні падпойваюць:
— Далоў! Мы павінны паўстаць! Выходзьце!

Ружжо хай прадоўжыць нашы рукі,
Ружжо хай пазбавіць нас ад мукі.
Поўная іскраў, бурчыць зямля руская.
А наша праца? Яна гарыць, як ватоўка.
Будзем мядзведзямі, будзем ваўкамі шпаркімі,
Тымі, хто сёння Маскву ірвуць, як аленя.

Узначальвае здраднікаў Папоў, манюка.
Са штабам сваім заняў асабняк шыкоўны,
Пабудаваны калісь багачом Марозавым
У завулку Трох святых над ракою.

Войска, сабранае з рознай набрыдзі,
Выходзіць вобмацкам на бліжэйшыя вуліцы,
Квартал за кварталам кідаючы, як ягаду,
На свой язык, прагавіты, развязны:
— Вось... Ты, каго смокча яшчэ п'яўка сумнення,
Рабіся сокалам, што ад мышы п'янее!.. —

Крэмль грозіць, як поўны сілы кулак.
Поўнач.
Месяц — гарбузова луста.
Аблокі — воўна белага барана —
Рассыпаны прыгаршчамі ў сінім небе.
Латышскія стралкі спяваюць песні Ліга —
Янавай ночы, купалля.
Водар хоць чэрпай рукою.
Вянкі на плячах, і ў сэрцах смутак.

Па доўгім калідоры Крамля без слоў
Крочаць двое. Камендант і побач —
Палкоўнік стралкоў. Падобны больш на аратага:
Невысокага росту, з шырокім, грузным станам.
Крочаць, ледзь дакранаючыся да дывана нагамі.
Лямпа адкідвае цьмяны водсвет —
Куст ружы, што слаба ў кутках галініцца.

Твар бледны, выразны, суроваю воляй узняты.
Сіла ў руцэ, пальцы ў кулак сцяты.
Вочы глядзяць проста ў прастору.
Не месца тут дробязнаму і пустому.
Паварот. Яшчэ. Маленькія дзверы наперадзе.
Вартавы выцягнуўся, як струна,
Робіць ружжом узмах плаўны.
Камендант:
— Ён тут. Прашу, уваходзьце! —
Адчыняе дзверы і першым крочыць
У пакой, дзе працуе таварыш Ленін:
— Прабачце, Уладзімір Ільіч, вось таварыш
Палкоўнік, якога вы загадалі паклікаць.—

Ленін хутка галаву ўздымае.
Кладзе пяро. Усмешка ў вачах жывая.
Свеціцца твар, зусім удзень бадзёры.
Стаіць перад ім палкоўнік, як камень цвёрды.
Бяры яго толькі, каб шпурнуць наводмаш
Любому ворагу ў твар. Ацэньвае Ленін
Амаль імгненна, так, як ламаюцца кедры,
Пытае пра становішча і пра палкі.
Цішыня. Палкоўнік рашуча абдумвае думку,
У мозг, нібыта ў сваю салдацкую сумку,
Ён пагружаецца, затаіўшы глыбока дыханне.

Спакойны ў Леніна твар.
Ён рукі
Пальцамі сплёў. Стан наперад
Злёгку падаўся — бы страла ў палёце,
Спружына, што ўраз абаўе прастору,
Вецер, што вырвецца і зямлю абдыме.

Здаецца, усю Расію сягоння
Уздоўж і поперак прайшоў ён, зоркі,
Здаецца, кожную дробязь заўважыў,

Седзячы тут за сталом рабочым,
У шахты спусціўся.
                    На караблі плыў па моры,
Вадзіў паравозы і ўдзельнічаў ў бітве,
Араў аблогу і ратаваў людзей.

Убачыў і зразумеў, што патрэбна.
Ведае добра, дзе слёзы пакутна глытаюць,
Ведае, дзе галодныя верацъ і не паміраюць,
Ведае, дзе праклінаюць, дзе прадаюць і дзе ваююць.
Здаецца, усю Маскву абышоў
Ён сёння павольным, ціхім крокам,
Нябачны, як водар, як паветра,
Але прысутны ў кожным імгненні і слове,
У кожнай ўсмешцы ў адказ і ў цяжкай працы,
Рукі цісвуў, у сэрца заглядваў,
Усё знайшоў і ў сябе ўвабраў.

Здаецца, вось зараз ён з усмешкай ціхай
Пранікае ў палкоўніка, у самую яго сутнасць,
Трывожыць яе, узнімае і ставіць на месца
Для бітвы, для перамогі, для бессмяроцця.

Кіпяць усе справы ў яго галаве.
Падзеі ўзлятаюць і ў мозгу садзяцца,
Як птушкі, вялікія, пунсовыя птушкі.
Мінулае ў змроку сваім стаіць яснае,
Не тоіць свайго сапраўднага ззяння,
Свайго чарадзейства і багацця,
Што ў водбліску год, якія наступяць.

Быццам нябачная, дзіўная рука,
Што, нібы прамень усёпранікальны,
Ператварае імклівы паток жыцця
У вялікую кроплю, светлую кроплю расы,
Каб стала магчыма разгледзець яе жывым вокам.

І кладзе яе ціха Леніну на далонь.
— Таварыш Ленін, дайце мне дзве гадзіны,
Дзве гадзіны часу, і я вызначу момант,
Калі будуць здраднікі разбіты,—
Адказвае палкоўнік з пачуццём глыбокім.
У знак згоды галаву нахіляе Ленін.
На вуснах усмешка, бліпчаць весела мудрыя вочы.
Устае.
Махае прыветліва ўслед салдату.

Развітанне.
Дзверы.
Калідор і белая
Янава ноч. Малако разліта па вуліцах,
На плошчах, на сценах дамоў па самыя стрэхі.
Ні выпіць яго, ні сцерці яго немагчыма.
Таропка камандзір нырае ў белы туман —
Як пушынка ў вялізную белую кветку.

Дзве гадзіны.
Каля таго ж стала
Палкоўнік зноў.
У Леніна выгляд больш стомлены.
Ці не прайшоў ён за камандзірам
След у след? Ці не даў яму сілу,
Вастрыню зроку і сваю адвагу?
Напэўна, даў.
Дзейны, поўны перакананасці,
Гаворыць палкоўнік — голас выразна чысты:
— Я аб'ехаў увесь фронт.
Моцныя мае воіны. Латышскі стралок
Узнімецца ў бой, спяваючы родную песню,
Побач са сваімі таварышамі — масквічамі,
Арлоўскімі чырвонагвардзейцамі, ваеннымі школамі,
Маракамі і атрадам металістаў.
Як адзін яны вераць вам, таварыш Ленін,

Вашай партыі і вашай уладзе,
Якія сталі, таварыш Ленін, і нашымі.
Малы латышскі народ і яго сын-стралок
Могуць жыць і дыхаць сваёю зямлёю
Толькі тады, калі ўлада будзе Савецкай,—
Яе вораг — наш вораг таксама.

Заўтра ў дванаццаць, таварыш Ленін,
Я далажу вам аб перамозе.—

Ленін устае і працягвае руку
Палкоўніку — верыць у перамогу цвёрда.

## КВІТНЕЙ, НАША РЭСПУБЛІКА!

Ясным позіркам з узгорка
Край акінь свой на світанні,
Калі дрэмле з сваёй песняй
Нават жаваранак ранні.

Ты пачуеш голас вёсак,
Скрып дзвярэй у хаце кожнай
І яшчэ пачуеш крокі —
Ад парога і да пожні.

На лугі касцы выходзяць...
Сотні, тысячы ці болей?
Перазвон пякучы косаў
Запаўняе наваколле.

Прагнай сілы поўны плечы,
Ззяюць твары іх, як росы,
Калі іх каса нястомна
Гоніць роўныя пракосы.

Аддаюць сябе краіне,
Што здабыта ў бітвах мужных.
Хочуць быць яе апорай,
Яе несці ў руках дужых.

Аддаюць сябе зямлі той,
Што здабыў іх пот зацяты,
Каб тут вечна гаспадарыў
Касец, сейбіт ды араты.

Наша кроў — зямля жывая,
Яе слава, яе воля.
І такіх людзей, як нашы,
Няма ў цэлым свеце болей.

На гару ўзніміся, слухай
Гул магутны, шматслаёвы,
Ён раскажа твайму сэрцу
Болей, чым любыя словы.

Гэта гул вялікай працы.
То рабочы новы сёння
Прымушае ток і печы
Дыхаць у яго далоні.

Гэта гул жыццёвай бітвы,
На якую йшоў рабочы
То са свердзелам, то з куляй,
Прасціраў далонь скрозь ночы.

І працоўнае змаганне
Правядзе ён, як і тыя,
І пакажа ўсяму свету
Шляхі новыя крутыя.

У час мірнага стварэння
І ў трывожную гадзіну
Сваёй працай ахавае
Ён Саветы і Радзіму.

Ён заўсёды ішоў першы,
Яго ў бой вяла надзея,
І зямля, нібы ва ўлонні,
У яго руках квітнее.

Ты квітней, наша Рэспубліка!
З самім шчасцем побач ходзіш,
Пакладзі на плечы сонца,
Пракапай глыбей калодзеж!

Узыдзі на ўзгорак рана,
Як дзень стане загарацца,
Каб пачуць і ўбачыць край свой,
Калі ён ідзе на працу.

## ПАДВАЛ

Я ўсёй душою ненавідзеў слепа
Паныласць і сырую цемру склепа,
Якая пад зямлёй, пад тоўстым мурам
Шасці паверхаў крыецца панура.
Там ноччу плакалі і сохлі дровы,
Пясок таміўся ў плесені нутробы,
Пішчалі пацукі, і з труб паныла,
Паблісваючы, ў рыжы пух апілак,
Нібыта ў бездань, капалі і топлі,
Як выдых цемрадзі, глухія кроплі,
У чорным мораку, нібыта ў багне,
Перацінала гніласцю дыханне,
І лезлі ўгору з выстылай вантробы
Шчарбатыя прыступкі, як хваробы.
Цяпер жа цісну я руку падвалу
За вернасць у гадзіны злога шалу.

Калі з гайнёй сабачай паліцаі,
Як хвалі смерці, Рыгу акілзалі,
Каб у няволю гнаць, ты, сутарэнне,
Мяне схавала, як зямля насенне.
Зацёрся я ў глухіх падвальных спратах,
Як парушынка ў шве старых апратак;
Каб неўзабаве на святло падняцца
За мукі і за ганьбу паквітацца.
Жыцця такая прага апантала,
Што я нырнуў у чорны вір падвала.
Апілкі і пясок у змрочнай цемры
Надзейна водгук маіх крокаў сцерлі.
Там у кастры паленняў, нібы ў лоне,
Я засланіўся ад усіх далоняй.
Душа прагоркла, як палын, і цела
Сярод сасновых дроў смалой зжаўцела.
Мышынай накрываўся пацярухай.
Шаптала ноч пра мужнасць мне на вуха.
Пад галавой кашлатае палена
Увесь час пахла соладка, як сена.
Цёк халадок ласкавы у паветры.
Калі ж чужы спускаўся ў склепа нетры,
У вочы зыркаў змрок халодным жарам,
І бег упрочкі злыдзень, і дрыжаў ён.
Табе, падвале, ўдзячны я да скону
Як мацярынскаму цяплу і лону!
Як думку ў галаве, мяне крыў морак.
З табою зліўся я, бы кропля з морам.
Ты мой калчан, стручок, маё адзенне.
Ты мой адчай, надзея, летуценне.
Я зноў хаджу па вуліцах свабодна.
Гляджу на сонца, дыхаю вальготна.
І думкі, бы шпакі, ужо ў палёце.
З рукамі, з галавою я ў рабоце.
А ты, падвал, схаваў у сутарэнні
Пра вечнасць мары і к дабру імкненні.

## АГОНІЯ

Каля рэстарана шыкарнага ўчора ў рамізніка здохла кабыла.
На брудным снезе ляжала яна між аглобляў, нібыта на ложку з карычневай пенай на храпе,— здавалася, піва піла.
Рамізнік жывёлу бязлітасна пугай сцябаў і нагою шпыняў, каб устала хутчэй і саліднага пана завезла ў клуб.
А пан той губу адкапыліў капрызна, гразіў заплаціць палавіну.
Кабыла ляжала абмякла, нібы пасля ласкі жанчына, і толькі бакі ліхаманкава хутка хадзілі, як шчэлепы ў рыбы на сушы.
Рамізнік за хвост ухапіўся і тую кабылу крыху прыпадняў.
Абурана бабы навокал кляліся, дзятва рагатала, мужчыны давалі парады.
Кабыла між тым спруцянела, і маленькаю лужынкаю на панелі на снезе дыханне замерзла.
Тады падышоў паліцэйскі, паслаў па дзяругу і сані — каб падла прыбраць.
Пасля закрычаў: «Разыдзіся!» — і горда вярнуўся на пост.
Каля рэстарана шыкарнага ўчора ў рамізніка здохла кабыла.

## У ТРАМВАІ

Спаднічку
задраў
за калені
вачыма.

Паненка насупраць сядзела
халодная,
быццам трамвайныя поручні
пры дваццаціпяціградуснай сцюжы.

Ах, панька-паненка,
каб ведалі вы,
што сэрца ў маіх грудзях
стукоча-грукоча,
як вашыя тонкія пальцы
па клавіятуры машынкі «Рояль»,
адстукваючы цыркуляры міністра.

Паненка насупраць сядзела
халодная,
быццам трамвайныя поручні
пры дваццаціпяціградуснай сцюжы.

Бо што ёй
той тып
у стаптаных абносках і ў кепцы?

Паненка спяшаецца на вечарынку —
пацягваць у млявай ляноце лікёр,
чарльстон танцаваць
і ў чатыры гадзіны
у шэрані змроку аддацца
маладому, у фраку, хлышчу.

## АСФАЛЬТАВАННЕ ВУЛІЦЫ

У катле з двума коламі знізу абапал, як вушы, і з доўгай аглобляю ззаду, як хвост у малпы, у ржавым катле варыўся асфальт.

Чорны, як сажа, чорны, як туш, чорны, як дзёгаць, бліскучы, як лімузін у праменні, варыўся асфальт, калыхаўся ў катле, як у танцы жывот негрыцянкі, скварыўся, пыхкаў і жарам калоў, як штыком.

Варыўся асфальт, і едкі, востры смурод, як нажом, рэзаў ноздры, горла церпкім курчам сціскаў, як хінін.

Дым шэры, дым чорны, густы, як жалобны крэп, падымаўся па ліпах, што к сонцу ў воблаку пылу цягнулі далоні, дыханне вяроўкай вязаў, бессаромна ахутваў жанчын, абгрызаў, як пацук, з іх духмянасць парыжскай парфумы.

Мужчына, вялізны, як печ, карычневы, як у аліфе, стаяў з чарпаком, падобным на голаў быка, разліваў у вёдры чадны асфальт з катла,— з катла, дзе варыўся асфальт,— асфальт.

Трое мужчын, рытмічна і зладна грукаючы драўлянымі чунямі, вёдры насілі і вылівалі іх на дарогу.

Васьмёра радком на каленях, спіны да неба, раўнялі асфальт акуратна, як чорнае масла на скібцы, раўнялі яго, пасыпалі злёгку жоўтым пяском, як персідскім шафранам, раўнялі, каб заўтра па ім чароўныя чокалі ножкі жанчын, геніі пераступалі і слаліся крокі ліслівых падлюг.

# Павілс Віліпс



## АРХІМЕДАВА КРОПКА АПОРЫ

Зязюля яшчэ не адплакала...
Гай духмянасці кветак не страціў.
Стань і падумай — навошта спяшацца?
Вечар сумны ляціць, як дзяцел.
Гай духмянасці кветак не страціў...
Навошта спяшацца?

* * *

Цені ў кронах з ветрам ласкавяцца.
Цягне ў неба полымя рукі.
Змрок спявае, і песні гукі,
Нібы полымя, узвіваюцца,—
Можа, кветку сарвуць гэты рукі —
Чароўны агеньчык папараці?

* * *

Ты кажаш: час нельга стрыножыць —
Ні чорт, ні бог не спыняць імгненне.
І жывеш з гэтай думкай трывожнай.
Ды час пашкадуе аднойчы — і стане:
Пабачыць, як ты ў маўчанні
Травінкай зялёнай любуешся.

* * *

Дзе Архімедава кропка апоры,
Каб зямлю скіраваць да арбіт высокіх?
Ружа не расцвітае ў патоках крыві,
Травы жоўкнуць у ганьбе змроку...
Думка Леніна, вечна жывая,—
Архімедава кропка апоры.

## ЗАКРЫЕМ ЛЁТКІ

Закрыем лёткі,
Хай не вылецяць пчолы зла.

Слова —
Можа джаліць у тысячу джал
І ў грудзях незагойна смылець.

Слова —
Можа травою атрутнай
Раз'ядаць
І язвамі брацца.

Закрыем лёткі,
Хай не вылеціць злое слова,
Хай сэрцы не ўджаліць,

Як іней
У першыя замаразкі
Джаліць кветку.

Закрыем лёткі,
Хай не вылецяць пчолы зла,
Хай не вылецяць злыя словы.

Дні твае
Не бясконцы баль —
А імгненне адно,
Іскрынка.

Закрыем жа лёткі зла.

## НАЧНАЯ ПАТЭТЫЧНАЯ СІМФОНІЯ

Збіраю з вуліц ліхтароў суквецці,
Спыняю пешаходаў, бег машын,
З франтонаў — вязь рэкламную знімаю,—
Хай слухаюць сімфонію ў цішы.

Страсаю з дрэў убор чырвона-жоўты,
Ператвараючы яго ў асенні спеў,
І вецер, што прысеў ля сцен астылых,
За пазуху бяру, каб не залеў.

Зрываю з неба зорную пралеску,
Каб да сукенкі прыкалоць табе,
Усмешка мне хай прыляціць насустрач
І позірк твой не засціцца ў журбе.

Грымотам вусны закрывае вечар,
Ноч апускае ціхае крыло.
Агнёў суквецці, што нясу ў далонях,
Бяры, каб у вачах святло жыло.

Бяры кілім асенні залацісты —
Сцялі пад ногі, каб было мякчэй,
І мройны вэлюм той, што выткаў вечар,
Накінь ад холаду на белізну плячэй.

## ПАЛАЦЬ!

Толькі перастылы жар
Лезе ў попел пысай —
Полымя ніколі твар
Не хавала ў прысак.

Кажа сябар: «Не палай
І валодай сэрцам,
Каб не выйшла цераз край,
Каб не дужа з перцам...»

Толькі мала праўды ў тым,
Што ціхмяны кажа:
Хто не знаў шляхоў крутых,
Той на роўным ляжа.

Цішыня балот спрадвек —
У дрыгве ды ў іле.
Чысціню вялікіх рэк
Плынь трымае ў сіле.

З берага мудрэц кляне
Бурныя паводкі:
«Як жа перабрацца мне:
Ні плыта, ні лодкі...»

Скажа друг пра цішыню,
Пра спакой — не верце!
Той скарае вышыню,
Хто палае сэрцам.

## ВЯРБА НА БЕРАЗЕ РАКІ

Вярба над плыткаю Гаўяй
стаіць з галавою паніклай,
На плёс пазірае шырокі,
дзе белыя хмаркі плывуць.
Сумуе вечар па сонцы,
што ў небе ішло высока
І шчодрыя несла дарункі —
усім на гэтай зямлі.
Вярба над плыткаю Гаўяй
стаіць з галавою паніклай.
«Што ты схіляешся нізка,
моўчкі глядзіш у глыбіні?
Бачыш: ля самых карэнняў
ног тваіх, плынню абмытых,—
Вір каламуціць завоі,
цягне ўсё чорнай рукой,
Ён і цябе захопіць,
як тую лісцінку аеру...
Што ж ты схіляешся нізка,
моўчкі глядзіш у глыбіні?»
І адказала вярба мне:
«Я не баюся прадоння,
Хоць і загінуць магу...
Кожнай галінкаю сёння
Я адчуваю радасць,
што падарыў мне лёс:
Бачыш, адзін яшчэ парастак
застаўся ў мяне зялёны,
І лашчыць яго салавей,
і песню яму спявае.
Слухаю голас ягоны
першы раз, хоць даўно сівая...»
Знаеш цяпер, чаму нізка
вярба галаву схіляе?

# Мірдза Бэндрупэ



## ДАЛЯГЛЯД

О далягляд, цуд спаткання
        зямлі і нябёсаў!
У гарады,
        што пагляд мой шукае бясконца,
На дзівоснай тваёй мяжы,
У гарады, што ледзьве відаць,
Спускаецца наначкі сонца
На белую вежу
І ззяе на ёй.

О далягляд, цуд спаткання
        неба і мора!
Як караблі — іх праводжу зайздросна —
Сярэбранай рысы тваёй дасягнуць,
Быццам птушкі ручныя;
На плечы і рукі спускаюцца зоры
І падарожным шчаслівым,
І мужным матросам, што вахту нясуць.

Цуд спаткання і неба, і мора,
Цуд спаткання зямлі і нябёсаў,
Прывітанне табе, далягляд!

Не знаходзяць цябе у прасторы
Ні караблі, ані людзі ніколі,
Ды ўжо ж падарожны імкнуўся напрост,
Не ўрастаў у зямлю, не праспаў гэтых даляў,
А спяшаўся знаходзіць абрыс твой ізноў —
Недасягнуты, недасягальны,
Прывітанне табе, далягляд!

* * *

Вачэй не зводзячы шчаслівых і дзівосных,
Як ястраб, што лунае ў небе раннім,
Глядзіць на сонца проста
Маё каханне.

Хай сонца сонцу абмінаць не выпадае
І цень адзін хай цень другі абдыме.
Што сонцу ў вочы глянуць пазбягае —
То не каханне, то не ястраб залаты мой.

## МАЛЕНЬКІ ЧОРТ З ПЕКЛА ДУШЫ

Хто злаўчыўся адно за адным
Абкатаназіхоткія словы нізаць,
Быццам пацеркі,
Слава тым!
А ў мяне паміж вабных праскочыць калі —
Страх сказаць —
Кіпцюрастае, нібы з'лясное глушы,
Перавэдзганае ўсё —

Чорт маленькі
                    з вялікага пекла душы.
Камертону не слухаецца, хоць плач,
Задзіраецца, дражніцца гэты рагач.

Слова добрае раніцой
Выпускаю, як курапатку, я.
Глядзь — яно ўжо здружылася
Нат з калючкаю, з крапівой,
Не чапае баговак, бо добрае,
Ціўкае, зерне дзяўбе і сноўдае.

Ну а ўвечары ў нейкі міг
Слова вырвецца — нораў сыча,
І давай курапатак маіх
Даганяць, драпежна крычаць
І ўсё цэліцца дзеўбануць.
Толькі пыл і пер'е лятуць.

Што зраблю я? Хіба магу
Утрымаць альбо ўратаваць?
І ўсё ж са слязьмі малю
Права ўвечары забываць
Мною сказанае раніцой!
Нават звычка счапіцца — дарэчы.
Кіпці, дзюба хай будуць са мной.
Мне пакіньце маю супярэчнасць!
Не жадаю зусім
Цвёрдым каменем быць адмысловым,
На якім
Высякаюцца літары і выслоўі
На вякі...

## СЦІПЛЫ САД

Запэўніць мог жа серафім гарэзны хутка,
Што сціплы сад — праўдзіва найцудоўны.
Там блазнаватыя звяры жвуць незабудкі,
Паветра райскае — не поўдзень і не поўнач.

Пад голлем, што ад яблыкаў аж млее,
Была я ўсцешана — цурчыць віно з-за хмараў.
І гладзіла на выпасе лілеяў
Рачныя хвалі, як авечак-ярак.

Стаў дакучаць мне сад паціху, ўпотай.
Ці ж аб адным салодкім доўга ўбудзеш?
Я адчувала — цягне на дрымоту,
Як яшчарку злянелую ў бязлюддзе.

Дайшло нарэшце — серафім двудушны
Пітво санлівае лье ў кубак гэта.
Як ні старайся, ўсё ў сабе заглушыш
І з асалодаю адвергнешся ад свету.

Спяць госці, як суркі, у сціплым садзе
З вачамі паўзакрытымі, з усмешкай.
Ці ты сумненнямі каго прынадзіш,
Калі і ўведаеш, куды патрапіў, грэшны?

У лыкавых лапцях, ах, серафім ружовы,
Хаваеш рожкі ты пад ільняной чупрынай!
Як нізка хлусіць рай твой адмысловы!
Ачуўшыся, мы зразумець павінны

Спадман, што зычыць шчасце у закутку.
Не гляне горды, моцны — замарнее.
Тут задыхнецца вецер, поўны смутку.
Бяжы, калі ёсць гордасць — шлях надзеі.

## ЛЕТНІ СЦЯГ

Век шаўкавістага маку кароткі,
Ён карацейшы за век аднадзёнак
І чым у шчасця век карацейшы,
Ды паглядзі — як палае трапётка
Па-над палегліцай траў заімглёных
Дзіўны агонь у вясёлым натхненні
І забірае абсяг найшырэйшы.
Мак, што убачыў трапётка-агністым,
Гэта не той ужо, гэта інакшы:
Бо калі толькі адзін выпускае
Сцяг свой, згасаючы, ярка-ірдзяны,
Тут жа падхопіць другі прамяністы,
Светлы, і радасны, і ўсхваляны.
Іскры далей і вышэй высякае...
Мак, ён не той, што праменіць, ліецца,
Гэта другі ўжо... Далёка ці блізка?
Ці не ўсё роўна?
Над полем уецца
Сцяг летні, агністы.

* * *

І зусім не трэба «ад» і «да» —
Ні ў паэзіі і ні ў жыцця высновах,
Каб было ўсё ясна, як вада:
Разумеем шмат чаго, што недаступна слову,
Ні падоранае слову і ні доранае ім...
Досць, што самі...
толькі самі што мы ведаем аб тым?
Можа, ведае заместа нас не горш,
заместа нас і больш
Гэта хваля, што на бераг набягае,

Надвячоркам нас ля мора сустракае.
Знае хваля, што спявае негалосна,
А таксама
Зорка тая, што з нябёсаў
Нізка-нізка апускаецца і можа
Прытуліцца да акна, да самай рамы
галавой светлавалосай...

# Мейнхардс Рудзіціс



## ТАК БЫВАЕ Ў ЖЫЦЦІ

Так бывае ў жыцці...
Хутка летняя ноч прабяжыць,
А мінецца яна,
надыходзіць хвіліна такая,
Калі ў кожнай душы
раптам музыкі такт загучыць;
Птушак зладжаны хор
першым дня нараджэнне вітае.

Ціха гэтак было,
ўсё нібыта скаваў вечны сон.
І — няма цішыні!
Чуеш! — гукі пануюць наўкола:
У траве, у кустах
загучаў галасоў перазвон,—
Ўсё гучней і гучней
адгукаецца голас на голас.

Каля пультаў сваіх
пачалі завіхацца дразды,
На галінках вярбы
струны ў лад прывялі берасцянкі.

Заспяваў салавей.
Ажываюць лясы і сады.
У прадонны блакіт
узлятаюць стрыжы й беражанкі.
Што для нас гэты міг?
Сэнс яго якім словам раскрыць?
Сэрца ўзмоцнены рытм?..
Прадчуванне сустрэчы шчаслівай?..
Радасць працы, жыцця?..
Ці надзеі, што клічуць тварыць?..
Ці любоў да зямлі?..
Ці народжанай думкі імклівасць?..

Так — і не!.. Гэта ўсё
нельга выказаць тысячай слоў,
Толькі сэрца адно
значнасць мігу таго адчувае:
«Была цемра начы...
І вось дзень надыходзіць ізноў.
Сонца ўзыдзе! Усход
ружай-кветкай ужо зацвітае!..»

Міг прыходзіць такі
к чалавеку, калі толькі ён
З добрай, чыстай душой,
не забыў пра запал маладосці,
Калі ў сённяшніх днях
бачыць вырысы будучых дзён,
Калі сілу адчуў,
каб сказаць людзям важнае штосьці.

У жыцці у тваім
і снягі і мароз могуць быць.
Калі ж сэрца жыве
прадчуваннямі блізкага мая,

Гэта той чалавек
пачынае ў табе гаварыць,
Хто наперад ісці,
ў бой за мару ісці заклікае!

## ЗІМОВАЕ СОНЦА

Той сонца ўсход з дзяцінства я
Запомніў назаўсёды...
Тады, на золаку жыцця,
Я знаў адны нягоды.
Я добра ў памяці збярог:
У голых сценах чатырох
Сям'я была галоднай,
Печ — заўсягды халоднай.

І мех з саломаю ў куце,
І коўдрачка старая.
Мяцеліца ў двары мяце,
І вецер завывае...
Адзін у цёмным я куце,
І нейкі жах мяне гняце,
І я дрыжу бясконца
Ў чаканні ўсходу сонца.

А вось і раніца... Акно
Расквецілі праменні,
У кветках казачных яно,
Нібыта сад вясенні...
Як можа ўзімку сонца грэць,
Калі яно гарыць ледзь-ледзь?
Жыло па іншай мерцы
Яно ў дзіцячым сэрцы!

Цяпер, калі пішу свой верш,
Жыцця прайшла палова.
Калі ты, сонца, зазірнеш
Ка мне парой зімовай,
Закружыцца ўспамінаў рой,
І мне не холадна з табой,
Бо ты — зіма ці восень —
З вясной жыцця злілося.

## ЖМЕНЯ ГАЛЬКІ

З юнацтва, з тых гадоў ужо далёкіх
Прыходзяць успаміны чарадой
Пра лета, пра бусліны звонкі клёкат,
Пра белізну пустыні снегавой.

У плыні дзён ёсць і такая хвіля,
Што сілу чалавеку надае;
І ўсё тады, што дробяззю лічылі,
Глыбаказначным раптам паўстае.

...Вось галька на маім стале шырокім,
Якую я калісьці сам сабраў,
Як працы цяжкай стомленыя крокі,
Калі я вулкі Рыгі брукаваў.

Таму, што толькі сніліся мне вёсны,—
Зімнела доля горкая мая,—
Нібы надзеі, што зыначаць лёс мой,
Збіраў каменныя дарункі я.

Я слухаў, як ішоў дамоў, размовы
Брукаўшчыкоў, таварышаў маіх,

І разам з галькаю збіраў я словы,
Каб некалі пусціць у справу іх.

У кучах галькі шэра-неадметных,
Раней, чым іх па бруку рассыпаць,
Знаходзіў я такія самацветы,
Што варта іх было з сабою ўзяць.

Гучаў пратэст супроць жыцця старога
Ў тых словах заняволеных людзей.
Мы марылі забрукаваць дарогу,
Якая нас да шчасця прывядзе.

Сягоння на шляху да шчаснай долі
Наведзены надзейныя масты!
Які ў каменьчыкаў прыгожы колер:
Чырвоны, белы, сіні, залаты!

Калі праз пальцы іх я прапускаю,
У сэрцы горыч даўніх год смыліць,
І я тады выразна ўспамінаю,
Што перанеслі мы, каб вольна жыць.

І з перастукам гэтай галькі кожным,
Як на далоні падае яна,
І ў ясны дзень, і ў ноч глухую можна
Сябе праверыць і сябе спазнаць.

Ці так, як трэба, сёння я працую
І ці не робіцца драбнейшым крок,
Ці добра я здабытае шаную,
Ці так, як і раней, пульсуе кроў?

Ці ў шлях далёкі рушыць я гатовы
І новыя прасторы адкрываць,

Ці, нібы абывацель адмысловы,
Я пачынаю мохам абрастаць?

І жменя галькі, што звініць і ззяе,
І новага жыцця высокі ўздым
У хуткай плыні год дапамагае
Заўсёды заставацца маладым.

# Юлій Ванагс



## ЛІСТ У ВЯЗЫНКУ

Вам, сябры, мы шлём праз пушчы, рэкі
Прывітанне ў гэты слаўны час.
Вязынка! Шчымлівы спеў жалейкі
Даляцеў калісьці і да нас.

Вязынка!
Ад Латвіі ты блізка,
Звязана ты з намі, як сястра.
Над табою, над яго калыскай
Узышла нязгасная зара.

Тут ён слухаў голас маці роднай,
Тут убачыў неба ўпершыню.
Тут ён зведаў боль душы народнай
І мужыцкай думы глыбіню.

З чыстых зораў,
з цяжкіх пераваламў,
З казак лесу,
з паўнаводдзя рэк
Ён узяў імя сабе — Купала,
А Купала — гэта Чалавек.

Дом бацькоў — пачатак цёплы свету,
У вясновай квецені сады.
І калі вялікім стаў паэтам —
Зноў і зноў вяртаўся ён сюды.

І глядзеў праз ціхае аконца,
Як зярняты зорныя ўзышлі,
Як падняўся беларус да сонца,
Як пайшоў Кастрычнік па зямлі.

Разам крочаць Райніс і Купала —
Любыя народам песняры.
Вас адна дарога аб'яднала,
Слава вам, паэты і сябры!

На Кургане Дружбы у праменнях —
Дуб магутны,
як братоў саюз.
Змацаваны мы адным карэннем —
Рускі, і латыш, і беларус.

І Радзіме кожны з нас адданы,
На вайне Радзіму адстаяў.
Вершам «Партызаны, партызаны...»
За мяне Купала ваяваў...

Ён, жывы, сыходзіць з п'едэстала,
Крочыць у бяссмерце,
як салдат.
З Вязынкі пачаўся наш Купала,
Ён цяпер усім народам — брат!

## БЯРОЗА

**Балада**

Бяроза белая на скрыжаванні,
Ты стала спадарожніцай маёй.
У лісці ўсё бушуе вецер ранні,
І хмары, і святло — над галавой.

Ты бокам павярнулася замшэлым
Да поўначы, каб затрымаць вятры.
А на ствале,
На целе цёплым, белым
Чарнеюць меткі даўняе пары:

Сляды ад куль,
Што ў Пятым прасвісталі,
Ў Семнаццатым
І ў грозны час вайны...
Падпаскам я з бярозы
Лашчыў далі,
Піў свежы сок бярозавай вясны...

Па голлях лез вышэй-вышэй угору,
Вёў гутарку таемную з табой.
Здавалася, вось-вось убачу мора,
Паслухаю далёкіх хваль прыбой.

Я ведаў, што з-за мора на радзіму
Вясной шпачыны вырай прылятаў.
І я для птушак, пад вятрамі злымі,
Драўляныя палацы будаваў.

І ўсё я верыў, што ўсміхнецца ўдача,
Што мора я з галін бяроз убачу,
Дзе караблі падобны да людзей —

Вось узнімуся трошкі — ну, смялей!
Па голлях лез вышэй-вышэй угору
Я з году ў год —
Да неба, да прастораў...

Мая бяроза, любая бяроза,
Святлела ты ад снегу, ад марозу.
Тут смуткаваў,
тут гора забываў,
Упершыню дзяўчыну цалаваў.

Я тут, у першы майскі дзень зялёны,
Ужо юнак-батрак, а не прасцяк,
На вышцы кроны ўбачыў сцяг чырвоны —
Яшчэ сакрэтны,
Запаветны сцяг.

Не раз яго камечылі, зрывалі,
А тых,
Хто за жыццё на бой ішоў,—
Тут, ля бярозы белай, забівалі...
Ды сцяг назаўтра палымнеў ізноў!

Любімая, латышская бяроза,
Сяброўка светлатварая мая!
Мы зведалі навалы і пагрозы
І пастарэлі разам —
Ты і я.

Ды нас адчай з табою не сустрэне!
Мы дужыя жыццём — тваім, маім.
У родную зямлю
Ідзе карэнне,
І мы яшчэ, бяроза, пашумім!

## ДВА АБЕЛІСКІ

1

Над Ослаф'ёрдам,
Падымаючыся ў неба,
Над гаванню,
Дзе «Фрам» стаў у музеі,
Над цеснымі завулкамі прадмесцяў,
Адкрытымі для ўсіх вятроў паўночных,
Над вокнамі са скрыпам аканіц
І над цяплом электраачагоў,
Высока ў небе,
Недзе аж пад хмарамі,
Над вежамі
З каменным у партале
Драконам зрынутым,—
Як выклік горда кінуты нябёсам,
Узняўся абеліск
У Фрагнепарку.

Яго падножжа мыецца ў фантане.
І вечарам туманаў ручнікі
Падножжа выціраюць,
А стройная вяршыня абеліска
Ўсё цягнецца да горных верхавін,
Як нейкі дзёрзкі палец.

Яго ўзняў чалавек у знак таго,
Што богі ўсе ім зрынуты.
Закончыла вяршыня
Сутычку гэту з небам
Зіхценнем светлага свайго клінка.
Навекі збудаваны абеліск.
У ім тытана молата
Куў Вігелан

Амаль паўвека
З граніту, з бронзы звонкай напалам
Пра чалавека сагу:
Ад першага пры нараджэнні крыку
Да ўздыху перадсмяротнага яго.

2

А там, вышэй,
Між гор,
Над змрочнасцю цяністаю фіёрда
І над мігценнем
Дахаў гарадскіх,
Дзе гід пакажа вам
Трамплін для лыжнікаў,
Там высіцца другі
Суровы абеліск.
На цемені зямлі
На абымшэлым камені
У золаках барвовых
Усходаў і заходаў
Пяціпраменная палае зорка,
І літары, як раны
На грудзях, гараць,
Гаворачы, што тут свяшчэнная мясціна:
Магіла воінаў,
Загінуўшых за праўду.
Тут чуецца
Ў парывах ветру
Грозны водгук бою,
Цішыня,
Як спадарожніца,
Хай пастаіць з табою.

Тут, на чужыне, між сцюдзёных гор,
Яны ляжаць —

Салдаты твайго краю.
На камяні замшэлым зімагор цвіце.
Запомні назаўсёды крык арла!

3

Яны ляжаць між Скандынаўскіх гор,
Якія Арктыка сваім дыханнем
І ўлетку на дасвецці серабрыць.
Яны ляжаць між Скандынаўскіх гор,
Тых самых гор, з якіх ледавікі
Цягнулі валуны па Відземскай даліне,
З якіх і штормы ашалелыя імчаць
Над Балтыкай...

Між Скандынаўскіх гор —
Прыгожых і суровых —
Савецкай Арміі
Салдаты спяць...

Бушуе акіян,
Узняўшы вечнасці глыбінныя валы.

Не дзеля славы, не дзеля хвалы
У бой па скалах, па ільдах паўночных
Прайшлі салдаты,
На шматкі рвучы
Цаной жыцця
Фашысцкай ночы змрок.
Таму і ўзняты гэты абеліск.

4

Крычыць арол,
Лунае з крыкам чайка.
Дзень гасне, акрывавіўшы туман.

Прыслухайся,
Вялікі Вігелан,
Славуты сын Нарвегіі.
Ты чуеш,
Не чуць не можаш іхніх галасоў,
Што тут лятуць на дужых крылах ветру,
Што прабіваецца з зямлі,
з глыбінных нетраў,
Прыслухайся да іх!
Ты ўсёй душой прыслухайся да іх!
Ад гэтых галасоў хацелі б уцячы
Усе, што ўціхамірыўшыся,
Тлелі, каб існаваць,
У абыякавасць
Душу спавіўшы,
Не адчуваючы ні гневу, ні задышкі
Ад попелу,
Які над светам
Ляцеў злавесна ў змроку з тых часоў.

5

Прыслухайся,
Складальнік вечнай сагі
Пра чалавечае жыццё,
Бо да цябе звяртаюцца
І юнакі,
І мужныя мужчыны,
Якія тут ляжаць пад абеліскам.

А ён які на справе, гэты век,
І ход жыцця, які ён, Вігелан?
Ці ён такі, якім ты перадаў
Яго разцом на шэрым камені,
Што там, унізе?
Ці ён такі, калі міг нараджэння,

Аддзелены імгненнем
Ад ценю, што застыне на сцяне,
Калі мільёнаградусны агонь
Над вырачаным горадам дыхне?

Не памыляўся добры твой разец,
Як высякаў на камені расказ:
На свет з'яўляецца дзіця,
І кахае,
І іншаму дае жыццё,
Працуе,
Пакуль не стане сэрца
І не адыдзе назаўсёды
Не ў цемрадзь, а ў святло.

І так павінна быць.
Але, ці так жа?
Не!

Дзе ты, юнацтва наша?
Дзе ты, сталасць наша?
Дзе праца, што чакае нас?
Дзе вусны любай?
І дзеці дзе, якіх бы гадаваць
Вялікімі,
шчаслівымі
Хацелі мы?
Здаецца нам
Насмешкай злой расказ
Аб бесклапотным на зямлі жыцці,
Ён не для нас!
Ён не для нас!
Пакуль дракон, якога геній твой
Параненым падаў,
Не будзе назаўжды дабіты
І скінуты ў прадонне,—

Мірны твой расказ,
Ён не для нас!
Ён не для нас!
Пакуль яшчэ ў фашызму
Ўсе не адсечаны
Пачварныя галовы,
Пакуль
Яшчэ ліецца кроў на свеце
І залпы несціханыя грымяць,—
Насмешкай нам здаецца гэта сага...

На рычагу ядра
Ляжыць рука злачынца,
Гатовая ў любую хвілю
Павярнуць яго.
Шалёны,
Апанаваны толькі прагаю нажывы,
Варожасцю да праўды,
З ашчэранай крывавай зяпаю дракона,
З агнём пякельным у вачах.
Яшчэ ён не абвешчаны па-за законам,
Сачыце пільна,
Каб ён не загубіў усю планету!
Нас папярэджваюць загінуўшыя.

## САЛАСПІЛС

### 1

За гэтаю брамаю стогне зямля,
Корчыцца ў муках каменне.
Саласпілс!
Ты — незагойная рана мая,
Сэрца майго зняменне.

2

Вось ён, апошні, жахлівы парог.
Схіляюся перад табою,
Дзе кожная жменя і кожны корх
Людской набрынялі крывёю.

Гэта не вецер калыша траву —
Дыша жывая грудзіна.
Стогн прабіваецца праз жарству
З самых пакутных глыбіняў.

Не ўратавацца ні цішай, ні сном.
Як водгулле, аддаецца
У нетрах планеты мой метраном —
Боль чалавечага сэрца.

3

Зямля!
        Хіба столькі згусцілася хмар,
Што нават у сонечны дзень
Забойцам не кідае ў твар
Шыбеніца свой цень?
Гляньце, якія яны ўжо лагодныя,
Чысцяць старанна пазногці да бляску,
Упэўненыя, што самыя модныя
Зноў іх морды,
Іх бомбы,
Іх маршы
І каскі.

Наліўшыся півам,
Крычаць у шынках аб рэваншы,
Нібы Саласпілс мой
Травой забыцця ўздзірванеў.

Але тут устаюць
Скамянелыя волаты нашы,
Галавой упіраюцца ў неба:
— Не!

4

Рыхтуеце атамную і вадародную,
Вывучаеце ўрокі мінулай вайны.
А пакуты,
А слёзы,
А памяць народную
Ці ўключылі ў свае падручнікі вы?
Не схаваць вам за фігавым лісцікам «неа»
Новых замыслаў вашых аб новай вайне.
Вартавыя трывожнага гневу
Падымаюцца з брацкіх магіл:
— Не!

5

Новы фюрар,
                    стратэг і філосаф СС
Крытыкуе памылкі сваіх папярэднікаў:
— У іх маштабы былі пасрэдныя —
Не хапала ў турмах пасадачных месц.
Уваходы ў печы былі завузкія,
Працавалі канвееры з перагрузкаю,
Не выконваўся план нарыхтоўкі попелу —
Проста сорам
Перад Еўропаю!
Былі і ў хімікаў недалікі,
Асартымент іх прадукцыі яшчэ невялікі,
З крыві, з касцей, з валасоў, са скуры
Колькі можна
Зрабіць шэдэўраў культуры!

За гэта адказнасць ляжыць
Не
    на
        нас —
Дзякуй богу,
Мінае даўнасці час!..

6

Вось вам
Неарамантык,
Эстэт і сноб,
Ён упэўнен,
Што болей ужо не памыліцца.
Таму і цэліцца,
Не адкрыта,
Не ў лоб,
Яму зручней —
У патыліцу.

Людзі, не забывайцеся
Ні на хвіліну
Пра дзіцячыя косы,
Чаравічкі,
Сандалікі,
Цацкі,
Што ляжаць у Асвенціме
Ў шкляной дамавіне,
Як у адкрытай
Магіле брацкай!..

Стойце на варце,
Памяці нашай вяршыні:
Волаты Бухенвальда,
Саласпілса,
Хатыні!

# Арвідс Грыгуліс



## САНЕТ ПРА МОРА І ЖЫЦЦЁ

Як доўга мы з табой не бачыліся, мора!
Вучыўся я ў цябе імкненню ўдалячынь.
Пасля ў баях спазнаў, як смерць перамагчы
І цвёрда выстаяць, хоць дых сціскала гора.

Халодны мур жыццю больш не заслоніць зорак,
І сонца вольнага не патушыць нічым,
Чырвоны сцяг нас вёў, каб свет аберагчы.
Прыкмета часу сёння — ветразь непакоры.

З глыбіняў цёмных мне бурштын да ног шпурлялі
Раз'ятраныя коні ўсіх тваіх штармоў.
Той крокі не прыладжвае да ціхай хвалі,

Каго загад, як сэрца кліч, наперад вёў.
Клянуся, мора: не стаяць мне на прычале,
Бо ўсе вятры твае маю бунтуюць кроў.

## ІРЖАВАЯ БАЛОТНАЯ ВАДА

Сок балотны, сок іржавы —
Хто ваду такую піў?
Крочым... Сіл няма стрымацца:
Чорны сквар як асляпіў.

На суку, прабітым куляй,
Сойка ўслед на дождж крычыць.
Багна вуснамі рудымі
Кпіць: «А ці не хочаш піць?»

Я прыпаў да іх і ўславіў
Той балотнай жонкі дар
І пайшоў, памаладзелы,
Зноў праз полымя і сквар.

Сок балотны, сок іржавы,
Брага сонца і дрыгвы,
На шляхах цяжкіх, пакутных
Дзякуй за глыток жывы!

І вінтоўка палягчэла,
І жвавей пакрочыў бот
Той ваеннай, той асмяглай,
Той дарогай між балот.

Нас яна да перамогі
Прывядзе. І назаўжды
Я запомню гэту свежасць
Дрыгвяністае вады.

## АСЕННІ ДОЖДЖ

Многа смутку дождж нясе асенні,
Што ляціць да валасоў сівых.
Цягнуцца шляхі — учора, сёння,
Колькі яшчэ заўтра будзе іх...

Пастаіць і пойдзе прэч сустрэчны,
Зменіцца, нібыта вартаўнік.
Пад імжой мутнеюць ручаіны,—
Толькі светлы след яшчэ не знік.

Хай удалячынь глядзець не проста —
Хвошча вецер золкі, ды не нам
Кволіцца: мужчыну лёс адзіны —
Адчыняць вясёлкі новых брам.

Нас вучыў закон вайны суровы
Быць заўсёды на перадавой.
Памяці не здраджу: сёння праца —
І закон, і абавязак мой.

Нельга расцягнуць жыццё, як нітку,
Часам абрываецца яна.
Ды змахні дажджу сівыя кроплі,
Покуль далячынь табе відна.

Так, змахні, хоць застаюцца цені:
Будуць сёння, будуць кожны дзень.
Вецер, ты прабач, што падарожнік
Іншы раз засмучаны ідзе.

## КАЛІ БУДЗЕШ СЛУХАЦЬ, ШТО ГАВОРАЦЬ ЧАРАТЫ

Калі я пайду
Кудысьці далёка-далёка,
Выйдзі на бераг.
Вецер гойдае чараты.
Замры на імгненне
І ты пачуеш словы мае.
Я шаптаў іх начам самотным.
І ні кропелькі новага ў іх не будзе,
Яны ўсё тыя ж,
Сказаныя даўно...
Але раптам табе спадабаецца,
Што іх прамаўляюць
Чараты, плынь ракі і вецер...
Калі ж не —
Сарві сухую галінку і кінь на хвалі.
Я не пакрыўджуся,
Бо знаю даўно:
Нішто не вечнае,
І каханне таксама.
Толькі не заставайся доўга:
Вецер ля берага золкі.
Валасы твае вільгаць пакрые,
А гэта, магчыма, не спадабаецца
Таму, хто стане рукою іх лашчыць.
Дык вельмі-вельмі прашу —
Не заставайся доўга...

## ТАК ЛЕНІН НАС ВУЧЫЦЬ

**Газель**

Гісторыі шлях праз эпохі — да светлае мэты,—
так Ленін нас вучыць,
І месца салдата знайдзі сваё ў поступе гэтым,—
так Ленін нас вучыць.
Кастрычніка голас
у сэрцы тваім хай гучыць несупынна.
Мы знаем:
здабудуць свабоду сабе пралетарыі свету,—
так Ленін нас вучыць.
На ніву камуны
пральюцца дажджы жыватворна і светла,—
так Ленін нас вучыць.
Кастрычніка голас
у сэрцы тваім хай гучыць несупынна.
Будзь верны заўжды рэвалюцыі запаветам,—
так Ленін нас вучыць,
І гартам сталёвым
свой дух умацуй — змагара і паэта,—
так Ленін нас вучыць.
Кастрычніка голас
у сэрцы тваім хай гучыць несупынна.
Як меч непадкупны,
будзь, сэрца, адвагай і праўдай сагрэта,—
так Ленін нас вучыць.
Салдат камунізма —
свой сцяг узнімай над планетай,—
так Ленін нас вучыць.
Кастрычніка голас
у сэрцы тваім хай гучыць несупынна —
Так Ленін нас вучыць.

## ЗЛОСНЫЯ СЛОВЫ ПАСЛЯ СПРЭЧКІ

Быў я злосны бясконца,
Бо я не той,
Хто даруе.
Усеўшыся на ўзбочыне дарогі,
Я прыдумваў самыя злосныя словы,—
Хай начны вецер іх аднясе.
Глухою поўначчу
Вецер грукнуў у тваё акно
І сказаў:
— Мір!
Мір дыму твайго ачага!
Хай адвернуцца ветры
І пойдуць у мора.
Мір полымю твайго каміна!
Мір старонкам тваіх кніг!
Мір!.. Мір!..
Хай гномы ўночы
Скінуць вялікі камень з дарогі
І той,
Каго ты будзеш чакаць,
Не спатыкнецца!
Хай бульба ў цябе на стале
Заўсягды будзе ў меру пасолена!
Хай ніводная з тваіх аладак
На патэльні не прыгарыць!
Хай кубак віна,
Які ты падносіш да кубка свайго каханага,
Маўчыць, як вір —
Цёмны хавальнік тайны!
Хай ніколі больш,
Ніколі...
Ніколі...
Ты не пачуеш крыку дзікіх гусей,

Што ляцяць над домам тваім
І нясуць на крылах
Прагу неба
І хваляванне душы!..
Больш злосных слоў у мяне не было,
Прыйшлося здаволіцца гэтымі.
На досвітку
Вецер начны вярнуўся з весткай:
— Ад пошуму ля акна
Яна ўсхапілася, села,
Ва ўтрапенні прыкрыць забылася
Беласнежныя грудзі...
(Хопіць, начны вецер!
Хутчэй гавары, які ты прынёс адказ!)
Доўга яна маўчала,
Доўга...
Потым сумна заўважыла:
Пра тых дзікіх гусей лепш бы ён не казаў!
Пра тых — не...
А быў я злосны
І не мог даравацъ...

## Яніс Сілазарс



### РАЗВІТАННЕ З МАЛАДОСЦЮ

Цёмнай вясновай ноччу,
калі замірае горад
і вецер дужэе памалу —

Сінім канём шалёным
бэзавы водар гуляе
заснулым кварталам.

Ён ля акна майго часта
прыспех суцішыць хоча
і ў сон зазірнуць мой рады.

Я, дых затаіўшы, баюся:
хаця б не заўважыў
майго пагляду.

Бо што адкажу тымчасова
вачам, што ў мяне пытаюць? —
збруя ж мая — струхлела...

Мяне не чакаючы болей,
конь сіні імчыць штосілы —
і гасне сінеча нясмела.

...Сэрца падказвае — са скакуном
маладосць мая адляцела.

## МУЖЧЫНЫ ЛЯ ПЕЧАЎ

Дзе сталь, цярпенне ірвучы,
кіпіць, як вар,
там сонцам і ўначы
мужчынам апякае твар.

Спазналі усяго спаўна
яны ў жыцці,
была вайна,
і слала іх яна
пад кулі йсці.

І пекла
франтавых дарог
іх ногі зведалі,
не цішынёю сустракаў парог,
перажагнаны бедамі.

Як медсясцёр,
яны дагэтуль помняць
бярозак белыя халаты
і шаты,
пад якімі
спяць сябры-салдаты...

Ці не таму спакой і сіла
ў паставах іх?
Ля печы за сябе
і за палеглых тых.

А час ідзе...
крутой сваёй хадой...
І плавіцца
метал.
І льецца жылкай
залатой.

## ДЗІКАЯ ЯБЛЫНЬКА

Сцішся анямелы
тут, дзе росхрыст ніў.
Позіркам нясмелым
яблыньку крані.

І адкуль такая —
Белым-белая?
Цішы патакае,
Захмялелая.

У яе цянётах
ты — малы хлапчук.
Высмакуй употай
кожнай пчолкі гук.

І адчуй душою
пошапт у лісці:
— Век хоць за спіною —
а цвіці, цвіці!..

# Фрыцыс Рокпелніс



## ПЕСНЯ СТРАЛКОЎ

У бой стралкі чырвоныя
На ворага пайшлі,
Каб людзі сталі вольнымі,
Шчасліва зажылі.

Хай нівы зноў красуюцца!
Байцы ў агні гартуюцца.
Будзь цвёрдая, рука
Чырвонага стралка!

Над вёскамі дым сцелецца,
Руін не злічыш тых.
Няхай адпомсціць нелюдзям
За іх мой востры штых!

Хай Рыга зноў красуецца!
Байцы ў агні гартуюцца.
Будзь цвёрдая, рука
Чырвонага стралка!

Мы зорку пяцікутную
Праславім у баях.

Зямлю сваю пакутную
На вольны вернем шлях.

Хай зноў жыццё красуецца!
Байцы ў агні гартуюцца.
Будзь цвёрдая, рука
Чырвонага стралка!

## НА БЕРАГАХ ЛАВАЦІ

Пенаю крыліся хвалі Лаваці,
Міны глушылі сяло над ракой.
А за Лаваццю збіраліся раці
Смелых латышскіх стралкоў.

Вёскай дзяўчына ішла маладая,
Чуе: нязвыклыя словы гучаць.
— Нашы збавіцелі, мова якая
Вашай гамонкі? Ніяк не пазнаць.

Ёй адказалі: — У пляску Даўгавы
Словы радзіліся, ў бой павялі.
Мы падняліся для велічнай справы —
Для вызвалення шматмоўнай зямлі.

Ў час гэты грозны мы ўсе пабрацімы,
Ўсе мы змагаемся дружнай сям'ёй.
Сёння за Рыгу, за нашу радзіму
Рушылі сотні народаў у бой.

Скончацца некалі войны, і зноўку
Ў яркіх агнях цягнікі пабягуць.
Ў госці да нас прыязджайце, сяброўка,
Ў Янаву ноч, берагі як цвітуць.

Сябра любіць нас вучыла нядоля,
Сябра ў няшчасці — найбольш дарагі.
Ў ноч тую стрэнуцца сотні ваколіц,
Будуць вітацца праз даль берагі.

Пеніцца будзе у курземе піва,
Нібы Лавацi бурлівы паток.
Ноч прабяжыць у размовах імкліва.
Будзе нам любы ўспамінаў глыток.

...Пенаю крыліся хвалі Лаваці,
Міны глушылі сяло над ракой.
Бой пачалі незлічоныя раці
Смелых латышскіх стралкоў.

## ТРЫ СЯБРЫ

Тры салдаты ў роце сябравалі
Так, што і вадою не разліць.
Іх Масква, Мінск, Рыга ў бой паслалі —
Родную краіну бараніць.
Калі часам бой змаўкаў на хвілю,—
То было часцей начной парой,—
Пра Маскву, Мінск, Рыгу гаварылі,
Ўспаміналі родны горад свой.
Бой на золку зноў распачынаўся,
Ды такі — ажно зямля гарыць!
— За Маскву, Мінск, Рыгу! — вокліч слаўся,
І ішлі ў атаку тры сябры.
...Сцішыўся нарэшце танкаў скрыгат,
Спеюць нівы ў росная цішыні.
Над Масквой, над Мінскам і над Рыгай
Перамогі свецяцца агні.

## НЕВЯДОМЫ САЛДАТ

Як бы ні спяшаў і час свой ні бярог,
На развілцы гэтых палявых дарог
Супыніся на хвіліну, брат:
Невядомы тут ляжыць салдат.
Хай сякуць вятры і снег у твар,
Як тады, калі буяў вайны пажар,
Хай завея будзе галасіць
Над магілай, дзе салдат ляжыць.

* * *

Хто ён быў? Дзе жыў калісь? Якая
Маці і дасюль яго чакае?
Дзе застаўся ў памяці сяброў
Маладым, якім на фронт пайшоў?
Можа, гэта ён на снежным полі
Першы ўстаў, каб Нару разняволіць?
Хто ён быў? Як зваўся той герой?
...Бой грыміць далёка за ракой.
Можа, гэта ён, хто не збаяўся
Смерці, першы хто з зямлі падняўся
І праліў сваю да кроплі кроў,
Каб свабоднай стала Рыга зноў.

* * *

Досвітку чырвоны сцяг трымціць
Над магілай, дзе салдат ляжыць,
Што закончыў шлях свой баявы,
Сто разоў забіты — і жывы...
На хвіліну супыніся, брат:
Невядомы тут ляжыць салдат,
Каб спазнаў ты радасці дарог,
На гары сустрэць світанне мог.

## Анаталс Імерманіс



### ДОЖДЖ НА ЎСКРАІНЕ

Дождж шарэўся, і моклі на тумбах афішы,
як дзявочы купальны касцюм, і знарок
два рамізнікі неба хвалілі ў зацішшы
у спадзеўцы, што трапіцца позні яздок.

У двары гаража, што маркоціўся сонна,
марыў хворы аўтобус наведаць палі,
натапырыў каўнер сіняга палітона
вартаўнік і схмурнеў: «Ці аціхне калі?»

Цемра лямпы пагойдвала плаўкамі з белі,
глух рабочы раён, нібы цырк без размоў.
Пад дажджом тваё, ўскраіна, грады блішчэлі,
калі стому, як конь, ледзь цягнуў я дамоў.

* * *

Кажуць, што мой дзень у смутак хіліцца,
Вы не верце хцівым языкам.
Пачакаюць хай мяне магільшчыкі,
Я жыццё перасвяткую сам.

Семя давяду яшчэ да спеласці,
Памаладзь благаслаўлю: шугай!
Кожнаму лістку пазычу смеласці,
Каб маім дыханнем дыхаў гай.

Прысушу журбу сваімі лекамі.
Хай грызуць зайздроснікі жарству.
Іншыя мой след паўтораць некалі.
Век свой сам яшчэ я пражыву.

## ШАПАТКОЕ ЛІСЦЕ

Пад нагамі ў цябе шапаткое
Жаўталісце ў ценях пунсовых.
І гадзіннік, і ласка ў спакоі —
Хвіля пройдзе — ты ў клопатах новых.

Ты імя шэпчаш іншае ў згодзе,
Іншага ціха грэеш пяшчотай,
Між дваіх прыцемкі на заходзе
Мост з тужлівасці ўзводзяць употай.

Усё — іншаму. Мне ўжо тое,
Што было, што назад не вернеш —
Першы дождж, голле ліпы густое,
Што туліла імгненную вернасць.

Ноч, дзе ў поўневым перапудзе
Мы надоўга прагналі стому,
Цень мой падаў табе на грудзі,—
Гэта ўсё не аддаць нікому!

## АП'ЯНЕННЕ ГЛЫБІНЁЙ

Мацуе акваланг рука скупая.
Нырае. Ловіць зоры даланёй.
Глыбей — і кроў цярпліва закіпае,
Прыходзіць ап'яненне глыбінёй.

Ён вынырнуў. І хоча ап'яненне
Перамагчы. А дол звініць ажно.
Кіпіць у жылах глыбіня здзіўлення,
І ап'яненне кліча зноў на дно.

Ныральшчык я. Жыву на выспе. Людзі
Завуць яе зямлёю ў тумане.
Наўкол — раямі зоры, мора ў гудзе
І глыбіня бясконцасці ўва мне.

Хоць ведаю свой лёс у прорвах сініх,
Хачу, пераджагнаны вышынёй,
Каб розум мой і сэрца на глыбінях
Адчулі ап'яненне глыбінёй.

Да мора выкну з мараю адзінай —
З пярлоўніцай вярнуцца з глыбіні
З такой, дзе думка зіхаціць пярлінай
Празрыста-небывалай чысціні.

І зноў ныраць — хай глыбіня ратуе! —
Каб ясным стаўшы ў смутку і мальбе,
Нырнуць аднойчы ў глыбіню такую,
Дзе ўжо нічога не адчуць табе.

П'янець ад глыбіні хтось іншы будзе,
Хто вынырне, а хто далічыць дні.
І выспа будзе, каб адчулі людзі
Наўкол і ў іх бясконцасць глыбіні.

## СТАНЦЫЯ «ЛАТЫШСКАЯ»

1

У Падмаскоўі — дождж.
Платформа станцыі маленькай
Узмакрэла.
У купэ:
хлапец з гітарай,
дзве дзяўчыны на мадэрновых платформах,
заглыблены ў сябе пляткар,
што сыканне ў куточках вуснаў тоіць,
дзіця, што моліцца свайму куміру,
плюшаваму медзведзянятку, не раз палапленаму,
а ў медзведзяняці адна плюшавая ножка
даўным-даўно ампутавана...
І раптам ускрытаю ранай
станцыі назва:
«Латышская».

2

Як доўга ты маўчаў, смяротны град.
А сёння зноў снег чырванню ўзрыхляеш
у Падмаскоўі,
у мясціне рускай,
што набыла латышскае імя — «Латышская».
Для смерці Латвія зацеснай нам была.
І Даўгава — зацiхай для легенды.
Да Нары мы прыйшлі, каб у грымотах —
са стогнам і праклёнам —
стаць супраць граду свастык.
Ад цела адрываецца нага, і галава — ад шыі,
і рукі сутаргава выпускаюць
апошні скарб — вінтоўку.
У маразах заснежанай Расіі,

дзе нам гармата сталёвую вычэсвала труну,
дзе кулямёт цвікі сталёвыя ўганяў,
дзе мінамёт нам высякаў сталёвы крыж,
са стогнам і нянавісцю ішлі мы
не на спачын апошні,
а ў атаку, ў атаку,
якой няма канца...

3

Не кроў — чарніла сохне праз хвіліну.
Назад паўгода — згустак мар, імпэту,
назад гадзіну — апошні ўсплеск жыцця,
цяпер — маўклівы спіс вайсковай роты,
што стаў на трыццаць сем імёнаў карацей.
Бо трыццаць сем закрэсліла вайна.
У першы момант, пры хрышчэнні першым.
Такая містыка бяздушнай мясарубкі:
я — трыццаць восьмы, сёння я жыву.
Я — трыццаць восьмы, трыццаць восьмы, ў сэрцы
нашу асколак. Можа, гэта словы, і не больш?
Ды выпадаюць даўнія асколкі з паштовай скрыні,
ды сыпяцца асколкі нават з шклянкі з віном.
І як раней: «За спінаю — Масква!»
За спінаю — ўся Латвія ў агні
і трупы, што хавае ў снег зіма.
Насупленыя каскі на крыжах.
Магілы без імёнаў, касак і крыжоў.
Тлен, што магілы ўжо не мае нават.
Жывыя могуць пачуваць сябе жывымі,
бо выпадкова не заспела смерць.
Між палюсамі варожымі двума —
вайной і мірам — масток пракладзен.
Знаю:
назад ні кроку нельга!
Палегла трыццаць сем за гэты бераг Нары.

4

На тым баку — яшчэ ледзь бачнае ў імгле —
імя той станцыі, намоклая платформа,
медзведзяня аблезлае ў маленства на каленях,
гітара, што скандзіруе нягучна песню.
А песенька жадае: «Добрай ночы!
Спакойна спі, каханая мая!»
Мір навучыў ужо нас іншым словам,
але ранейшы застаецца сэнс.
Я разумею гэта. Здагадваецца нат медзведзянятка —
Спагадліва глядзіць шкляное вока.

5

Медзведзянятка, табе нагу, магчыма,
асколкам адарвала ў тыя дні,
калі ў мясціне, што «Латышскай» назавуць,
сваімі целамі прымяўшы снег,
які барвовым патыхаў смуродам,
сябе на памяць кідалі хлапцы з-пад Рыгі, Скрунды
паселішчу з такім знаёмым імем.
І, гэтай памяццю нагружаны, я еду
паўз вашыя магілы,
Я — трыццаць восьмы, я — жывы,
па-даўняму прызваны на вайну.
Зноў мінамёт мне высякае крыж,
і кулі зноў да снегу прышываюць.
І зноў:
«Назад ні кроку!»
І зноў няма куды мне адступаць:
за спінай —
Шар Зямны.

# Зіедані Пурвс



## ТРЫАДЗІНСТВА

Гэта самае святое трыадзінства,
Больш святога, чым яно, няма:
Поле, чалавек і зерне жытняе.

Поле — сіла жыцця спрадвечная,
Потам салёным зорна пaмечанае,
Ярыны зялёнае свечыва.

Зерне — часцінaчка таямніцы,
Тое, на што хлебаробу маліцца,—
Румянае сонца на дымнай паліцы.

А чалавек — галава ўсяму,
Колас на плечы кладзецца яму,
Аратаму, сейбіту аднаму.

У зерні сцяблінаў заўтрашніх знакі,
Ды толькі за бохан духмяны і мяккі
Табе, хлебароб, наша слова падзякі.

5 Зак. 515

* * *

Жыццё пякучае, як раніца,
то ў цёмных крыгах, то заінелае,
дзе усё відочнае і гучнае.
Вакол мяне і ўва мне —
то фарба чорная,
то белая.
Чорная.
Зайздрасць. Хлусня. Нагавор.
Роспач. Тупік. Невыноснасць.
Несправядлівасць. Наперакор
дню — вечаровая млоснасць.
Белая.
Згода. Мы з табою абое.
Свята душы. Жыццё маладое.
Ідучы іскруся ад пылу святла.
Чорная.
А я — пылінка між пылу дарожнага,
на што я здольная?! Што мне можна?!
Каму патрэбная я?..
Белая.
Задаволенасць: пастараўся
і зрабіў шчыра ўсё, як змог.
Задаволенасць: я прызнаўся,
і вочы твае азораныя
даверыліся, як і ўчора.
Чорная.
Над усімі — цень гругана.
Над усімі — горб кургана.
Толькі век нам імгненны жыць.
Белая.
Не стамляйся. Свой дзень варушы.
Усё праходзіць, але не знікае,
бо калі бурна жыццё пражыў,
яно след у вечнасці пакідае.

Бойся чорнае з белым змяшаць
у адзіную шэрую масу:
шэрасць — смерць. І яе нагадаць
можа попел на вогнішчы згаслым.

* * *

Які твой час? Не той — што да цябе.
Твайго жыцця ніхто не пройдзе сцежкамі.
Ты ў сваім часе заяві сябе,
Як творца, без хлусні і лішняй спешкі.

Не мець табе прывалу ў часе тым,
І калі з ім быў звязан кожнай венаю,
То і жыцця кароткага плады,
Нібы самой зямлі плады,— сумленныя.

## РАДЗІМА

Жыві хоць стагоддзе, адзіна
паміж стратамі і набыццём —
узаконена мудрым жыццём —
не будзеш мець выбару
ні маці, ні бацькі, ні іншай радзімы.

Радзіма, ёсць дзень, калі я ўвайшоў у цябе:
ведаю і святкую яго —
дзень нараджэння майго.
А калі ты ўвайшла ў мяне,
неад'емная і ўрачыстая,
ўсёй прастораю прамяністаю?

З першым дыханнем... І сёння са мной —
сінню нябёсаў над галавой,
песняй журботнай у бацькавай хаце,
словам «сынок» —
якім клікала маці.

З першага кроку, што нясмела зрабілі
дзіцячыя ногі,
у свет павялі іх дарогі, дарогі...
І толькі адна да цябе, дадому.

Бурныя рэкі з крыніц пачынаюцца,
вырасце дрэўца дубам-валадаром,
а запомніць сябе жалудом.

Хіба адданей што можна любіць!
І я не выбіраю
ні маці,
ні бацьку,
ні іншай радзімы.

## ХЛЕБ

Чорная глеба, што неба буранна-грознае,
Потам арошаная і слязамі,
Вывернутая лемяшамі.
Якія ўпартыя крокі завораныя ў барозны!

Хто чорную глебу крывёю так густа паліў?..
Асвецяць эпоху і тыя гады буранныя,
Чырвонае руні ўзыходы раннія.
Якім вешчым зернем засеяныя палі!

Людзей пакаленні адвечнай чаргою ідуць,
А поле світальна калыша свае ўзыходы,

І кожную восень калоссі цяжкія даюць
Стралкамі латышскімі сеяны
хлеб найсвяцейшы
Свабоды.

## 1905

Усе роўныя — кулі,
А сэрцу было і адной дастаткова,
Ды бярозу старую,
Спацелыя ад крыві,
Шэсць адразу праткнулі.
Чаму ж не стралялі людзей
Каля мёртвага тыну якога?

Зямля і дрэвы маўчаць,
І мяне не знайшлі тут
Ні маці, ні жонка, ні сын...

А ў бярозы старэчай дасюль
Струпы чорныя ныюць ад куль
І раней жоўкне звонкае лісце.

Не трывожце мой прах пад карэннем, не пераносце,
І жыцця, што распята на гэтай каравай бяросце,
Не шкадую:
На свяшчэнную бітву ішлі мы.

Таму кожнае лета на маёй магіле
Палымнеюць крывавыя макі.

* * *

Як бродзіць зямля красавіцкая сокам
Перад зялёным салютам вясны,
Так думка да часу ўзлёту высокага
Вярэдзіць таемныя мозгу пласты.

Высокая думка натужна ўзыходзіць,
Як жытняе цеста ў цёплай дзяжы.
Ёсць праведны хлеб. Яго сэрца знаходзіць
На кожным жыццёвым сваім рубяжы.

Высокая думка найперш перабродзіць,
Што сок перад тым, як зрабіцца вінам:
І кожны глыток проста ў тканкі ўваходзіць.
То дзіўнаю явай, то казачным сном.

Высокая думка найперш перабродзіць.

* * *

О, жыццё маё, як вочка
У спляценні хітрым сот,
Дзе краплiста свеціць мёд,
Звоняць галасы ахвоча.
Значыць, жыць мне пад нарàў,
Як пчале, ва ўсім рупліва,
Вочка поўнячы шчасліва
Залатым узяткам спраў.

* * *

Не, любоў не выпраўляе нас,
Мы ва ўсім ранейшыя, паверце,
А яна высвечвае якраз
Дабрыню, што прыхавала ў сэрцы.

Быў пустэльняй сумнай, без надзей
Дні згаралі і міналі людзі,
Ды любоў вяснова да цябе
Завітала, увайшла у грудзі.

Усяго і ўсё даверыў ёй,
Да глыбінь, да самых таямніцаў,
І ў душы развесненай тваёй
Яравыя ўспыхнулі зарніцы.

Толькі ты адна, любоў, якраз
Асвятляеш чалавека маем,
Дабрыню ацэньваеш і нас —
Што мы ёсць, якімі мы бываем.

* * *

Водсвет зарніцаў калінавы,
Гром скаланае Зямлю.
Стаю, быццам волат з быліны той:
Чую аснову асноў.

Мора — каскад за каскадам,
Б'ецца, шумуе прыбой.
Стаю я, не гнуся, не падаю:
Чую аснову асноў.

Віхура сасоннік карчуе,
Смольныя трэскі наўкол,
А я, як стаяў, стаю я:
Чую аснову асноў.

Век мой кароткі — успышка
Зялёнай пупышкі вясной,
Ты — навальніца, ты — ціша,
Аснова маіх асноў.

* * *

Разводдзе ночы. Суму боль.
У цемру знічкі ўпалі.
Ты лямпу не запальвай,
Застацца начаваць дазволь.

Чаромхі белы парашут
Раскрыла ў цемрадзі вясна.
Нібыта чарачку да дна,
Я твае вусны асушу.

Чаромхавай вясной, начамі,
Зноў — белыя вужы завей,
А вочы, любая, твае
Сінеюць холадам маўчання.

* * *

Хоць адну квяцінку падары
Колеру расянае зары
Таму, хто не можа болей чакаць.

Скажы хоць адно слова
Надзеяй вясновае
Таму, хто не можа болей чакаць.

А раптам позна: няма табе веры,
Калі цябе проста гоніць за дзверы
Той, хто не можа болей чакаць?

Не паддавайся адчаю —
Ведай: найболей чакае
Той, хто не можа болей чакаць.

## Бруна Саўліціс



### СВІТАННЕ

Над табою
        срабрыцца маё світанне,
Праз лістоту зялёную клёнаў
        льецца свету ўсяго святло.
Ты са мной яшчэ крочыш,
        ды калі ўжо гэта — расстанне,
Побач будзеш ці не —
        дзень цудоўны расправіць крыло.

Асядае на вуснах
        вільготным дыханнем ранак.
Калі трэба ісці — то ідзі,
        я не стану трымаць.
Гэты дзень і жыццё ўсё
        загойваць раны
Хопіць сілы ў мяне,
        а не хопіць — не будзе каму сказаць.

Галубіны палёт —
        сінякрылае дахаў і неба гайданне,
Хваля Даўгавы светла
        пра неразлучнасць пяе,—

Зразумей:
мне патрэбна тваё дыханне
Гэтак моцна,
як гораду сэрца і рукі мае.

Мне пад сонцам вось гэтым
на гэтай сівой набярэжнай
Трэба жыць,
каб ніколі самоты не знаць
І каб гэты вось дзень
быў скачком непазбежным,
Быў прыступкай,
з якой новы бераг відаць,
Бачны новыя вежы,
дзе гадзіннікі ўсе б'юць вітанне:
— Будзь высокім,
Маё світанне!

## ЛЕНІН З НАМІ

Дзень яго нараджэння
не просіць салютаў,
Песняй славіць яго
малады веснаход.
Будзе самае простае слова
пачута
Пра яго,
бо ён просты быў сам, як народ.

Вуліц назвы
і памяткі ў залах музеяў,
Рысы —
камень даносіць і алоўкавы штрых,—

Ды найлепей за ўсё,
калі з намі ідзе ён,
Ленін, вечна жывы,
у кагорце жывых.

З намі ён,
калі ў зорныя далячыні
Мы пракладваем трасы
касмічных ракет;
З намі ён,
як тады, у вялікім пачыне,
На суботнік ідзе
будаваць новы свет.

З намі ён — назаўжды.
І ніколі на свеце
Ланцугі не скуюць
думку вольных людзей.
Над зямлёй
сонца Леніна свеціць,
І дзяржава яго
чалавецтва наперад вядзе.

## ЧАС

Патрэбны і дні і ночы,
мне цэлая вечнасць патрэбна,
Каб нітку ўтрымаць у пальцах,
што будзе пад сіверкім небам

Мне шлях яшчэ доўга значыць
і праз ільдоў навалы
Выводзіць да светлай удачы,
да ўдачы маёй небывалай.

Патрэбны і дні і ночы, патрэбна мне цэлая вечнасць:
Я скарбы такія шукаю, што крукам сагнуліся плечы.

Мне цэлая вечнасць патрэбна, патрэбны і дні і ночы,
Каб тыя, адзіныя, словы шчасліва знайсці аднойчы.

Калі ж не знайду і сарокі высмейваць пачнуць
нябогу,
Ні дзён, ні начэй, ні вечнасці —
не трэба мне больш нічога.

Калі мой гадзіннік прыстане і я не адолею стому —
Вазьміце мой час — дні і ночы —
і вечнасць аддайце другому.

## ВІТРАЖ

На зайздрасць дням, што ляцяць, нібы рой,
А вечнасці не скараюць,
У Гільдыі Рыжскай вячэрняй парой
Выявы вітражныя ззяюць.

І дзівяцца людзі: можна касцёл
Вось так адмастачыць і бровар,
А як жа людское было жыццё
Са шкельцаў зрабіць каляровых?

Усе тут рамёствы адвечныя —
У фарбах аранжавых, сініх
На фоне прымроеным вечара
Стагоддзяў укос касілі.

Свету ніхто не згубіў свайго ў колеры:
Робіць той кожнае, што і рабіў,—
Смерць і гарбар, і тачыльшчык адолелі.
Толькі вітраж пра паэта забыў.

Быў ён крыклівы, а ці маўчун,
Майстар слова, мой папярэднік?
Ці сонца новых эпох не адчуў,
Ці воблік па часе стаў бледны?

Ці песня паэтава простая
Глядзець з вітражоў не хацела?
Ці на вясёлых ростанях
Між рамеснікаў так і асела?..

І ўсё ж, калі з песняй паэт паміраў
За нейкай карчмой ці ў пуньцы,
На вокны вітражныя пазіраў:
«Някепска б і там апынуцца...»

Што ж дзіўнага — кожнаму хочацца жыць
Хоць крышачку і пасля смерці
У якім-небудзь сонечным вітражы,—
І гэта жаданне не сцерці.

## ДЗЕНЬ ТРАВЫ

Вясёлкай зямля занялася,
Паляны ад люцікаў жоўкнуць,
І вецер — палынны і траўны —
Далінамі вольна ідзе.
Лунае над Латвіяй ліга:
Вясёлыя песні не моўкнуць,

Спяваюць пастух і сейбіт,
Вітаючы новы дзень.

І матылькамі даяркі
На луг выпырхваюць звонкі
І сонца з-за лесу выносяць
Над ззяннем купальскіх кастроў,
У зыркіх вачах і на шчоках
Агністыя ўспыхваюць гронкі,
І поўняцца веснія мроі
Чаканнем летніх дароў.

Ад берага Курземе сёння,
Дзе шэпча балтыйская хваля
І мора ля ног расцвітае
Блакітным бязмежжам ільну,
Песня імкне на крылах
Праз новыя, светлыя далі,
Вітаецца з рускім полем,
Дзе сонца шчадрыць збажыну.

Квітнее зямля. На ўзгор'і
Стаю з душой маладою.
А вецер ласкавы шэпча:
— Ты самы шчаслівы, калі
Пабачыў, як ходзяць песні,
Не знаючыся з бядою,
Як славяць яны радзіму —
Цудоўнейшую на зямлі!

# Лайманіс Пэлманіс



## ГАЙЗІНЬ *

Аблокі ўзнімае Гайзінь з улоння
У неба, каб бачыць даль,
Дзе ў Інэсе вецер мые далоні
Пенай ружовай хваль.

Дзе гэтак пяшчотна лёгкай хусцінай
Зара ахінае гай,
Дзе ручаіны, нібы сцяжыны,
Ўпякаюць за небакрай.

Там заўтра абудзіць раніцай гоні
Коласа спелы звон,
Там возерам ляжа і загамоніць
Хваляй блакітнай лён.

Выйдуць у поле там дружнай сям'ёю
Людзі майго сяла,
Збожжа пальецца жоўтай ракою
Сонечнага святла.

---

* Гайзінь — гара ў Латвіі.

Сэрца імкнецца маё няспынна
З ветрам у заўтрашні дзень,—
Хай жа не ведае хмараў Айчына,
Даль не азмрочыцца ў цень!

## ПРЫХОДЗЬ ЗАСНЕЖАНАЯ

Увечары веяла квеценню,
Ты ішла снеганадам саду,
І трапілі ў сэрца сняжынкі.

А ранак табе на плечы
Накінуў трымценне світання,
Радасць жыцця ў далоні
Вецер насыпаў шчодра.

Такой да мяне ты прыходзіш.

І гэта нічога,
Што першы сумёт маленькі
Смелым сваім павевам
Дыхнуў на твае валасы.
Жыве ў іх духмянасць маю.

## МОВА МОРА

На яго вільготныя вусны
Лёг небасхіл свінцова:
— Маўчы!

І ўсё ж — пагойдваннем кожнае хвалі
Яно трывожна гаворыць
З намі.

Калі нават вецер дрэмле,
Паслухай — яно гаворыць
Ціхімі ўсплескамі пены,
Што хвалі па беразе сцелюць.

Гаворыць яно і тады,
Калі прачынаецца вецер,
Калі глыбіня,
адкінуўшы коўдру хваляў,
Бярэцца загрудкі з погудам буры,
Загадаўшы прыбою на золку махаць
Трапяткімі вогненнымі хусцінкамі...

Хоць два галасы,
Але мова — адна.
Пяшчота і сіла
Без слоў непатрэбных
У грудзі ўліваюцца нам.
Гэта мова глыбіняў,
Ад якой пустальга шматслоўя
Ўцякае.

## МОРА І ТЫ

Ціха, ціха плешча мора,
Хваляў лебедзі на золку спяць...
Ты яшчэ далёка, непакора,
Толькі ў сэрцы пачало світаць.

Ветрык з хваляў сон здзімае,
Белым кryллем узмахнуў прыбой...
Ты, як мора, шлях мне пераймаеш,
Радасць бурная ідзе з табой.

Нетры ўзорвае віхура,
Белых лебедзяў на бераг мкне...
І пякельная пякучасць буры
Грудзі раптам залівае мне.

...Ціха, ціха плешча мора,
Хваляў лебедзі падвечар спяць...
Ты ўжо так далёка, непакора,
Толькі зоркі ў небе зіхацяць.

# Монта Крома



* * *

— Якая нерухомасць у табе! Ніякіх змен.
— Нерухомасць белых начэй. Гэтыя цьмяна-
празрыстыя ночы зусім
нерухомыя. Як жаночыя валасы
над тварам мужчыны, які не спіць
у насцярожанай нерухомасці.
— Якая нерухомасць у табе! Ні расколінкі.
— Нерухомасць тэлефона. Бо нумар ведае
толькі адзін чалавек.
У пакоі атэля: калі на стале
тэлефон, які не звініць,—
гэта і ёсць адзінота,
хоць нумар і ведае адзін-адзінюткі,
калі набярэ той адзін-адзінюткі —
шчасце.
Нерухомасць, каб аніпто
не змянілася, каб ні найменшай
расколінкі.
— А гэта што? Ці не расколінка ў табе?
— А гэта цень маёй рукі — чакаць.
— Ці не дзве там расколінкі ў табе ўзнікаюць?
— Гэта цені абедзвюх маіх рук —
адчыніць дзверы.

* * *

Снег паваліў. І горад ідзе пад снегам.
— Толькі снег ды снег,
ты і я, каляровы
неон, снег каляровы,
скажы, ці ёсць што-небудзь яшчэ? —
чую перад сабой.
— Застаецца «Герніка» Пікасо.
У яе ні неону, ні снегу.
Толькі недзе далёка ў цемры
лакатар з вокам, якое
ніколі не запарушваецца снегам,
з акалелымі ў снезе нагамі,—
гучыць за спінай.
І горад ідзе пад снегам.
Снег паваліў. І горад ідзе пад снегам.
— Глядзі, вялікія сняжынкі плывуць.
Глядзі, вялі-і-кія,
такія белыя, а ў неоне
такія жоўтыя, такія сінія,
вялі-і-кія, Лі-ка! —
далятае да мяне.
— Ах, я хачу, каб снег
сігаў уніз, як зайцы, і каб
у паветры вісеў слупочкамі, як зайцы,
сінія, жоўтыя, пасярэдзіне белыя! —
гучыць за спінай.
І горад ідзе пад снегам.

* * *

Свішча шпак каля вуха майго;
За твае валасы ён трымаецца.
Ты вышэй за мяне аж на дзве галавы.
І ўсё гэта яна,
Што між галовамі нашымі,
Да цябе, дарагі, падобная,
На плячы  на тваім галоўка.
Як ні гляну ўверх —
Ля патыліцы тваёй раскудлачанай
Усё той жа насвіствае шпак;
І падбародачак ля каўнера твайго палітона,
І карых вочак даверлівых двое,
І маленькія два кулачкі...

Гэтай трэцяй між намі галоўцы,
Ёй, вядома, яшчэ няўцям,
Што трымаецца верш на падтэксце
І які тут насвіствае шпак.
Свішча шпак каля вуха майго;
А калі мы ўжо ў аўтобусе,
На плячо ён садзіцца жанчыне,
Той жанчыне, што месца табе ўступае.
А між тым не заўважыць ніяк немагчыма,
Што жанчына зусім інакш
                                        і з пяшчотаю
Аддае сваё месца мужчыне з дзіцем,
Чым жанчыне
                    пры тых жа абставінах.
Я ўсміхаюся. Радасна мне.
Калі свет пра цябе клапоціцца,
Я адчуваю сябе бесклапотнай;
І ты,
        ты таксама ўсміхаешся аўтобуснаму акну.
І калі мы ўдваіх адчуваем радасць,

Ад шпака разлятаецца шмат іншых
шпакоў...
Каля вуха майго
свішчуць,
свішчуць
шпакі;
І сядзяць яны
наўкола
на ўсіх руках,
на ўсіх парэнчынах.
Ты выйдзеш першы
І перш за ўсё рушыш у садзік дзіцячы,
Я ж на працу еду цяпер.
Усе трое да вечара болей не ўбачымся мы.
Ты на мяне зірнеш
нібыта дзесяццю позіркамі,
А малы —
толькі адным,
Таму што раніца ягоная ў тваіх руках,
Як у маіх вечар;
А што пасярэдзіне —
нам невядома.
Але ўсё яшчэ абедзве вашы галовы
Хістаюцца ў акне,
Хі-
Ста-
Юцца...
Маёй галавы там няма.
Гэта нічога.
Каля вуха майго
свішчуць,
свішчуць
шпакі,
А аўтобус паўнюткі,
што няма
Дзе і яблыку ўпасці.

## БАЯВЫМ МАІМ СЯБРАМ

Цячэ на захад ды з усходу
Рака вайсковага народу.
У плыні чуецца трывога.
Пяюць: «Далёкая дарога...»
Спыніла крок, ля песні стала,
Салдат маўчаннем прывітала.
І так адразу ажыло
Ўсё тое, што даўно было.
Не тыя вуліцы, бульвары,
Ды тыя ж, тыя санітары.
Вось так ішлі нядаўна мы,
Глядзелі сумна ўслед дамы.
Хіба ж забудзеш тых салдат,
І кожны быў з іх — бацька, брат,
І кожны з іх з табою быў
І так, як ты, жыццё любіў.

# Андрыс Веянс



## НАШАЙ ЛАТВІІ

Я васількі стаўляю ў кубак з гліны,
Хай жыта ў полі п'е нябёсы ўсмак.
Старыя пра пялёсткі кіньце кпіны,
Не пустазелле — сіні смех нявінны.
Будзь, кветка, кветкай, дружбаком — дружбак.

Вякі прасеяла нябыту сіта.
Не злічыш войнаў зглухлых у імгле,
Дзе стыне гліна могілак забыта,
Зямля з ратая потам брала мыта,
Каб развіднела кветка на стале.

Бяру сцяблінку крохкую з сабою,
Каб радасць нёс з дарожным хлебам мех.
Каб адчуваў я Даўгаву журбою,
Каб мог надужацца з скалой любою,
Калі ў гарах купалле паліць снег.

З зялёнай Нірзы ў Амстэрдам паслаў я
Драча крычаць мне з вежаў праз імжу.
І Ларэлею чуюць кручы Гаўі —
Бяжы, рака маленства, ў разнатраўі.
На Рэйне «дзякуй» Латвіі скажу.

За тое, што прагнала першасмагу
І выткаць ветразь памагла чаўну,
Што боль дала і дзіва, і адвагу,
У спадчыну перадала развагу,
Каб сыну я параду даў адну:

Сяброўскай дружбай, сыне, даражы ты,
З сябрамі доўга выпадзе ісці,
Вартуючы ад следу танкаў жыта,
Каб неба з васільковага блакіту
Было ласкавым дахам у жыцці.

Ці, Латвія, твае смяюцца вочы?
Ці раніца ўмываецца ў расе?
Тут — шлях,
            што з дому ў свет пралёг аднойчы,
Зварот, які вяшчуе крык сарочы,
Тут і рука, што кварту паднясе.

Калі з дарог вяртаюся дадому
Цяжкі ад думак, як асенні воз,
Бярозавікам праганяю стому
І лашчу песень аржаных салому,
Ад васількоў расчулены да слёз.

Зірні, і гаспадар, і падарожны:
Світае ў края радасць на чале.
Няхай сваё жніво шануе кожны.
Твой, Латвія,
            мы рупім дзень заможны.
Не цесна кветкам з хлебам на стале!

## БАЛАДА ХАТЫНСКАГА ЗВАНА

Ці голас звана апошняга
Чую?
Ці на̀сцежу браму
Смерці й жыццю я?
Ці важу
Любові й нянавісці
Меру
Крутую?

Засеяна чым баравіна гэтая,
Падворак мурожны
У скрывянелых росах?
Замры, падарожны:
Могільнік вёсак!..
Зімою тут лютае лета летуе.

Ты з дымнага току, каваль,
Як з полымнай дамавіны,
Ідзеш,
На руках нясеш
Пагаслага сына.
Выходзіш,
Нібы адганяючы чорныя хмары,
Выходзіш,
Нібыта вартуючы
Прысак,
Што тоіць пажары.
Выходзіш...

— Дзе кузня, каваль, твая,
Дзе ты, аглухлы, спынішся?
— Мне стала Хатынь уся
Кузняю жалю.

— Дзе кавадла, каваль, тваё,
Дзе?

— У вачах у пакутнікаў
Стыне суроваю сталлю
Ў жудзе.

— Дзе кувалда, каваль, твая,
Дзе?
— Сэрца кувалдаю стала
Ў бядзе.

Падарожны,
Душою трывожна
Услухаўся ў далі:
Бары яшчэ не адрыдалі...

Насустрач ступіць мне хоча
Каваль у здранцвенні,
Ды яму не скрануцца
Праз балючай зары пламенне.
Каваль на заходзе хоча
Ступіць да мяне ў здранцвенні,
Ды яму не сагнаць з вачэй
Лютай свастыкі ценю.

Ён словы на вуснах,
Як кузню, на ключ нематы
Замыкае.
Званы пачынаюць
Стагнаць зімова,
Як лёсу замова
Цяжкая.

Не чэзнуць водгаласы
За беразнякамі,

Лятуць, як сініцы-вястункі,
І не знікаюць.
Лятуць адгалоскі
Да мора панура.
Выходзіць з крыві
Адчай анямелага Арадура.
Галгофы крыж
Лідзіцэ падымае.
Хай нас, як калючкі праз ружы,
Працінае
Жуда нямая.
Хай стогн Сангмі
Наш слых
У трывозе
Штоміг
Працінае,
Калі нас сустрэне ў дарозе
Зара супакою пазная.
Стагнаць пачынаюць званы.

Каваль,
Ці гэта заспаныя перуны,
А можа, кавадла
Збудзілася рана,
Дзе для нянавісці
Серп і сакта кованы?
Гудуць званы.
Каваль,
Ці гэта кувалды ўзлавана
Цішыню разбіваюць
З вайны?

Гудуць званы...

Але на варце,
Адпрэчыўшы жаль,

Застылі
Коміны напамінам.
Наперад выйшаў каваль
З пагаслым
Адзіным
Сынам.

Разлятаецца дзьмухавец у прах,
Свой ліст перастылы
Губляе асіна,
А ён на анямелых руках
Да магілы
Не можа данесці сына.

Ці чуеш?
Ён нясе яго наўпрасткі
З вайны
Праз званы,
Праз сэрцы нясе,
Праз вякі
Па гарача-крывавай расе.

Ён будзе несці яго,
Утрапёны сведка ахвяр,
І не ведаць спакою,—

Пакуль будзе сэрца паліць
Пакут пажар,
І неба сінецца будзе
Над галавою.

## МАЯ ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Так пiць, так пiць,
Каб кароўку прапiць,
Няхай тое воўча мяса
У хлявочку не стаiць! —
спяваў мой бацька.

Я даўно яе чуў...
Яна з летняга поля прыходзiць
I ўздыхае, як кнiгаўка, падаючы ў лазнякi.
Бацька мой тады посуду лепшага не знаходзiць —
Пачынае ў даёнку лiцца пiва для талакi.

Храпы дражнiць смурод гною, вывезенага на поле,
Адвязеш — зноў, як друг той,
пляцецца з папару дамоў
I садзiцца за стол;
з кубкаў радасць шугае на волю,
Хмель сплятае вянок
з душ лагодных дзядзькоў ды з размоў.

I калi ўжо з-за дыму не ўбачыш на покуце бога,
Хлопцы (вiламi намахалiся) трацяць страх да
дзяўчат,
Маладухай старая тады робiцца для маладога,
Бацька песню сяброў пачынае,
дзе бяды i надзеi зашмат.

Песня вецер наслала,
вецер шапку ратая шпурляе
Ў баразну, i хусцiнкi змушае,
як хмары, ўзгарэцца зарой.
Словы блiзкiя сэрцу,
бо iх нарадзiла нядоля цяжкая,
Свет, дзе поле мяжою ўзарана,
засыпаны вокны кастрой.
Блiзка вёска да вёскi, блiжэй беларуская мова,

І каханне, як гай,
тут шумела ў вяснянках здаўна.
Бацьку я ўпершыню падпяваю,
аж дасюль мяне паляць словы,
Хоць нас з бацькам даўно раздзяляе талака
не адна.

Падымаючы столь,
над апошняй кароўкаю песня галосіць,
Над бядой, што канягу апошняга прадае з малатка,
А каханне слязіну хавае пад вейкі,
як сонейка восень.
Шмат надзей запрыгоніла лютага торгу рука.

Рыдляў гэткіх няма,
каб схаваць імі пекла пакуты.
«Мальцы, сіла ўся ў кулаку!» —
адчай устае з-за стала.
Як у буру страха,
ручка ў конаўкі крышыцца люта,
Сябра цуркі шпурляе, праклінаючы свет без святла.

Разбіваецца песня,
захлынаецца крыўда цяжкая,
Мужыкі папяросіны круцяць,
усмешка ўдавее ў жапок,
Піва смагу не тушыць,
якая падлогу гліняную прабівае,
Як карэньчыкі дня,
што зарою здажджэлай намок.
Разумеюць не ўсе:
талаку трэба склікаць адпойчы, якая,
Небасхіл даганяючы, дзірваны ўсе абудзіць нанoў.

## ПАД ЦЫГАНСКІМ СОНЦАМ

**Партрэт Максіма Танка**

Ты пад сонцам цыганскім
сапраўды нарадзіўся, магчыма?
Ззяе ўсё ў тваім позірку,
днее тваімі вачыма,
І туманіцца чуб твой
павевам начлежнага дыму.
І турэмнага пекла кацёл
не сагнуў цябе покрыўкай з кратаў,
Песні смелай тваёй
крывадушны спадман не сасватаў,
Голас волі набатны
песня чула:
«На катаў!»
Разрываеш драты,
рушыш злыя слупы пагранiччаў,
Бераг з берагам лучыш —
Радзіма з вясновым аблiччам!

Ты пад сонцам цыганскім
сапраўды нарадзіўся,
мажліва?
І няўрымснасць віруе ў крыві,
як вясновае дзіва,
Каб на стромых дарогах Сусвету
не мог ты згубіцца.
Сэрца кажа,
каб чуў ты заўсёды
з Палесся сiнiцу,
Калі слухаеш вікінгаў
сумна-прачулыя сагі,
Калі бачыш слупы Геркулесавы
з гордай адвагі

Ці глядзіш на багіню кахання —
Венеру,
На зямную красу,
што адкрыта цнатліва даверу.
Ты пад сонцам цыганскім
сапраўды нарадзіўся, мажліва?
У душы тваёй шчодрыцца
прага пазнання шчасліва.
Каб ад дому цябе не адбілі
дарог хуткаплынных разлівы.
Сэрца кажа табе,
каб вяртаўся штораняя
з блукання
У той край,
дзе жыве пра Таполю паданне.
Дрэва цемры
бялюткую кветку змарыла,
Бачыў ты
і ўсё клікаў з надзеяю:
— AVE MARIA!
Манастырскія стылі
муры звекавелага Рыма.
Ты пад сонцам цыганскім
сапраўды нарадзіўся, магчыма?
Мара гутарыць з зорамі ўзнёсла,
крылата,
Шляхам дзікіх гусей,
Млечным Шляхам
імкнешся дахаты.
Як пад сонцам цыганскім
сапраўды нарадзіўся ты,
дружа,
Прыязджай у мой край
пад вясёлак ліпнёвых раздужжа.
Чаратовы спакой
табе возера тут нагайдае,

Глыбінёю сваёй
яно Нарач табе нагадае.
І чабор апячэ,
быццам згадка,
узлобак узгорку.
Сцежку польную
ты ўспамінаў у вірлівым Нью-Йорку.
Хлопец з краю сяброў,
сінявы ты пазычыш блакіту,
Як, русявы, цябе апісаць?
Мне палітру сваю падары ты.
Ты ў адказе за ўсё
перад часам і перад народам,
Лёс нялёгкі планеты
запоўніў твой поступ, твой водум.
Бо спажыву дзяліць
думае неспакою груган з кім.
Добра, што нарадзіўся
ты пад сонцам цыганскім!

# Валія Брутанэ



## МАТЫВЫ НОВАГА ГАРАДСКОГА РАЁНА

Як быццам
У далёкіх марах —
Парыж карцінны, трапяткі...
На нашых новых тратуарах
Штодня шчырэюць мастакі.

Ружовы,
Сіні
І зялёны —
Здаецца, сад,
А ці дамы?
Фантазія мікрараёна!
Сустрэцца з ёю рады мы.

Яшчэ асфальт ледзь залілі —
На фоне цёмным урачыста
Растуць,
Як быццам з-пад зямлі,
Абстракцыі прымітывістаў!
Пурызм, мадэрн — усё ўзышло
Шаноўнай крытыцы назло!

Ды шкадавала я
Усё ж,
Калі над горадам праліўся
І змыў непаслухмянасць
Вясновы неразважны
Дождж!
А толькі сонца
Спакваля
Святлом звяселіць тратуары,
І пачынае
Цёплай парай
Курыцца мокрая зямля —

Жывым зазвоніць серабром
Усё,
Што раптам анямела,
І пырсне смехам
Кожны дом
Раптоўна, як стручок паспелы.

І гаманлівая дзятва,
Крылатая ў высокіх марах,
Адчуўшы прагу хараства,
Зноў творыць цуд на тратуарах,
І там ізноў цвітуць сады,
Бягуць і скачуць чалавечкі...
Фантазія,
Твой поступ вечны,
Твой голас —
Толькі малады!

* * *

Ідуць, пасміхаюцца — такія прыгожыя, яркія.
Распушчаны валасы па гнуткіх плячах.
А хлопцы сустрэчныя глядзяць пазнарок абыякава.
Ды іх выдае усё ж цікаўны агонь у вачах.

Ды гэта хіба валасы? На водыры веснім настояны
Галінкі бяроз, што вясною глядзяцца ў раку.
Сусед у тралейбусе сцішаны, стоены —
Духмянаю хваляй ціхутка кранула руку.

Не трэба яе заплятаць у касу. Хай трапечацца!
Хай падаюць белыя, цёмныя, русыя пасмы з плячэй.
Ручай не завяжаш і стужкай. Хай сэрцы хлапечыя
Бянтэжацца роспачна песняй вясновых начэй.

О, крочце, дзяўчаты!
Ідзіце па вуліцы, вольныя.
Няхай уяўляюць прахожыя свежасць крыніц.
Хай вам усміхаецца радасна ўсё навакольнае
Праз слёзы нястрымных, гарэзлівых навальніц.

## ПЕСНЯ ПЕЎНЯ

### 1

Ціха прыходзіць вечар.
Дзіўлюся ў няпэўнай імгле:
Што там — стаіць падсвечнік
Ці певень сядзіць на стале?

Як уляцеў у аконца,
Як адшукаў мяне?

Камбалу смешную — сонца
Цемра вось-вось праглыне.

Быццам пітон ненаедны,
Смокча яна святло.
Хай!
Разьбяны, запаветны
Пеўнік адгоніць зло.

Раніцу ён пагукае...
Па туманах, па вадзе
І па бярозавым гаі
Сонна яна пабрыдзе.

Заружавеюць аблокі...
Мару ганю, як сон:
Певень! Твой крык далёкі —
У бездані Заўтра ён.

2

Заміраючы на імгненне,
Звонкае: «Ку-ка-рэ-ку!»
Коціцца па абшарах,
Нібы спявак прыслухоўваецца
Да сябе — і зноў
Пачынае работу.
Колькі раніц сядзеў ты
На плячы Рафаэля,
Моцнымі кіпцюрамі
Трымаючы мастака
Да часу, пакуль дзяўчына,
Простая, нібы раніца,
Міма прайшла і на карціне
Узнікла Сікстынскай мадоннай?
Хай праляцелі стагоддзі —

Позірк не адрываецца
Ад сарамлівай жанчыны
З хлопчыкам на руках.
Ты весяліўся, напэўна,
Будзячы кожны ранак
Чараўніка другога,
Музыкі чараўніка.
Імя яго кожны ведае:
Іаган Себасцьян Бах.
Дык вось, чараўнік гэты самы
Гукі будзіў, выпускаючы
Крыніцы з-пад камянёў.
Грамы вызваляў таксама,
Але прыручаў іх у храмах;
У гулкай цішы парталаў,
Іх спрабаваў утрымаць.
Дарэмна! Дагэтуль
Цесна сярод цаглін.
А сёння вочы ўзнімаю —
Бачу: ты тут, мой певень!
На шпілі Рыжскае вежы
Усеўся,
Пакінуўшы седала
У бабчыным хлеўчуку.

3

Ён не прыходзіць зарана.
А закрычыць — ад душы,
Быццам ён лёсам абраны,
Быццам іначай — не жыць!

З пер'яў пунсовых і чорных,
Голасам — гукаў каскад! —
Спудзіць самога чорта
І кінецца ў ноч, назад.

4

Яшчэ адзін світанак.
Волі пульс
Маўчаў,
Як гарнастай
У ціхай норцы.
Але,
Як сонца
Адганяе
Кашмары ночы —
Гэтак разбудзіў мяне
Спявак
Сваім адзіным
Гукам рэзкім.
І клічам!
Я прачнулася.
Як вестка
Маёй наступнай волі
І святла —
Драўляны пеўнік
На рагу стала.

## БУДЗЁННЫЯ ШЭРЫЯ ТАПАЧКІ

Старыя вы, стаптаныя гадамі,
І стомай, і нястомнаю хадой,
Ах, тапачкі! Не развітацца з вамі,
Як з радасцю той даўняй ці бядой.

Узніме да аблок абцасік тонкі,
Закружыцца ад шчасця галава.
Але ў любові, непрыкметнай звонку,
Чамусьці болей давяраю вам.

Калісьці мама песціла, як кветку,
Ахоўвала ад злыбяды парог.
Адданасці яе нямыя сведкі
Дапамагалі ёй — за крокам крок.

І я ўваходзіла ў жыццё, бы ў казку.
Як бесклапотны, светлы матылёк,
Ляцела ўперад, лёгкая, у бляску...
Глядзела мама на мяне здалёк
І крылцы гладзіла з самотнай ласкай.

Аб прынцах і карэце залатой
Я мроіла калісьці апантана.
Каб мне не развітвацца з марай той,—
Хадзіла мама ў тапачках стаптаных.

Ці помніш —
на світанні я прыйшла.
Ад джала пацалункаў аж гарэла
Шчака. І неслі крылы са святла!
І светлай сілай поўнілася цела.
А ты чакала — легчы не магла.

І мне глядзець было адна пакута
На рукі, што трымалі фартушок.
На ногі, што ў пантоплікі абуты,
На валасы, што пабяліў сняжок.

Мой рыцар меўся заўтра прыляцець.
І мне здавалася вялікім горам:
Ён на цябе захоча паглядзець,
А ты такая...
ў гэткіх тапках... Сорам!

Але прайшлі, пранесліся гады,
І мудрасць мне прыносіў ціха смутак.

Я зразумела ўрэшце: сапраўды
Лягчэй ісці, калі такі абутак.

І я пайшла. Пайшла за крокам крок!
Як аблівалі кіламетры потам!
Жыццё, я зразумела твой урок:
Ствapae нас штодзённая работа.

Што б вы сказалі, шлёпанцы мае,
Каб слова дар вам падарыла неба?
— Пустая мітусніна ў бубны б'е.
Вынослівасць маўчыць. Ёй ціша трэба.

## Валдзіс Руя



### ЦЫГАН У ТРАМВАІ

Так, цыган я! Ну і што ж рабіць?
Іншым мне давеку не быці.

У кумах са знаццю не хадзіць...
Бацька дзе? Не помню. Вецер свішча
Ў яр лясны, дзе вораг іх панішчыў,—
Маці-прыгажуню (як тут быць?)
Звёз сілком туды, дзе нам не жыць.

Піскуноў мурзатых гурт карміла
Наша бабця на апошнім жыллі...
Што цыган? Ён за́мкі з хмар будуе.
У кішэнях — жарты. А пайду,—
Як памру,— туды,
дзе ўсе вандруюць...

Што глядзіш, адпрасаваны слон —
Ні ў мяне сухотаў, ні каросты.
А смурод не ад мяне, бо ён
Прэ — аж храпы людзям верне — проста
З-пад хваста лісіцы ў нафталіне,
Што на шыі у тваёй жанчыны...

Не прашу «пазалаціць далонку»,
Шчасце абагні ды йдзі старонкай.
Усё адно найбольш яно варожыць
Бессаромным і... без іскры божай.
Проста пацясніцеся. Ў трамваі
Я не «заяц». Месца ўсім хапае.

Божы свет аднолькава належыць
Тым, каго пад ручкі пхнуць да ежы,
Нам, хто стомлена ідзе ля коняў...
Што багам кашэчыя праклёны?

## ЛАТДЫВІЗІЯ ІДЗЕ

Ці не Даўгава ўскіпела,
Лёд ламаецца ў вадзе.
Паглядзіце, як да мора
Латдывізія ідзе!

Хто не вернецца з атакі,—
Песня славы давядзе.
Час не затрымае лаву.
Латдывізія ідзе!

У магіле брацкай цесна
Палымянай грамадзе.
Як адзін, стралкі ў шарэнзе —
Латдывізія ідзе!

Барва кронаў — як паходня
На знясіленай вярсце.
Па Лавацкай, Слокскай гліне
Латдывізія ідзе.

Тут спакойна — шэрай плыні
Не спаткаеш анідзе —
Кроў стралкоў
У моры кожным:
Горкай соллю — у вадзе.
Латдывізія ідзе!

Без канца жыцця дарога...
Сцяг чырвоны нас вядзе...
Насцеж дзверы,
Насцеж дзверы!
Латдывізія ідзе!

## СПАДЧЫНА

Радзіма — промні позірка,
Глыток з ляснога возера
І мора неабдымнае,
Сляза матулі горкая
І прыпаміны дымныя.

Радзіма — слова ветлае.
Мая Айчына светлая,
Услаўленая дайнамі.
Бацькоў жывая спадчына
Сынам сыноў дaручана.
Балючая,
Пякучая.

* * *

Спыталі ў мяне: «Не стамляешся ты
Ад скварy, ад золі, ад вечнай слаты...
Успомні: бязветраны ёсць сацапёк,
У лесе лагодным зацішны пянёк...»
А хваля ракі ці стамляцца пачне?
Ці стоміцца парастак у баразне?
Ці стоміцца рунь у жывой цішыні?
З жыццём я з'яднаны — ўрастаю
У дні.

## ЗАРАПАД

Нечы крык таропкі
Ў цішыні ляціць.
Зорка, нібы з гропкі,
На зямлю глядзіць.

Сэрцу дай натхненне,
Зораў карагод.
Кожнае імгненне —
Гэта зорны год.

Не сланечнік горкне,—
Вусны... Але ўсё ж
Ад світальнай зоркі
Зорны ў сэрцы дождж.

* * *

Мармур мемарыяльны,
Людзі, тоіць памылку:
Я не быў невядомы.

Днём тым, калі спатканне
Першае ўсхвалявала,
Я не быў невядомы.

І калі на паверку
Упершыню спазніўся,
Я не быў невядомы.

І калі спатыкнуўся
У перабежцы апошняй,
Я не быў невядомы.

Той ўзмежак — нязнаны,
Дзе зямля паглынула?
Быў дазор партызанскі —
Я не быў невядомы.

Шэры дзэлзаўскі камень
У маіх галавах —
Я не быў невядомы.

Трапяткое імя
З вуснаў родных не знікне —
Невядомым не буду.

І ў суніцах духмяных,
І ў дзіцячай усмешцы
На світанні жыву я —
Невядомым не буду!

# Алфрэдс Крукліс



## ЯБЛЫНЯ

Дзе Даўгава чыстая льецца,
Там яблыня расцвіла.
Да сонца каронай імкнецца,
Галіны угору ўзняла.

Ці лета сухменем прапахла,
Ці снег заносіць яе —
З празрыстае Даўгавы прагна
Яблыня п'е.

Ад часу скрышыліся скалы.
А яблыня — ў цвеце вясной.
На тонкіх галінках трывалых
Ты кветкай здаешся адной.

Маленькая кветачка плодам
Увосень лашчыць пагляд.
Ты з Даўгавы піў з асалодай,
За лёс і жыццё быў рад.

Як бура зямлі на далоні
Кідае плод залаты,

Ля Даўгавы неспакойнай
Заціхнеш гэтак і ты.

Над хвалямі ўсходзіцца вецер.
За годам прамчыцца год.
А яблыня будзе ў цвеце,
Яна — твой народ.

## БАЛТЫЙСКАЕ МОРА

Мора Балтыйскае — сіняя стынь.
Сонца нырае ў халодныя хвалі.
Мора Балтыйскага светлы бурштын —
Слёзы, што продкі ў салёныя дзюны ранялі.

На берагах тваіх
Мужчыны мужныя растуць,
Ад соснаў векавых
Вынослівасць жанкі бяруць.

Ні ветры, ні дажджы
Не спыняць нашае хады,
Бо хто ля мора жыў,
Той будзе сэрцам вечна малады.

Мора Балтыйскае — водбліскі зор,
Горкі глыток п'ю з прадонных глыбіняў.
Мора Балтыйскае — вольны прастор.
Думкі бягуць караблямі па роўнядзі сіняй.

## ПЕСНІ МОРА

Сінія песні мора —
як Латвіі небасхіл,
пад ім рамонкам белым
лёс мой шчаслівы цвіце.

Зданямі з хваляў пенных
не хмары паўстаюць,—
на вострыя скалы гоніць
вецер нядолю маю.

З крыкам у прорву сінюю
не чайка з-пад хмар ляціць,—
каханне маё непачутае
зічкай спадае, гарыць.

Песня ж застаецца,
сіняя песня мора,
як Латвіі небасхіл,
пад ім рамонкам белым
лёс мой шчаслівы цвіце.

## АРЖАНОЕ ЗЯРНЯТКА

Я — зярнятка аржаное —
сонца яснае люблю,
вераснёвай навіною
прадзяўбу, праб'ю зямлю.

Дасць цяпло і вільгаць неба,
каб расці і красаваць,
каранямі ж моцна ў глебу
мне ўглыбляцца і ўрастаць.

І ні бурай, ні віхурай
не палохайце мяне,—
пад надзейнай снежнай гурбай
буду і ў мароз рунець.

А калі ў жніво на поле
прыйдзе рупная жняя,
лопне з радасцю мой колас,—
зернем зноўку стану я.

## ПТУШКІ, ЯКІЯ НЕ ВЕДАЮЦЬ СТОМЫ

Ёсць птушкі,
Што лётаць не ўмеюць на волі,
Таму, што іх крылле не ўносіць удаль.
Яны не пабачаць прастораў ніколі,
У сне могуць толькі прысніць іх, бадай.

Ёсць іншыя птушкі, якія праз горы,
Праз рэкі і моры пускаюцца ў шлях.
Іх вабяць залітыя сонцам прасторы,
Іх кліча наперад бязмежны прасцяг.

Жыццё іх цяжэйшае — шмат небяспекі,
Але яны крыл не складаюць амаль,
І нават калі закрываюць павекі —
Апошні раз глянуць ім хочацца ўдаль.

Вось так бы і нам — не драмаць каля дому,
У цёплым і ўтульным гняздзе не сядзець.
Як птушкі,
якія не ведаюць стомы,
Павінны мы ўперад ляцець.

## ЯДЛОВЕЦ

На ядловец багаты мой край —
часта ў лесе спаткаеш.
На ядловец багаты мой край —
цвёрды ён, нібы камень.

Гнуць яго можаш ты да зямлі,
ды не зломіш:
ён жывучы і моцны ў камлі,
наш ядловец.

Мне бабуля казала, што ён
у пашане заўсёды,
бо прыносіць у хату плён,
ў сэрца — радасць і згоду.

Служыць нават ядлоўцавы дым
чалавеку,
бо хваробы выкурваюць ім
лепш за ўсялякія лекі.

На ядловец багаты край мой —
гнуткі ён і няломкі.
Як і летам, зялёны зімой
наш ядловец.

З лесу лапкі ядлоўцу сыны
прынясуць перад святам.
Веру, выкурацць дымам яны
злыбяду з нашай хаты.

## НА ТОНКАЙ БЫЛІНЦЫ ХІСТАЕЦЦА БЯДА МАЯ

Сівер ненавісны, моцна так не дзьмі,
не хістай былінку злой маёй бяды.
Можа, хочаш сілай мерацца з людзьмі,
каб навек замесці ўсе мае сляды?

Ветрыкамі мелецца наш мінулы дзень,
гора з крылаў капае
песнямі нуды.

Кружацца дзятламі цені вечароў,
злыдні сумна выюць ля чужых двароў,
морак напаўняецца свістам непагоды,
ды яшчэ памольшчыкаў галасы чуваць,
ды яшчэ танцуюць жорны сонны вальс,
чуецца сапенне задыханых мяхоў.

Сівер ненавісны, моцна так не дзьмі,
не хістай былінку злой маёй бяды,
бо і я калісьці знікну за гарой
і сляды пакіну на зямлі сырой
гэтак, як памольшчыкі — рэха галасоў,
як пшаніца — ўздыхі з ільняных мяхоў.

Сівер ненавісны, моцна так не дзьмі,
не хістай былінку злой маёй бяды!
Застануцца доле і мае сляды.

## ВЯЧЭРНЯЯ КАЗКА

Вечарам цёплым,
вечарам чэрвеньскім
выйшла з калодзежа
казка вячэрняя.

Косы зялёныя
вецер ёй трэпле.
Месяцу крыкнула:
«Дружа, карэту!»

Плечы прыкрыла
шалікам бэзавым,
бусла запрэгла
белага, белага.

Клікнула мне,
каб хутчэй я прыбег,
сказала — паехалі
мы да Цябе.

Еду па сёння
красці цябе я.
Крыламі бусел
ночы развеяў.

Еду, шукаю
след твой дзявочы.
Крыламі бусел
здзьмуў і дзянёчкі.

Я ўсё чакаю:
вечарам чэрвеньскім
выйдзе з калодзежа
казка вячэрняя,

лейцы мне ў рукі:
«Буду тваёю...»
Так праз жыццё ўсё
мне гнацца за ёю...

# Язэпс Османіс



## АДКУЛЬ?

Мяне запыталі:
— Адкуль я, чый сын?
Адтуль,
дзе ўзнімаецца Гайзінь з нізін,
Дзе шэпчуць з нябёсамі хвой верхавіны.
З дзівоснай, з блакітнай,
з бурштыннай краіны.

Я з Латвіі родам,
я сын латыша.
Як Балтыка,
дыхае вольна душа.
Я песню сваю
прысвячаю народу,
Што болей за ўсё паважае свабоду.

Дзе Даўгавы велічнай плешчуцца хвалі,
З дзяўчынай бялявай
нас вербы хавалі.
Нясу праз жыццё я
любоў да дзяўчыны,
Любоў да сваёй айчыны.

Мяне запыталі:

— Адкуль я, чый сын?

Адтуль,

дзе ўзнімаецца Гайзінь з нізін,

Дзе шэпчуць з нябёсамі хвой верхавіны.

З дзівоснай, з блакітнай,

з бурштыннай краіны.

## БЯРОСТА

Той, хто знаёмы з моваю бяроз,
Пачуе голас і сваёй зямлі.
Яго з радзімай не разлучыць лёс,
Куды б няўзнак шляхі ні завялі.

Хто сэрцам чуе стогн гары крутой,
Хто неаддзельны ад лясоў і рэк
І мову сокаў разумее,— той
Шчаслівы самы ў свеце чалавек.

Здаецца мне чамусьці іншы раз,
Нібы народ мой —
белакоры гай.
Здалёку па бяросце белай нас
Заўсёды людзі пазнаюць няхай.

## ЖАЎРУК

Ранак дзевятага мая
Пышна нявесціў сады.
Упершыню, здаецца,
Чуў жаўрука я тады.

Босы і праставалосы —
Свежаю баразной
З радаснай весткаю з дому
Бег я да маці сваёй.

Скрозь аралля бліпічэла,
Быццам змакрэлы брук.
Раптам я чую —
                    над полем
Мірна звініць жаўрук!

Маці за плугам хадзіла...
Бледны,
          схуднелы хлапец —
Я на ўсё поле, здаецца,
Крыкнуў:
          — Вайне канец!

Плакала маці ад шчасця,
Позірк разгублены днеў...
Ранак дзевятага мая
Нам жаўруком звінеў.

## З ЛЁГКАЙ ПАРАЙ!

Люблю дагэтуль шчыра,
                    па-юнацы
Я тых людзей,
          што мне жадалі ўдачы.
Вось клапатліва маці ў таз вялізны
Кладзе мачалку, мыла, стос бялізны.
Нібыта благаслаўляючы,
                    гаворыць:

— Папарцеся! —
і ўсмешку бацьку дорыць.
Блакітнаю хмурынкаю здалёку
Здаецца лазня ў вечаровым змроку.
Ідзем назад. Вакол нямая ціша.
Ані лісточка вецер не калыша.
Мядзведзіца няздзейсненаю марай
Гарыць над затуманенай імшарай.
Ласкава маці кажа:
— З лёгкай парай! —
Мы з бацькам «дзякуй» выдыхаем маці,
Пасля палка нам ахалодна ў хаце.
Калі ў палях займаецца світанне,
Я ўспамінаю матчына вітанне.

## КАЛІ?

Размова маці з сынам...
— Калі, скажы, ты, сын мой дарагі,
Паспееў перарасці мяне і татку?
Мне не адолець смутку і тугі,
Пакуль шляхі-дарогі ў нашу хатку
Цябе ізноў, сынок, не прывядуць...
— Прабач мне, мама! Ўсё няма калі...
Дарогі міма йдуць.

## РУПЛІВАСЦЬ

З шышкі разгалай хвоі
Выпала дробнае семечка.
Вецер яго падхапіў і панёс —
Лёгкае і крылатае —

Па-над лясной палянай.
Глеба забрала яго,
Дождж напаіў,
Сонца сагрэла,
Елка сабой
Засланіла ад ветру
І ціха ўздыхнула:
— О толькі б яно расло!

## ЖУРАВЫ

Ранішні дым,
                    што ахутваў гароды,
Плынню блакітнаю сцёк у равы.
Зноўку ляцяць успамінаў чароды
Ў небе вясновым,
                    нібы журавы.
Я аніколі не здраджваю звычцы
Дні, што мінулі, гукаць па вясне,
Хоць і здараецца —
                    на пераклічцы
Чорныя дні адгукаюцца мне.
Дні,
     што вучылі абуранай міны
Не прынімаць, хоць навокал мана.
Дзе прызямляцца мае успаміны?
Хмурнай ці сонечнай будзе вясна?
Часта мы з чорнаю зайздрасцю дружым,
Праўду імкнемся з хлуснёй парукаць.
Хочацца быць мне пяшчотным і дужым,
Не ашукацца,
                    не ашукаць.

# Візма Бэлшавіца



* * *

Візма * — месяцава сцежка,—
Як жывеш ты бляскам поўні?
Добра з хваль у морак ночы
Серабрыцца па сутонні?

Кілем лодка цябе кроіць,
Дробяць вёслы на асколкі...
Што вясло! — параніць лёгка
Золкі бляск былінкай зёлкі.

Толькі на іскрынкі пробліск
Боль твой высветліцца крохка,
І слязамі плачуць кроплі
Ціха, вычужана, дрогка.

Аддаеш усім святло ты,
Ды ніхто цябе не мае,—
Толькі белая самота
З хва́ляй рэчкі не сплывае...

---

* Візма *(латышск.)* — месяцава сцежка.

## ВЕРШ ПРА САЛАЎІНЫ ІНФАРКТ

Вочы твае — мой асветлены золак.
Ціша зацятая. Ў шэра-блакіце.
Зжыць паўжыцця і не знаць, які прыцем
Золкай зары?
Светлая просінь у ценях-аблоках.
Чуйная ціша. У шэра-блакіце.
Вочы твае —
                    мой прасветлены сполах.
Свету — першы парыў.

Хіба ж не дзіва —
                    што ў цішы цесна
Свету, калі ён чыстасці просіць
І кожную траўку золка абросіць
Смуткам зямлі?
Гэта ёсць міг, калі птушцы песня
Горла сутаргаю перакосіць,
Досвітку міг, салавей на паўноце
Памірае калі.

Я не баюся.
                    Гляджу ў твой золак.
Трэба мне ўмольнае ранне ў блакіце —
Свет адкрываць з паўжыцця, у адзін дзень,
На палавіне сіл.
Можа, на споведзь не стане іх, кволых,—
Песня чысцейшая з песняю прыйдзе.
Вочы твае —
                    мой асветлены золак,
Свет мне згасіў.

## СЛОВЫ ПРА ВЕРБЫ

— Што гэта? — грозна Чыноўнік спытаў у Рэдактара і паказаў на часопіс.
— Дзяўчына,— Рэдактар сказаў.
— А ў руцэ што? — яшчэ грозней Чыноўнік.
— Галінка вярбы,— адказаў Рэдактар.
— Велікодны сімвал на вокладцы часопіса? — крыкнуў Чыноўнік.
І тады я сказала:

Высечыце па ўсёй Латвіі вербы і лазаніцы!
Спасу, ратунку інакш вам не будзе ад лютай вярбы!
Круглыя галавы іх серабрацца абапал гасцінцаў,
З кожнага урвішча, яра трымцяць іх сівыя чубы.
Першыя вербы на пашах канец зімавання
разгледзяць —
Ў сцюжу пупышкі вылушчваюць на абынелым галлі;
Вербы, святыя паўночнікі, ў німбах коцікаў свецяць,
Веру ў вясну адпакутваюць і адраджэнне зямлі.
Пільны чыноўнік, магу прысягнуць: пра вялікдзень
не зналі
Звеку латышскія вербы, ракіты і вербалоз,
Толькі баль крыгаходу ў паводку яны святкавалі,—
Вербамі сонца вясною зямную расквечвае вось.
Што ж, калі змалку вярбовае ласкі не зведаў шчакой
ты,
Сцежку ў падталым снезе не вёў да абвіслых лоз
(Высечы і запомні!). Не знаў у жыцці пяшчоты,
А накануеш цяпер. І енчыш: — Цынізм падрос!
Высечыце само слова са слоўнікаў, з песень пад
корань;
Нават з дубца аджылкуецца свежая зелень ракіт.
Бо інакш памяць людская люляць перастане няскора
З сэнсам знявечаным вербныя дубчыкі і каташкі.

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ГЛЫБІНІ

1

Шаленне марское, заглыбленасць нетры,
Прывіднасць зыбу зорнага сяева,
Ручай на паляне, разважлівасць лепры —
Хто гэта вылечыць неабачліва?

Сэрца — маланкаю зыркаю у гніенне
Сажалак і шарынніку ўдарыла,
Зорак і ветру буйное карэнне
Побач з глыбінямі каб уладарыла.

Марна.
Глыбіні і плыткасць гавораць
Надта далёкімі мовамі, неспалучнымі,
Не перакласці на чорны гул мора
Сонцам злацаныя думкі рачулчыны.

2

Хай ручаі дакараюць зласліва
Мора за трупы тапельцаў, пачварыны,
За кветкі, украдзеныя прылівам,
За пену, за бруд, прыбоем нахарканы.

Святлом прасякнутыя ручаіны
Цурчаць і хваляцца сонцу выгодамі.
Стогнуць ад цяжкае працы глыбіні,
Узвіраныя турбінамі, параходамі.

У мора, бы ў грузчыка,— чорныя грудзі;
Ручаіны плёткамі, скаргамі бавяцца,
Вырак выносяць мелкаводныя суддзі
Працы, якая не ўмее апраўдвацца.

Так было і так будзе. Ніколі драбнота
З грозным, вялікім суседам не звыкнецца.
Што, зрэшты, мору? — была б работа,
І глыбіня ў чалавечнасці прымецца.

## БЕЛЫ АЛЕНЬ

Зайцаў шанец — петлі. Птаству затаіцца
Перад небяспекай трэба. Рысь — як цень.
Мільгане за рыжым хмызам бліскавіцай
Рыжымі бакамі станісты алень.

Мабыць, трэба так. Каб не звялася вера
Ў бессмяротную красу жывой душы:
Моўкне ў жылах сцежак чуйны поступ звера —
Хараство хаваецца ў лясной глушы.

Белы быў алень. Ён хітраваць не стане,
Дый куды яму, выгнанніку, ўцячы?..
І ўначы блукае дзіўнай светлай зданню,
І прытулку не даюць яму карчы.

Сціснуў рэбры воўчай кодле люты голад.
Як страла ляцеў алень... Упаў... Зароў...
Стылі птушкі ў дуплах...
Плыў туманам холад...
Белы быў... Чырвоная і ў белым кроў...

І калі распора ікламі з захмар'я
Рану золкі маладзік у цішыні,
Над касцямі вые спрагненая зграя,
Сытая ад неўміручай чысціні.

## ВОЎК

Хоць як ні кармі, а воўчая будзе
На лес азірацца спрадвечная дзікасць.
Хай лёгкі ланцуг, хай цёпла ў будзе —
А ўсё ж не падзякуе воўк за літасць.

Воўк лесу не здрадзіць за мяса кавалак,
За словы ліслівыя, ўтульны куточак,
Не хоча ён слухацца палак ласкавых.
А можа, не чуе? Ланцуг дзылінкоча.

Бо толькі сабака ў нашыйнік лезе,
Бо толькі сабака — карніка ліжа.
Не совайся з міскай — воўк вырас у лесе,
Не гладзь — бо цапне за пальцы хіжа.

Як духу не хопіць даць волю ваўчыску —
Забі.— Ланцугом яго нораў не путай.
Бо толькі сабака служыць за міску,
А воўк не абвыкнецца з псінаю будай.

## МЯДЗВЕДЗЬ

Мядзведзь з мядзведзіцаю на пашлюбінах —
Закон лясны. Мядзведжая самота
Упарта выспела, нібы на купінах
Барвянец журавін сярод балота.

Суперніцтва не знае ў бітве злагады:
Закон лясны,— у выдзюжцы, у спрыце.
Мядзведзіца, утоптваючы ягады
У снег, насустрач пераможцу выйдзе.

Слабейшаму тут першынствам не цешыцца,
Закон лясны — суровы, адназначны:
Тут кволаму не біцца за мядзведзіцу,—
Агнацца б толькі ад гайні сабачай.

Няма ў людзей законаў цвёрдай мужнасці,
Тут слава дастаецца і слабому:
Мядзведзіцу — адзіную — па дружнасці
Слабцу мацак сілком вядзе дадому.

На развітанне торкаецца пальцамі,
Далоньку ціскае і нешта слініць,
Ды йдзе на мёрзлы журавіннік пасвіцца,
Пакуль кіслінаю не звяжа сківіц.

## СОН

Гэта быў міг.
Я руку адхапіла
Ад жылкавата-зялёнага каліўца,
Боль кветкі аддаўся мне ў целе
Высмяглым жарам,
Як болем дзіцячым матчына сэрца.

Пада мной моўчкі гінулі жыцці істотаў
І народы травы, растаптаныя мною.
Як я іх пачула...
І як здранцвелі
Злачынныя ногі, адчуўшы сябе бядою.

Як прасіла я дзіва!
І сталася дзіва,
І стала я хмарай, плыву над палеткам,

Каб нават пылок нагамі не стрэсці,
Каб нават расінкі не страціла кветка.

Як прагна блукала я хмарай па лузе —
Каго б напаіць?
Ляцела і марыла хмарна,
І кожную кропельку шкадавала,
Якую згубіла, растраціла марна.

І пралілася з жалем гарачым над лугам,
Над кожнаю смагай,
Над стомай кожнай,
Пакуль не растала ад шчасця,
І ўбачылі кветкі
Наскрозь, праз мяне, ў нябёсах раскошу.

Прачнулася я ў слязах.

## ЧАБОР

І сказаў мне чабор: — Я, каб ты ведала,— дрэва, не квецік які там, сякі там, і маю прасіць у цябе адпаведнай пашаны.
І сказала яму я: — Даруй, бо не ведала я, што ты дрэва, не квецік які там, сякі там, і буду цяпер з адпаведнай пашанай трымацца.
У пушчы, бары не паткнуся. Хадзіцьму цяпер па гушчобах чабровых; пра дубровы, вядома, цяпер і гамонкі ніякай наогул; над галавой будзе пошум чырвона-блакітных красак чабору, журбоціца-скруха ды бессань адыдуць без следу (ведаеш, бессань — чарнота былога, чарнота таго, што чакае, на покліч збярэцца), і

Буду гуляць на самоце. Яго я з сабой не вазьму,— не ведае бо, што ты дрэва, не квецік які там, сякі там, не собіць яму адпаведна пашана (таксама ж не ведае ён, што яго я ўсюды заўсёды ў сабе пашу, як боль зацвярдзелы ў касцях, які мала калі я ўжо не адчуваю).

І ўвогуле я спадзяюся, што дым твой барвова-блакітны яго з мяне выкурыць, каб сама за сябе я саромецца болей не мела — у веку маім, разумееш,— барок-чабарок, у гадах, і калі ты не здолееш рады мне даць,—

Я сказала чабору,— сам-насам, даверліва — прыйдзе такая хвіліна, што буду шукаць моцны сук, зрабі ласку, успомні, што дрэва ты, а не квецік які там, сякі там, бо табе давядзецца тады адпаведна трывала трымацца.

І сказаў мне чабор: — Вешацца йдзі па вужоўнік! Ён — дрэва смерці. Я — дрэва жыцця. Сама ведаць павінна. Я не баюся цяжару твайго: я ўтрымаю самага тоўстага кадаўб-чмяля з усім яго мёдам, не толькі цябе, пустазвонку. Бо толькі здаецца табе, што ты маеш вагу,— адказаў мне чабор.

## СМЕХ

І падняўся тады Хрыстос на Галгофу
(Як жанчына на горыч свайго паўвеку),
Ён ішоў на гару крок па кроку
Сярод мора людскога галёкання, смеху.

Пагарджаны (як маці сівая), над здзекі
Валокся, прыгнечаны крыжам, жалобны.—
Вірыліся ерусалімскія дзеўкі,
Юрліва смяяліся смехам ваптробным.

І пальцам Марыю праводзілі ўпрочкі:
— Глядзіце на гэту старую нябогу! —
І вабна, залётна падміргвалі вочкі
Іосіфу — ці, можа, нават — богу.

І бог ажно млеў ад гэтага смеху:
Бог быў — сама ў росквіце моцы хлопец,
Ён забыўся, смакуючы загадзя ўцеху,
Хто родзіч яму тут, каторы галгофец,—

Ці гэты чарвяк з яго крыжам, з юдоллю,
Ці жанчына, што рве валасы звар'яцела...
А смех сыпаўся сыну на раны соллю
І дзідамі маці распорваў цела.

А ў небе ўсміхалася сонца, нібыта
Зазыўная шлюха з любоўю сваёю.
І ён узышоў... І цвікамі прыбіты...
І пасмы сівых валасоў з крывёю...

Апошнія словы, апошнія стогны,
Не ўчутыя ані людзьмі, ані богам...
Ай, дочкі Сіёна,— крутыя сцёгны!
Ай, дочкі Сіёна,— здаровы ваш рогат!

* * *

Я не пастукаю табе у шыбу,
Не гляну ў высветленае акенца.
Вазьму каромысел на плечы, выйду —
Сцюдзёна вільгаць студні азавецца.

Я зыркай ночы зачарпну дапоўна
І прынясу дахаты асцярожна,

Прысяду моўчкі на краёчку ўслона,
Забыўшы, па ваду ішла навошта.

Чаго ішла? Каб плечы навярэдзіць?
Бо, зрэшты, я ж не прагнула напіцца,
І не цябе. Паслухай, як салёны вецер
Да дзюны сціхлай прагне прытуліцца.

Са мною моўча вусцішнай пяшчоты,
Яна прасіць не будзе добрай ласкі.
Так ночы кветка падстаўляе шчокі...
Маўкліва росы выпалі на краскі.

* * *

Ты — даруй. Дуб скідае сукі.
Не ламаючы. Самахоць.
На кары толькі горкага вока
Рудая плоць.

Сухое вока. Магчыма, балюча тую
Гадзіну згадаць,
Калі моўчкі ўсвядоміць трэба
І вечнай восенню стаць.

Пакідаю цябе. Доўга пешчаны сук
Ападае няўзнак.
А далей — немата. За зімою
Сівая вясна.

## ШЫПШЫНА-РАДОСТА

Як на магіле сабака — радоста глядзіць з крапівы.
Як на магіле сабака — расу ліжа ноччу з травы.
Ляжыць, не ўстае і аддана, і верна яшчэ цвіце.
І слухае чуйна — дзесь тут гаспадыніна думка ідзе.
Як ад болю, паспелыя трэскаюць вішні ў садах.
Як слёзы, кропелькі цяжкай расы па сівых палынах.
Адвярнуліся птушкі, не могучы здзёўбваць тых слёз.
Як уздых, покаецца на ствалах бяроста ў бяроз.
Як далоні старэчыя, сшэрхлі страха і труна,
Якая на вышках, счарнелая ўжо, глядзіць з-пад
радна.
Яшчэ не выносяць. Яшчэ ўсё жывая яна. Тут адна.
Яшчэ дом штодня абыходзіць у думках і ў снах.
Яшчэ прыйдзе той міг — як веек няўлоўны ўзмах.
Сын прыедзе, зніясе дамавіну, ў дарогу збярэ.
І ў плынь пахавальную вішні пасыплюцца з дрэў.
Як на магіле сабака,
Радоста памрэ.

* * *

Час жыць, час паміраць. Не паміраць —
А ў поўным шчасці з вышыні палёту
У боль, нібыта ў возера, ныраць
З крылом прабітым і не разбіраць,
Ці гэта смерць ідзе з зарадам шроту,
Ці адраджэнне сілы. І аплоту.

## Харый Хейслерс



* * *

Не раз так можа стацца і сягоння,
Бывае з наймагутнейшымі з нас,—
Гарачы лоб кране цяжкой далоняй,
І прымушае слабасць: здайся, брат.

У лужынах счарнелі ўсе дарогі,
Крыніцы, як замутнены да дна,
Хоць пад зямлю правальвайцеся, ногі,
Калі ўсім смех, ты ж — блазната адна...

Табой стаптаны дол не дасць ратунку,
Адольвай слабасць сам, распальвай кроў,
Каб не вычэрпваць радаснага трунку
З упартасцю нязломнай зноў і зноў.

Без мары — нельга; мара — гэта смеласць;
Каб ведаць, заблуджацца можна нат...
Я дзякую, што выбачаць ты ўмела
І за падтрымку: «Не здавайся, брат!»

## ПТУШКА ШЧАСЦЯ

О даўніх, добрых казак цуд світальны,
Дзе птушка шчасця ў нетрах баравых!..
За годам год — махалі развітальна
І абяцалі:
«Зловіце і вы...»

Як зловіце, не выпускайце болей,
Мацней трымайце з сілай маладой,
Бо часта ў звонкіх днях старонкі долі
Яна гартае і чужой рукой.

Не выпускайце!..
Ажывае казка,
І птушцы шчасця верадь далані,
Калі яна на плечы
з песняй-ласкай
Апусціцца
і шэпча ў цішыні:

«Мацней трымай жа...»
Разумею, чую,
Вятры ўздыхаюць
рэхам у акне,
Ды зноў сябе праз міг нібы карчую:
— Ці стане сілы на шляхі ў мяне?!

Шлях па гарах завабна ўецца змейкай,
Дзень новы сыпле ў золак вугалі...
Трымаю!
І — спатрэбіцца,— займею
Ўсе сілы прыцягнення ўсёй Зямлі!

## ЖУРАВІНЫ

Быццам дзед у люльцы прысак чынна
Пальцам прыгасіць ніяк не змог,
Парассыпаліся журавіны,
Счырванілі пасівелы дол...

Ззяюць і не зразумеюць светла,
Просяцца пакінуць іх ці браць,
У палоне бабінага лета
Знебыліся спелыя, відаць.

Запаветны дзень — жаданы ратай.
Выбірай!
Не,— выбера другі...
Верацъ цвёрда ранкам тым дзяўчаты
Ў шчасця запаветныя кругі.

Нехта прагне нейкіх вітамінаў,
Нехта — соку ўдосталь, як вады,
Нехта — смутак ссаладзіць нявінна,
Калі «горка!»... крыкнуць маладым.

Толькі журавы на ўскрайку бору
Не пытаюць, што пакінуць ім.
Крыламі іх адмяраць прасторы,—
Хутка ж снег рассцеле свой кілім.

Эх вы, людзі! Не шчырэйце ў працы
Драбязу зграбаць з апошніх сіл.
Нешта птушкам мусіць жа застацца,
Шлях праверыць дужасць іхніх крыл.

І не толькі ў цёплы край далёкі,
Каб вярнуцца з выраю дамоў,
Журавіны апякалі шчокі,
Спавядалі крылы жураwоў.

## ЦЕПЛЫНЯ

Неяк летась, абхапіўшы плечы,—
Пальчыкі ў руцэ маёй трымцяць...
Крочыць поруч сынам чалавечым,
Нібы ў жарт, у свет маё дзіця.

Шлях не з тых, што самыя даўгія:
Крок адзін ступлю, а ён — аж тры,
Ды хто адкажа, далечы якія
Зведаюць ягоныя вятры?

Праз якія радасці і тоні
Павядуць, як зман, у золак дня,—
Шорсткае цяпло маёй далоні
Іншая заменіць цеплыня.

З громам недзе стане сын спрачацца,
Запражэ ў карэту сонца, дождж,
Ды і ў самай дарагой пальчатцы
Цёплай нейкай ніткі збракне ўсё ж.

Ніткі з пражы свойскае — суровай,
Той, што ссукае нат святы,
І ў якую ў позні дзень зімовы
Сэрцам, бы ў бяссмерце, верыш ты.

Ну, а шлях вядзе да небакраю,
Дзе адчай — слязою на шчацэ:
Зноў рука, тады зусім слабая,
Ляжа ў іншай, моцнай больш руцэ.

## ВОСЕНЬСКАЯ БАЛАДА

Ні дня без новага радка!..
Ці чулі, вось ён — вершатворны лёс,
І гляньце — ўжо заезджаны Пегас
Духі ледзь пераводзіць.
Паэзія — яна, нібы зямля,—
Ці сад, ці ніва, дзе радком прарос
З-пад плуга колас,
Што радкі ніў панародзіць.
І рытмы тут шукаць нашто,
І рыфмаў дактылічны склад,
Калі, нібы браты, бурак ля бурака,
Фасоля трапіць прагне ў міскі.
А лес рагі ўздымае, як алень,
І петлі ўе хмель на вясёлы лад,
І мроіцца вяршыням у бары
Быць бэлькай над той крук, што для калыскі.
А вырай ластавак падзе
На правады чародкай чорных нот,
І восень з жэзлам залатым,
Як дырыжор, ля пульта стане,
Баладай гэткай, знай, Радзімы плён
Уздымецца да сонечных яснот,
Што будзеш чуць аж да сакавіка
У цёмных нетрах вуркатання.

* * *

Не трэба мне
                    ціхая гавань,
Дзе караблі — цюленямі,
Дзе матчы парыпваюць млява,

Дзе сварацца
лепыя качкі.
Не люба мне,
берагу, ціна,
Дзе супуцца
хвалькі сонныя,
Калі,
нібыта ў кампот маліну,
Вечар
кідае сонейка.
Мне мора —
каб з бурамі мора!
Зямля —
да грымот гатоўная!
Каб я
ў гэтым часе, прасторы
Упартасць сваю
загартоўваў!
Не трэба мне ціхая гавань...

## АДНОЙЧЫ ТАПІЎСЯ САБАКА

Быў сакавік...
Выў вецер...
Даць прабіцца
Мароз вадзе з-пад лёду не хацеў,
Калі сярод ракі,
штурхнуты быццам,—
Сабака
у палонку
паляцеў...
Я страсянуўся,
ледзь крадком не плакаў,

І кашаль горла сябрава зла віў.
Аб лёд намарна лапы драў сабака,
Саслізгваў,
нерухавеў,
сціха выў.
І пачало мяне ад золі трэсці.
Адкашляўшыся, хмыкнуў мой дружбак:
— Ну, і?.. Ты, можа, паплывеш? А ўрэшце,
Што за сабака,
нейкі там дварняк.
Снег мокры пад нагамі ў нас зачвякаў...
Ад берага ж другога
наўпрасткі
На жываце
паўзе ўжо да сабакі
Па лёдзе
чалавек сярод ракі.
Не крокі гэта, не вяршкі якія —
Такой адлегласці
не знойдзеш мер.
Здараюцца між дзён пустых такія,
Цану якім дасць чалавек і звер.
І — ўдвух на беразе, сабака выбег...
Мяне нібы распялі на крыжы.
Сябрук бурчаў:
— Сняданкам стаць мог рыбе...
Ды як шанцуе іншым —
не кажы!
Маўчаў я. Ён працягваў:
— Недарэчы
Рызыкаваць. Ды не! За што хвала?
І затрашчалі крыгі,
быццам плечы
Хтось выпрастаў —
паводка загула.
І зразумеў я, што зайздрошчу псіне,

На беразе
абсохнуць балазе!
А калі лёс
мяне
ў палонку кіне,
Ці хоць адзін
па лёдзе папаўзе?

## ЧАРОМХА САЛАЦЫ

І хваля па-рознаму ўдалеч бяжыць,
І розная чаромха бывае.
Чаму ж не спяшаемся вэлюма шыць,
Як з мора кагосьці чакаем?
Ламалі вятры і пужалі ільды,
Не вырвалі з роднага ўлоння.
Разлівы суцішацца талай вады,
Устанеш, як ветразь, зялёны.

Падымешся, ў квецені ўся задрыжыш,
Хоць з цела кара абадрана.
Насуперак бурам,
адпрэчыўшы ціш,—
Рабіцца трухлявою
рана!

А чырвані вечар на мора ліне,
П'янліва закружыш галовы...
Здаешся нявестаю
на кургане
Ці жонкаю рыбаковай.

## БО ТАК МЫ НЕ ГАВОРЫМ...

Табе за ўсё я шчыра ўдзячны, шчасны!
І рады я, што гаснучы, не згаснуў!
Як маладзік,ззяць сонцам прадаўжаю,
Са святаяннікам купалле апяваю!
Табою на зямлі стаю, няніцы,
З цяплом заранкі светлай і зарніцы!
І дзякую табе, табой звязаны,
Дзе быў, дзе ёсць, дзе быць наканавана!
І дзякуй, разумееш нашу спешку,
Яно не так запеў, як вынік страшыць!
Спяшацца ж трэба: квет зляціць калінавы...
Ды будзе ён, працяг мой — вусны сынавы.
Пачуеш з іх, што мной не дагаворана,
Калі наступнае падступіць ворывам.
І загучаць між хмар грымоты слоў...
Бо не гаворым «дзякуй»
за любоў.

## Арвідс Скалбэ



### КРЫНІЦА

У горы сцежкай цяжка ўзбіцца,
Не чуеш ног, займае дых,—
Як добра, што наўзбоч крыніца
Прабілася з глыбінь зямных.
Напіўся з прыгаршчаў вадзіцы
І дыхай поўнымі грудзьмі.
І людзі ёсць, нібы крыніцы,
Што сілай дзеляцца з людзьмі.
Як сонца сон зганяе з луга,
Як вецер пахі з нівы лье,
Так і яна, бы ўсмешка друга,
Святло і згладу дае.

### СОСНЫ

Кусай за палец, месяц марац,—
Мятуць завеі шорсткі снег,
А ў шатах сосен валадарыць
Вясенні вецер, голле гне.

Зялёны шоўк вяршалін мгліцца
На растрывожаным галлі,
Праз гурбы мёрзлае ігліцы
Старыя горбяцца камлі.

І толькі каранёў каляных
Не разапнецца цеціва:
У дол угрызліся пясчаны —
І вырвеш дрэва чорта з два.

Як горды род адвечных сосен,
Так горды родам чалавек:
Калі з зямлёю сэрцам зросся,
Не адарваць яго павек.

## ПАРАДОКС

Упаўшы, семя кветкай можа ўзняцца,
А іскра так і згасне ў вышыні:
І, падаючы, можна ўверх дастацца,
Узнёсшыся, упасці можна ўніз.

Такое часам і ў хвале, і ў ганьбе:
Хто славаславіць, хто гатоў стаўчы,—
Зайздроснік хваліць,— нэндзы тваёй прагне,
А ўшчуе сябар,— хоча ўберагчы.

## ДАЦКІ МАТЫЎ

Навошта кветкі мне,— я, пахаваны,
Не адчуваю водару вянкоў,
Навошта мне, памерламу, пахвалы,
Ліслівых я не ўчую языкоў.

Жывому краску падары такую,
Што, нібы сонца, ярка будзе жыць,
П'янеючы ад паху, расцвіту я.

Жывому слова мне адно скажы,
Што да магілы будзе на душы.

## ТАДЫ

Тады не будзе спеху, будзе ўдосталь часу,
Нікуды не пайду цікаўнасць наталяць,—
Цюльпаны чорныя пачну я даглядаць,
Тады не будзе спеху, будзе ўдосталь часу.

Аддзеліць тонкая сцяна мяне ад свету,
І будуць мне чутны цурчанне ручаёў
І клёкат бусла стомлены з чужых краёў.
Аддзеліць тонкая сцяна мяне ад свету.

І ўсё радзей, радзей маім ты будзеш госцем,
Пакуль на небе не мільгнеш драбком святла,
Як казачнае семя, зорка ўспыхне з тла.
І ўсё радзей, радзей маім ты будзеш госцем.

Ты ў памяці маёй прабудзеш доўга, доўга.
Не будзе міру: сэрца боль не збудзе свой.
О хараство жыцця, і за тваёй мяжой
Ты ў памяці маёй прабудзеш доўга, доўга...

## ЯК МАЛА НАМ ТРЭБА...

Што, падкажыце, ядпае нам лёсы,
Што, дайце знаць, расцярушвае нас!
Шчасцем прамочыць, як лівень пакосы,
Слова, што кінута часам не ў час.

Кіслая ўсмешка ўмомант астудзіць
Добрую ўсмешку ў ласкавых вачах.
Хочацца мне, каб здзіўляліся людзі
І каб астыў іхпяй злосці ачаг.

Вузкаю сцежкай ідзеш, не пагрэбуй
Гонарам,— трошкі ступіць убок,
Бо размінуцца сустрэчным трэба.
Мала нам трэба, зрабіць першы крок:

Добрае слова, якое прывеціць,
Цёплая ўсмешка, якая расквеціць,
Крок, на якім чалавек не спаткнецца,
І — наша вечна зычлівае сэрца...

* * *

Народ, што зрокся мовы, хай з прымусу,—
Ён — з мура вытрушчаны крохкі ўломак,
Сцяны няма, ёсць толькі груда друзу,
І мёртвы бляск слюды не грэе дома.

А мова, не ўжываная ў народзе,—
Нібы ручай, што недзе блізка цвеліцца,
Нібы гудок з туману на дарозе,
Кранае вуха, не кранае сэрца.

* * *

Не бойся каменя на сэрцы!
Што выбіта на ім даўно,
Да скону дзён, да скону веку
Нічым не вытравіць яно.

Не бойся каменя на сэрцы,
І не вярэдзь сардэчных ран,
І як на рынку, на ўсё горла
Сваіх не агалошвай драм.

Не бойся каменя на сэрцы,—
Я даўні знаўца гэтых пляг:
Здаецца часам, што не сэрца,
А камень бухае ў грудзях.

Не бойся каменя на сэрцы,
Што стыне, цёплы; ён пасля,
Увечары, як зойдзе сонца,
Цябе сагрэе спакваля.

## 46 ІМЁНАЎ НОВАЙ ГЕРМАНІІ

Ich nenn' euch mein Problem.*

Мне даспадобы гэтай мовы лад,
Ніхто не чуў імёнаў: Гётэ, Шылер,
Калі над іншымі: Ганс, Курт, Бернгард,
Ўжо крылы прускага арла кружылі,—

Ад могліц на прасторным полі бою
І ад бяроз абапал бальшакоў

---

* Адкрываю вам сваю праблему *(ням.)*.

Нямецкай мовы дух жывы са мною
Праз маладосць працоўную прайшоў,

Даў разуменне праўды ў часе смут!
Няма народаў злых, а ёсць слабыя,
Якім да горла прагна лезе спрут.
На шчасце я прайшоў дарогі тыя,

Што ў Гамбург прывялі, у Ганзу, дзе я
Ад яду розум траціў, ад чумы,
Ды ажыўляла сэрца Ларэлея,—
Таптаць святыць нідзе не ўмеем мы.

Я, пэўна б, з сораму душой дайшоў...
Калі б мяне спытаў тады хто-небудзь,
Што Ліхтэнберг сказаў пра латышоў
У час, як бізунамі секла нелюдзь...

Крануў скалу разцом разьбяр нястомны,
Калі месія рухнуў, той юрод.
Як моцны парастак з камля, нязломны,
Люблю душой працоўны твой народ!

Імёны — Вольфганг, Райнэр, Клаўс і Хорст —
Перакаваў па зоркі славы і змагання;
На вокладкі, у кнігі перанёс
З калыскі смерці, струшчанай дазвання.

Няма чужых дарог, чужое поўні —
Надзейны пульс і моцная рука...
Табе, Германія, паставяць помнік
І з сэрца Гарца, і з маладзіка...

* * *

Ты не стаіш паміж нябытаў двух,
Бо леваруч стаяць — твой бацька, маці,
Бо праваруч стаяць — сыны і дочкі,
Пакуль стаяць — ты будзеш незварух,
Ты будзеш паміж вечнасцяў стаяць.
Паміж мільярдаў сувязей,— паміж
Сваім і братнімі народамі стаіш.

* * *

Расквечана, як луг, начное неба,
Ну, не кажы, што ўсё тваё, не трэба!

Там і маіх адвечных з паўгектара
Бясконцасць чорным водарыць нектарам.

Да трэціх пеўняў і да росаў золкіх
Мае мядзяныя пасуцца пчолкі.

Я ведаю сваіх каровак нораў,
Сачу за імі ў чэрнядзі, між зорак,

Але ўсачы: ледзь сонца промень кіне,
Глядзіш, адной ужо няма рабыні,—

Ужо й гектар абскублены дазвання,—
Ужо і кветкі адцвілі да рання...

Прыходзь увечары, пад зорным зводам
З абруса чорнага ўчастую мёдам!

На луг адзін іду, тапчуся, мрою,
З галактыкамі гутару, з сабою.
А збоку нехта буркае пануга:
— Ён зноў тут зоркі лічыць, во прыдурак!

## ТОЙ ЗНІКНЕ...

Хто не з народам, знікне, як насенне,
Што бурай немаведама куды
Занесена, там ля чужой вады
Ў чужой зямлі дасць кволае карэнне.
Той знікне ў плыні, дзе ён толькі кропля,
Дзе ён нішто, дзе ён у свеце — тля,
Забудзе мову-маці спакваля
І як замежную адбудзе ў школе.
Той знікне, як бы ён к чужому сонцу
Ні пёрся голлем, неба ні пароў,
Ён будзе там смактаць чужую кроў,—
Хай то ў Аўстраліі, на Амазонцы.
Той знікне, той змяшаецца, сальецца,
Хай будзе рай там, яркі папугай,
Хай будзе лотаць сніцца, родны гай,
А шпак ад Даўгавы яму не азавецца.
Той знікне, як нырне ў чужую непагадзь,
Чужыя паглынуць яго жанкі,—
І, можа, толькі, як мінуць вякі,
Пазнаемся па рысачцы якой там-небудзь.
Акінемся слаўцом-другім раз-пораз
І па-мужчынску ўдарым па руках,
Мой сказ заіскрыцца, як з-пад бруска! —
Якое ліха, зрэшты, развяло нас!

## Олга Лісоўска



* * *

О, лёгка, са смехам, з парошай,
іду сцяжынай зямною!
Бо лёгкая мая ноша,
быць ёй да канца са мною.
Калі быць жабрачкай, то гордай.
Ды ў адзін дзень цудоўны
адчую сябе я шчодрай
і сілы вялікай поўнай.
Я прысланяю лескі
да краю сіняга неба.
Пад самы купал нябесны
узняцца мне сёння трэба,
каб з іншымі падзяліцца
словамі, што пакапіла,
і каб мне служыла зарніца,
якую я смела схапіла.
О, гэты міг пераможны! —
калі я раблюся другою,
які толькі ўзважыць можна
жыцця самога вагою...

## КАХАННЕ

І зарасце імя,
што ты выразаў на бяросце.
Былі мы, ты і я...
Ці ўспомніць пра гэта хтосьці?

На новай, другой кары
напішуць другія імёны.
Пройдуць аблокі ўгары,
пральюцца даждом на кроны.

Усё перайначыць час.
Як быццам нажом адрэжа.
Зусім ад таго незалежна,
хто кім быў, як жыў хто з нас.

Суровы часу прысуд.
Ды кожнаю новай вясною
паўторыцца з іншымі цуд —
як з табой і са мною.

Будзе бярозка ледзь-ледзь
шаптаць сваё паданне,
будзе ў лістоце трымцець
памяць пра наша каханне...

## ЛЕТНЯЯ ІМПРЭСІЯ

Цвітуць.
Белыя, жоўтыя цвітуць,
У самы разгар лета цвітуць,
Маруны салодка-салодка цвітуць.

Калодзеж.
Пара вядро акунуць.
Вядро з ланцугом
Звонка пяюць.
Ваду дастаюць
І вякамі пяюць:
Чэрпай і пі,
І здаволены будзь,
І радуйся, што маруны цвітуць.

Плывуць.
Па небасхіле аблокі плывуць.
Плывуць і сплываюць,
Напамінаюць,
Што ўсе жывыя не вечна жывуць.
Але маруны салодка цвітуць,
У самы разгар лета цвітуць.
І дні, што адпушчаны мне,
Цвітуць...

## АСЕННІ НАСТРОЙ

Дрэвы, вы быццам звар'яцелі!
Цямнее спляценне голых галін.
А лісце... Застаўся б хаця адзін.
Яны дагараюць на мокрай панелі.

Заплюшчваю вочы. Мне робіцца страшна.
Цяжка змірыцца з тым, што вось так
Марна знікае багацце наша,
Што выткала лета — як лепшы мастак.

Пяшчотная зелень вясновай лістоты,
Стракатыя барвы асенніх лістоў

Больш не схаваюць таго ўжо, што
Сустрэнеш аднойчы праз колькі гадоў...

Навекі ўзнімаю. Малюнак той жа:
Голых галін чорны каркас.
Вазьмі за руку. Мне так трывожна
У гэты перадзімовы час...

* * *

Не закоўвай у кольца мяне,
прыйдзе мора за ім у сне,
будзе трэсці грывамі хваль,
у душы абудзіць жаль;

запатрабуе палову душы,
тую, што чуе буру ў цішы,
тую, што не стрымаць павадком,
тую, што не жыве пад замком.

Не закоўвай у кольца мяне,
жыве ў ім туга па сасне,
плачуць чайкі, гудзіць страказа,
зззяе ранішняя раса;
смалы горыч і водная гладзь
будуць клікаць, з дарогі збіваць,—
ды не ўзяць ім паловы другой
душы маёй.

Не закоўвай у кольца мяне,
не аддасць сваіго мора, не,
найшноў вецер вунь па сасне,
застанецца толькі кольца ў мяне.

Застанецца толькі кольца ў цябе.

## У ЧАКАННІ СНЕГУ

Калі высахлі ўсе фарбы,
калі барвы зніклі ўсе
і калі няма ўсё хмары,
што сняжынкі прынясе,
ах, не верце тым, не верце,
хто гаворыць, што зіма
горш за гібелі, за смерці,
раз цяпла-святла няма!
Загудуць млыны-завеі,
і ў іх меліве густым
мы пачуем гул надзеі,
мы убачым новы ўздым.
Перажыць нам толькі трэба
час, калі ўсё спіць вакол,
калі ўжо без фарбаў дол
і яшчэ без снегу неба.
Для душы выпрабаванне —
снегу першага чаканне.
Аблачынкі снежнай цень
ажыўляе чорны дзень.

## ЧЫРВОНЫ НЕБАСХІЛ

Палае чырвоны небасхіл —
Чырвоная паводка.
Вечарам птушкі туды лятуць.
Знікае дзе іх чародка?
Мой сябар таксама аднойчы пайшоў
Проста ў гэтую чырвань.
Калі вечарэе, гляджу туды
Сумнымі вачыма.
Палае чырванню небасхіл.

Чырвоная пража прадзецца.
Не знала, што сябра, які пайшоў,
Убачыць не давядзецца.
Хацелася б знаць, ці знайшоў ён хоць
Тое, пайшоў за чым ён?
Палае чырванню небасхіл.
Кліча дамоў тая чырвань.
Гарыць як вечная памяць тым,
Хто недзе ў небе лунае.
Палае чырванню небасхіл.
Быццам факел палае.

* * *

І ў дні дажджоў і вятроў густых,
і ў зімніх начэй гадзіны
мы адчуваем прысутнасць тых,
што тут да нас хадзілі...
Мы іх не бачым. Ды чуем іх строй.
Жывуць у душы іх урокі.
На камянях Рыгі Старой
адбіліся іх крокі.
Даходзіць да нас рэха часоў,
водгулле поступу ратнага.
Тут Сямідзесяты ішоў.
Ішлі байцы Пятага.
Нёс кожны ў сабе народа дух,
адвечны, непазбыўны.
Цягнецца пакаленняў ланцуг,
і гэты ланцуг неразрыўны.
Нічога, што мы іх не бачым у твар,
не ўсе іх імёны знаем.
Сумленне народа — дар,
што так вось ходзіць з намі.

# Кнутс Скуеніекс



* * *

У жылах маіх кроў дрэва
пад языком дрымота жытняга зерня
так я жыву і так спадзяюся
ногі мае пытанне ракі паўтараюць
так я жыву і так я веру
на плячах голад сонца халодны

так я жыву і ты так жывеш

* * *

хай кажуць вернасць — годнасць
я ведаю — праклён
бярозе рвуць карэнне
не думае пра скон

і яблынька б ляцела
ў зямлі гняздо яе
ды ўсім у гэтым свеце
крыл лёгкіх не стае

* * *

слова ў ваду ўтні
і жазло залатое выцягвай
белыя баранчыкі прыбягуць
узрадвацца

чорная зямля прыбяжыць
пакрыўдзіцца

маленькі рот прыбяжыць
нацалавацца

* * *

над Нёманам зорка гаворыць
блакітнаю моваю продкаў
гудуць над зямлёю вазы з хлебам
высока ў небе косці гудуць

над Нёманам зорка гаворыць
і я не магу перакласці

* * *

алень галаву на плячо кладзе мне
з паглядам пяшчотлівым як бяроста

ведаю ты чалавек стаміўся
ты гнацца за мной не будзеш

амялушка выдзёўбвае семкі з далоні
кажа мне ціхае і надзейнае

ведаю ты тут застанешся дрэвам
калі я вярнуся

дзесяць пальцаў як дажджавыя кроплі
сыходзяць з майго аблічча

ведаю як не будзе ў што ўпіцца зубамі
я чытаць твае вершы буду

* * *

цвітуць мае скроні як яблыні
цяжэе паволі
пакуль у сярэдзіне
начы найцяжкой не ўспыхне цвет
і ўсё будзе бела
ўсё зразумела будзе
і ўсё даравáць будзе можна без скаргаў
цвітуць мае скроні
цвітуць дзень пры дні
баляць мае словы мае цёмныя словы
і цёпла згараюць
рассыпаюцца ў дзьмушкі прыску
праз нейчыя пальцы сыплюцца праз суччa хмызоў
іх ператвараючы
на нейкі міг
у срэбра далёкага рэха
цвітуць мае скроні
па-ранейшаму стаю на гары
з гэтай гары мне ўжо не сысці
па-ранейшаму ўспамінаю
па-ранейшаму грэю
і чакае наперадзе ноч найцяжкая

* * *

губамі не разлашчу я ніводнае маршчыны
рукамі не забараню я сівізне гарэць
хіба магу ўпрасіць каб бог мой за мае правіны
прыйшоў бы падваконнік твой
маім сняжком сагрэць

каб шчырыя далоні вяза рупнай ліпы плечы
каб сіраціна яблыня на ласку скразняка
бо як інакш сказаць што век яшчэ наш не старэчы
і што шуміць яшчэ душа як пад ільдом рака

хоць ноч аднюткую б паслаць як лёну ахалоду
дзе launch ператомленай табе заснуць дзіцячым сном
мой бог не злы я дужа папрашу і дасць ён згоду
прыйсці пад вечар і сняжыць да рання пад акном

* * *

нябёсы насцеж хочацца заплакаць
маўкліва светла
чую песню продкаў
працяг бясконцы
кветка зацвітае
гаркотай віннай
восеньскаю сілай
суровай воляй і наканаваннем
дождж белы
цесны як твае далоні

* * *

па кладах сінічкі лічаць
зябказвонны клад
позіркам зімою поўным
пагукай назад

каб на языку галінцы
козытна было
каб цякло бясконцым ліўнем
па грудзях цяпло

* * *

усмешка сонца без адчаю
прачэрчвае сляды маршчын
па ценях чаек зноў чытаю
пачатку вечнага зачын

услед за нашымі вятрамі
другія ў вырай кліча час
бег соку нашага вяртае
не выракаючыся нас

на полі бою іншым шана
каб вал наступны наступ вёў
зямлю і неба загадана
жывіць нам з нашых каранёў

* * *

ночы топяцца не прыйшоўшы
дням дужэй у стылым палоне
я хачу душу сёння выдыхнуць
на твае далоні

каб камень што ў цябе на душы
ператварыўся ў кветку на золку
а сцежка раз'езджаная
ў вясёлку

заўтра раскрыюцца жаўранкі
рака шукацьме бераг па следу
ды ці патрэбна тваёй далані
яшчэ адна ношка свету?

* * *

смяецца веташок з-за хмары
выходзяць вершы з кнігі мары
з магілак вырастаюць твары
рыпяць вароты даўна

і доўга цягнуцца каляды
знікае смерць не даўшы рады
нікому бо тае і ўлады
ў яе на поўны глык да дна

мой дом без сцен і без парога
так лёгка мне вітаць любога
пакуль да пеўня часу многа
і мост над прорвай як пасок

днём сцежку хлебную тапчу я
варот усмешку ўночы чую
і зноў братоў сустрэць хачу я
бо ў нас ва ўсіх адзін пясок

* * *

дзякуй пазное сонца
што напаіла ўволю
слыхам было і ўздыхам
болем маім і доляй

не знаю што застанецца
між слоў дзе гарчае голас
а сэрца каля дарогі
як жытні аціхлы колас

* * *

развесім лета на мяжы
сушыць на гнуткім голлі
пакінем з богам хай стрыжы
стрыгуць на гнёзды хай з імжы
дождж гнеў свой сплёўвае ў лаўжы
дзе вечар сыціць воллі

прыйшлі каб адыходзіць зноў
вярбіна прыпаміну
стаяцьме радасцю выспоў
узрослы з нашых галасоў
і сонца кайстрай цёплых сноў
ускульвае на спіну

сок на зубах яшчэ не лёд
яшчэ ў запясцях крохкасць згод
яшчэ на ліпах плача мёд
няма канца няспынна
цячэ рака як поўны год
трымаць абрыў што шчэрыць рот
стамілася вярбіна

# Еранімс Стулпанс



## ЛЮБЛЮ ЖЫЦЦЁ

Зноў я ўцёк ад шумных вуліц, збег
У прастор вясны, у лес зялёны,
Вочы іншых прагнулі уцех,
Я хацеў ля кожнай анемоны
Прыпыніцца, каб прывеціць ласкай.

Я схіляўся над лясною краскай
І п'янеў ад водару зямлі
І ад соку маладой бярозы,
Што струменіў, ліўся па камлі.
Я ад шчасця быў як нецвярозы.

Часам зранку холадна ў палях,
Але саджанец расце, не гіне.
Камяністы наш жыццёвы шлях,
Але мы ўзыходзім на вяршыні,
Дзе ўзяць можна сонца на далоні.

А хіба бярозу ўверх не гоніць,
Калі сокам набрыняе ствол,
Хоць параненая. Вось чаму так
Я люблю жыццё — яно вакол
Прарастае, нават у пакутах.

Калі промень льецца трапяткі —
Нельга панцыр зберагчы зімовы.
Нават на сыпучыя пяскі
Апранае май свае абновы...
Радасны, вяртаюся я ў горад.

Шчыра ўзрушаны суровай, гордай,
Непаўторнаю красой жыцця.
Чую нават, як расток пульсуе
Неспакойнай сілай пачуцця.
Росквіт весні на зямлі красуе.

## РУКАВІЦЫ

Рукі пралі ніткі тонкай пражы,
Ў кожнай ніткі матчына цяпло.
Рукавіцы лёгкія з іх вяжа,
Бо жыццё такім цяжкім было.

Абмінала шчасце-скнара хаты,
Ў скібы зелле сеяла ўначы.
Дый без хлеба ты была багатай,
З родным сынам разам жывучы.

Ў рукавіцах шмат цяпла,—
Сцюжным шляхам павяла
Сына ты свайго.

У кайданы рукі закавалі
Сыну і сціскалі ўсё мацней,—
Не схіляўся ён у час навалы:
«Мама, ты не плач, усё міне!»

Доўга, доўга не мінала гора,
Ды нядоўгім быў спаткання час.

Кожны дзень раслі работы горы,
Пільнаваў жа хцівы вораг нас.

Ў рукавіцах шмат цяпла,—
Ратным шляхам павяла
Сына ты свайго.

У завеях бітвы ў час нядолі
Рукавіц жар цёплы саграваў.
Адстаяць радзіму сын твой здолеў,
Ды цябе ўсё ж ён не ўратаваў.

Не парвала ніткі навальніца,
А парвала пульс гарачы твой.
З раны кроў цякла у рукавіцы,
Не адмыць крыві нікому той.

Ў рукавіцах шмат цяпла,—
Шляхам праўды правяла
Сына ты свайго.

## ХТО ЯНА?

Хто яна, што ў кожнага адна,
Што, як сонца ласкавае, свеціць?
Што, як зорка ў небе, хто яна?
Хто яна, адзіная на свеце?

Хто яна, што ў горы і ў бядзе
Нас да сэрца моцна прыціскала?
Хто яна, што ўслед за намі йдзе
Праз усе крутыя перавалы?

Пра каго мы часта забываем
На сваёй службовай вышыні?

У каго радзей за ўсё бываем,
Хто ад крыўды плача ў цішыні?

Гэта — маці. Маці, што на свеце,
Нібы сонца, ў кожнага адна.
А яе тады шкадуюць дзеці,
Як ужо зачыніцца труна.

## ЖУРАВІНКА

Смак мёду ў кіслых журавінах.
На купінах зямлі дзядоў.

*Ян Судрабкалн*

Блукаў страшнаю дрыгвою,
Гразнуў у рудзе правалаў;
Горкі боль ішоў са мною,
Помста ў сэрцы вырастала.
Ўпаў на мох сухі і шэры,
На хвіліну стала цёмна...
Песня ўзнікла між аеру
І вярнула мне прытомнасць:

«Журавінка, журавінка,
Ўнучка купіны балотнай...»

Ротам, зведзеным да болю,
Я хапаў і скуб сцябліны
І ўсмактаў жыццё і волю
З кіслым сокам журавінным.
І дзяўчына, што спявала,
Правяла праз фронт дрыгвою,
Ад пастоў мяне схавала
Кволай цёплаю рукою.

«Журавінка, журавінка,
Ўнучка купіны балотнай...»

У зямлянках песню-мару
Я спяваў са слоў крылатых.
Руса. Выбухі. Імшары.
Журавіны. Шлях дахаты.
Часта смерць рукой халоднай
Дружбакам дарыла славу,
І ўзышоў на сцежках родных
Ранак без зарніц крывавых.

«Журавінка, журавінка,
Ўнучка купіны балотнай...»

Я шукаў да песні словы,
Ды знайсці не стала сілы.
Ведала іх строй суровы
Толькі тая, што ў магіле.
Многіх ад пастоў схавала,
Правяла дрыгвой балотнай.
Смерць — і тая не спужала
Песні кволай і пяшчотнай:

«Журавінка, журавінка,
Ўнучка купіны балотнай...»

## КАСЕЦ

Будан дагэтуль помніць крокі.
Тут у семнаццатым
Паглядам
Касец заняў пракос шырокі —
І дзень устаў над Петраградам.

Прыехаў не з касой старацца —
Вастрыў ён думку на світанні.
Ён ведаў:
Свет зыначыць Праца,
Нарэшце злыбяды не стане!

Меў мала часу
Лугам росным
Праходзіць,
Ля цяпельца грэцца.
Будан
Зрабіўся штабам грозным,
Каб полымя магло ўзгарэцца.

Ды гналіся гайнёй жандары —
Касец быў небяспечны, ўпотай
Хлапчук правёў
Яго ў абшары,
Між здрадных купін
Праз балота.

Хлапчук дамоў
Ішоў паволі,
Як пасля працы, ў захапленні.
І не паверыў бы ніколі,
Што быў касец той просты —
Ленін.

## ХАТЫНСКІЯ СТУДНІ

Агарбелі хмары ад бяды,
Як пажару дым, клубяцца ніца.
Над сцяжынамі пакут і згубы
Вечнаму агню балюча біцца.

Дагарэлі ўсе дашчэнту зрубы.
Гэтым студням смягнуць без вады.

Лугу не ўрасіць касцоў сляды,
Сумна ў мох асыпацца брусніцам.
Свету гэта брацкая магіла
Толькі ў страшным сне магла прысніцца.
Падай, жаўталіст, на жвір пахіла.
Гэтым студням смягнуць без вады.

Людзі кожны дзень ішлі сюды.
Піў нагбом з вядра ратай старанны,
Аралі даверыўшы зярняты.
Маладзіцы, ўстаўшы рана-рана,
Тут былі навінамі заняты.
Гэтым студням смягнуць без вады.

Памяць у жалобе праз гады.
Палыхала пеклам дамавіна,
Ад агню не зажываюць болі.
Сёння шчэ шукае маці сына,
Хоць і знае — не знайсці ніколі.
Гэтым студням смягнуць без вады.

## ПРАЦА

З начэй маленства слова мне знаёма:
Перш чым заснуць, карцела запытацца,
Дзе бацька наш,
Чаму яшчэ не дома?
Адказвала матуля — ён на працы! *

* Слова праца ўжываецца ў Латгаліі ў беларускім значэнні.

Нам пахла свежым хлебам
Гэта слова.
І ў школе не згаджаліся з дакорам,
Які нас напраўляў абавязкова,
Што слова мы па-хатняму гаворым.

— Шмат слоў у працы,
Прыпарам гарачай,—
Нам усміхаўся бацька ў светлай скрусе
І заўважаў, падумаўшы,—
Няйначай,
Прывандравала слова з Беларусі...

І дзіўна нам было,
Што ходзяць словы,
Як чарадзеі, ў шчырасці, ў даверы.
Не здрадзіўшы ні гуку роднай мовы,
Для слоў сяброў
Мы насцежылі дзверы.

І на зямлі мне роднай —
Беларускай
Пабачыў,
Як да твару слова краю.
Тут з працай
Крояць лусты багны грузкай,
Сяло плячэе —
горад вырастае.

З павагай я маўчу,
Калі старанны
Шчырэе беларус: пашану праца
Яму ўздае.
І праца ад пашаны
Не спачывае,
звыклая старацца.

Не зняць з апраткі парушынку
Можа
Рахманы беларус.
Затое ў працы
Імкнецца ўсё рабіць
Як найпрыгожа —
Ад трактара да ўзнёслага палаца!

* * *

Да агнёў у жыцці гэтым прагны я,
Што спакон крышаць змроку крыгі.
Час быў, цемрай прайшоў, як багнаю.
Хоць чадзілі кнаты і кнігі,
Ды яснейшыя вочы сталі,
І агнямі смяюцца далі.

Смутак восені крокамі мерачы,
З вечарамі глух у адчаі,
Як забытыя вокны ў цемрачы
Без агнёў у вачах крычалі.
Цемраю вечары жахаюць,
Раз няма агню —
не чакаюць.

Дзе чакаюць, агонь не тушыцца,
Каб не блытаўся ў цемры памылак.
Там, дзе вогнішча, людзі дужыя,
Бо агонь — неадужны асілак.
Тут падзеляцца зыркай іскрынкай,
Радасцю і апошняй скарынкай.

І агонь праз усё жыццё маё
Мне шукаць, дзе б яго ні хавалі,
Трэба будзе, згару, каб цёмную
Змылі ноч смела полымя хвалі.
Хай жа полымя сцяг не згасае —
Над жыццём і над смерцю палае!

# БІЯГРАФІЧНЫЯ ДАВЕДКІ

*Яніс (Арвідс) Судрабкалнс* нарадзіўся 17.V.1884 г. у Унчукалнсе. Пачаў друкавацца ён у 1909 годзе. У гады першай сусветнай вайны служыў у арміі і ўпершыню ўбачыў Беларусь. У буржуазнай Латвіі быў адным з вядомых прагрэсіўных пісьменнікаў. Працаваў і як тэатральны і музыкальны крытык, пісаў пра літаратуру, вершы ў прозе, вядомы публіцыст. Галоўны матыў яго паэзіі сяброўства народаў. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1943), народны паэт Латвіі (1947). За зборнік «У брацкай сям'і» атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР (1948), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1965). З 1973 г. акадэмік АН ЛССР, Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Пераклаў вершы П. Броўкі. Памёр 4.IX.1975 г. Выдадзены 6-томны збор яго твораў. Па-беларуску — зборнік «Яшчэ адна вясна» (1969).

*Яніс Гротс* нарадзіўся 9.II.1901 г. у Мадонскім раёне. Пачаў друкавацца ў 1918 г. Вучыўся ў Латвійскім універсітэце; некалькі разоў быў арыштаваны ўладамі буржуазнай Латвіі. У дасавецкі час працаваў і як тэатральны крытык, драматург. Пераклаў вершы П. Броўкі. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1967). Памёр 30.XI.1968 г. Выдадзены збор яго твораў у 7-мі тамах.

*Мірдза Кемпэ (Найкоўска)* нарадзілася 9.II.1907 у горадзе Ліепая. Вучылася ў Латвійскім універсітэце. Друкуецца з 1924 г., але найбольш яе паэтычнае слова ўзмужнела пасля Вялікай Айчыннай вайны. Працавала літаратурным кансультантам у Саюзе пісьменнікаў Савецкай Латвіі. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1957), народная паэтэса ЛССР (1967), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР і СССР, з 1973 г.— член-ка-

рэспандэнт АН ЛССР. Ганаровы доктар літаратуры Індыйскага універсітэта Вішабхараты (1972). Пісала пра Беларусь, пераклала вершы С. Грахоўскага, М. Калачынскага, П. Панчанкі, М. Танка. Памерла 12.IV.1974 г. Выдадзены збор яе твораў у 3-х тамах.

*Андрэйс Баладзіс* нарадзіўся 24.III.1908 г. у Баўскім раёне. За рэвалюцыйную дзейнасць амаль дзесяць гадоў правёў у турмах буржуазнай Латвіі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля ранення працаваў намеснікам рэдактара газеты «Цыня» («Барацьба»). Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1958), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1959). Перакладаў вершы беларускіх паэтаў П. Глебкі, Я. Коласа, І. Калесніка, П. Панчанкі, М. Танка.

*Пэтэрыс Сілс* (Пійолс) нарадзіўся 24.IX.1908 г. у г. Смілтэне. Быў рознарабочым. Прымаў удзел у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны працаваў рэдактарам у Рыжскай кінастудыі. Памёр 7.VIII.1953 г.

*Валдзіс Лукс* нарадзіўся 21.VI.1905 г. у Тукумскім раёне. Скончыў Латвійскі універсітэт (1937). Меў сувязь з камуністычным падполлем. Друкуецца з 1925 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Быў камандзірам кулямётнага ўзвода Латышскай стралковай дывізіі; першым сакратаром Саюза пісьменнікаў ЛССР (1950—1965). Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1955), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1958). Выдадзены збор яго твораў у 4-х тамах.

*Аляксандрс Чакс (Чедарайніс)* нарадзіўся 27.X.1901 г. у Рызе. У 1919 г. з медыцынскага факультэта Маскоўскага універсітэта дабравольна ўступіў у Чырвоную Армію. Вярнуўшыся ў Латвію (1922), працаваў настаўнікам, супрацоўнікам часопіса, пасля Вялікай Айчыннай вайны — у рэдакцыі газеты «Цыня» («Барацьба»), у Інстытуце мовы і літаратуры АН ЛССР. Друкуецца з 1925 г. А. Чакс — прызнаны латышскі урбаніст, пясняр рабочых прадмесцяў, майстар вольнага верша. Памёр 8.II.1950 г. Выдадзены збор яго твораў у 5-ці тамах.

*Павілс Віліпс* нарадзіўся 22.XII.1901 г. у Рызе. Скончыў Латвійскі універсітэт (1931), працаваў настаўнікам. У час гітлераўскай акупацыі сядзеў у турме. Друкуецца з 1925 г. Шмат займаўся перакладамі. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1970). Памёр 4.IX.1979 г. Выдадзены яго двухтомнік.

*Мірдза Бэндрупэ* нарадзілася 23.X.1910 г. у Елгаўскім раёне. Друкуецца з 1926 г. Піша вершы, апавяданні, казкі для дзяцей, многа перакладае.

*Мейнхардс Рудзіціс* нарадзіўся 10.IV.1910 г. у Рызе. З сямі гадоў наймаўся падпаскам, у гады буржуазнай Латвіі часта быў беспрацоўным. Удзельнічаў у нелегальным рабочым руху, быў пад арыштам. Друкуецца з 1926 г. Творча засвойваў паэтыку Ул. Маякоўскага. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1957). Значнае месца ў яго творчасці займала ліраэпіка. У спадчыне — аўтабіяграфічныя нарысы, літаратурна-крытычныя артыкулы. Перакладаў вершы В. Віткі, А. Вялюгіна, С. Шушкевіча, Н. Тарас. Памёр 17. I. 1966 г. Выдадзены двухтомнік.

*Юлій Ванагс* нарадзіўся 8.VII.1903 г. у Даўгаўпілскім раёне. Быў рознарабочым. Вучыўся ў студыі літаратуры і журналістыкі Рыжскага народнага універсітэта. Ваяваў у Латышскай стралковай дывізіі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны працаваў рэдактарам, удзельнічаў у арганізацыі Саюза пісьменнікаў. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1953) і Беларусі (1979). Друкуецца з 1927 г. Акрамя вершаў піша кнігі для дзяцей, аўтар некалькіх п'ес і кінасцэнарыяў. Пераклаў творы беларускіх пісьменнікаў: Я. Брыля, В. Віткі, Я. Коласа, Я. Купалы, М. Лужаніна, І. Мележа, І. Шамякіна. Разам з А. Імерманісам склаў анталогію беларускай паэзіі «Беларуская сасна» (1960), склаў выбранае Я. Купалы (1982). На беларускую мову перакладзена яго кніжка для дзяцей «Вялікія справы маленькага Мікіня».

*Арвідс Грыгуліс* нарадзіўся 12.X. 1906 г. у Лімбажскім раёне. Быў рознарабочым. Закончыў Латвійскі універсітэт (1937), чытаў лекцыі ў Рыжскім народным універсітэце. Друкуецца з 1927 г. Ваяваў у Латышскай стралковай дывізіі. Аўтар п'ес, раманаў, апавяданняў, твораў для дзяцей, літаратуразнаўчых работ. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1947), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948). Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1982), прафесар універсітэта (1973), народны пісьменнік Латвіі (1976), акадэмік АН ЛССР (1978). Пераклаў вершы Н. Гілевіча. Выдадзены збор яго твораў у 7-мі тамах.

*Яніс Сілазарс (Тэадар Сімановіч)* нарадзіўся 6.XI.1912 г. у горадзе Ліепая. Працаваў рабочым, брыгадзірам, дыспетчарам, супрацоўнікам рэдакцыі. Друкавацца пачаў у 30-я гады. Вярнуўся да літаратурнай дзейнасці ў 50-х гадах. Памёр 20.IX.1975 г. Выдадзены аднатомнік.

*Фрыцыс Рокпелніс* нарадзіўся 6.X.1909 г. у Ліепайскім раёне. Друкуецца з 1929 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Ваяваў радавым Латышскай стралковай дывізіі, быў

васнным карэспандэнтам, драматургам ансамбля Мастацтваў ЛССР, сакратаром Саюза пісьменнікаў, першым сакратаром праўлення Саюза кінематаграфістаў ЛССР і інш. Аўтар (сумесна з Ю. Ванагам) Дзяржаўнага гімна ЛССР, п'ес і сцэнарыяў. Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛССР (1959), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950), Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1960). Памёр 15.IX.1969 г.

*Анатолс Імерманіс* нарадзіўся 18.XI.1914 г. у Маскве. З 1919 г. жыве ў Латвіі. Друкуецца з 1933 г. За антыфашысцкую дзейнасць трапіў у турму (1934—1937). У гады Вялікай Айчыннай вайны ваяваў у радах Латышскай стралковай дывізіі. Пасля ранення супрацоўнічаў у газеце «Par Padonyn Latviji» («За Савецкую Латвію»). Самы плённы творчы перыяд — пасляваенны: піша вершы, апавяданні, раманы, кінасцэнарыі, перакладае, у тым ліку з беларускай мовы вершы А. Вялюгіна, С. Грахоўскага, А. Звонака, М. Калачынскага, М. Танка. На беларускую мову перакладзена напісаная ім разам з Гунарам Цырулісам прыгодніцкая аповесць «Таварыш Маўзер» (1962).

*Зіедaніс Пурвс* нарадзіўся 13.X.1923 г. у Баўскім раёне. Працаваў настаўнікам, мастацкім кіраўніком Дома культуры, дырыжорам, музычным рэдактарам у выдавецтве. Зараз працуе рэдактарам у часопісе «Карагс» («Сцяг»). Друкуецца з 1938 г. Наноў прыйшоў у літаратуру ў 1950 г. На яго вершы напісана каля 400 песень. Пераклаў больш 600 тэкстаў песень, з беларускай — вершы А. Разанава.

*Бруна Саўліціс* нарадзіўся 20.XII.1922 г. у Рызе. Друкуецца з 1940 г. Пасля вызвалення Савецкай Латвіі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў працаваў кіраўніком літаратурнай часткі Дзяржаўнага тэатра лялек, рэдактарам, пасля загадчыкам рэдакцыі Латвійскага Дзяржаўнага выдавецтва. Пісаў і прозу, кінасцэнарыі, крытычныя артыкулы, перакладаў. Памёр 9.VII. 1970 г. Выдадзены збор яго твораў у 7-мі тамах.

*Лайманіс Пэлманіс* нарадзіўся 25.XII.1914 г. у Рызе. Працаваў рознарабочым; асвету набыў самастойна, вучыўся ў Рыжскім народным універсітэце (1934—1936). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Друкуецца з 1941 г. Больш як 150 яго вершаў пакладзены на музыку, піша таксама сатыру і творы для дзяцей. Пераклаў вершы Э. Агняцвет, Н. Гілевіча, М. Калачынскага.

*Монта Крома* нарадзілася 27.IX.1919 г. у горадзе Елгаве. Прымала ўдзел у падпольным камуністычным руху ў гады

буржуазнай Латвіі. У 1941 г. добраахвотна пайшла на фронт, была санітаркай, радысткай. Пасля Вялікай Айчыннай вайны працавала ў рэдакцыях газет і часопісаў. Скончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1963). Друкуецца з 1943 г.

*Андрыс Веянс (Донас Калнач)* нарадзіўся 20.IV.1927 г. у Лудзенскім раёне. Па заканчэнні Латвійскага Дзяржаўнага педінстытута (1950) працуе ў часопісе «Карагс» («Сцяг»), з 1967 г.— яго галоўны рэдактар. Друкуецца з 1944 г. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1957), заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1965). Многія вершы напісаны на беларускую тэматыку. Пераклаў вершы П. Броўкі, Р. Барадуліна, В. Віткі, А. Зарыцкага, А. Звонака, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Кірэенкі, Е. Лось, Я. Пушчы, П. Пестрака, П. Панчанкі, М. Танка, С. Шушкевіча. Склаў кнігу выбраных вершаў П. Панчанкі.

*Валія Брутанэ* нарадзілася 28.I.1911 г. у Рызе. Па заканчэнні сярэдняй школы (1928) — выпадковыя заробкі, няштатная перакладчыцкая работа ў выдавецтвах. Скончыла Латвійскі дзяржаўны педінстытут (1947). Друкуецца з 1945 г. Акрамя вершаў піша нарысы, апавяданні, мініяцюры. Пераклала вершы П. Броўкі, П. Пестрака.

*Валдзіс Руя (Крыкіс)* нарадзіўся 9.I.1928 г. у горадзе Руіена. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1967). Працуе старэйшым рэдактарам у выдавецтве «Ліесма» («Полымя»). Друкуецца з 1945 г. Акрамя лірычных вершаў піша балады, байкі. Пераклаў творы Э. Валасевіча, Ул. Корбана, М. Лужаніна, Ул. Паўлава.

*Алфрэдс Крукліс* нарадзіўся 11.V.1921 г. у Ліепайскім раёне. Вучыўся на архітэктара ў Латвійскім дзяржаўным універсітэце, працаваў рэдактарам у тэлеграфным агенстве і на радыё. Друкуецца з 1946 г. На вершы А. Круклiса напісаны араторыі, кантаты, каля 500 песень. Пераклаў вершы Э. Агняцвет, Я. Купалы.

*Язэпс Османіс* нарадзіўся 11.VII.1932 г. у Даўгаўпілскім р-не. Кандыдат філалагічных навук, заслужаны дзеяч культуры ПНР (1970). Пачаў друкавацца ў 1947 г. З 1972 г. працуе намеснікам галоўнага рэдактара ў выдавецтве «Ліесма» («Полымя»). Аўтар паэтычных зборнікаў, лібрэта аперэты, складальнік некалькіх анталогій. Вершы для дзяцей выйшлі ў Мінску — «Сабака з рагаткай» (1976). Пераклаў зборнік вершаў Э. Агняцвет «Залатыя рукі» (1960), вершы К. Кірэенкі, А. Пысіна.

*Візма Бэлшавіца (Элсберга)* нарадзілася 30.V.1931 г. у Рызе. Скончыла Рыжскае паліграфічнае рамеснае вучылішча, тэхнікум работнікаў культуры і асветы, потым Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1961). Друкуецца з 1947 г. Акрамя вершаў піша апавяданні, шмат перакладае. Пераклала вершы А. Астрэйкі, С. Грахоўскага.

*Харый Хейслерс* нарадзіўся 20.IV.1926 г. у Рызе. Працаваў харыстам, журналістам. Друкуецца з 1947 г. Піша і для дзяцей, пераклаў вершы Р. Барадуліна, П. Броўкі, А. Вялюгіна, А. Грачанікава, А. Звонака, М. Кусянкова.

*Арвідс Скалбэ* нарадзіўся 1.III.1922 г. у Абрэнэ. Закончыў Даўгаўпілскі педінстытут (1941). З 1953 г. працуе ў часопісе «Карагс» («Сцяг»), дзе з 1966 г. загадвае аддзелам паэзіі. Друкуецца з 1947 г. Карані яго паэзіі ў фальклоры, у латышскай класіцы. Заслужаны дзеяч культуры ЛССР (1973), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛССР (1974). Пераклаў вершы А. Куляшова, В. Віткі, А. Пысіна, А. Тарас.

*Олга Лісоўска* нарадзілася 4.VIII.1928 г. у Цэсіскім раёне. Скончыла ў Маскве Вышэйшыя літаратурныя курсы, Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1963). Працуе рэдактарам у часопісе «Карагс» («Сцяг»).

*Кнутс Скуеніекс* нарадзіўся 5.IX.1936 г. у Рызе. Вучыўся ў Латвійскім дзяржаўным універсітэце, скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Друкуецца з 1950 г. Валодае многімі мовамі. Багата перакладае. Пераклаў з беларускай творы М. Багдановіча, А. Лойкі, А. Пысіна.

*Еранімс Стулпанс* нарадзіўся 3.XII.1931 г. у Лудзенскім раёне. Скончыў Латвійскі дзяржаўны універсітэт (1954), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1960). Працаваў рэдактарам у часопісе «Карагс» («Сцяг») і інш. Друкуецца з 1950 г. Напісаў некалькі вершаў пра Беларусь, нарыс «Брат чуе сэрца брата». Валодае беларускай мовай; пераклаў творы М. Аўрамчыка, П. Броўкі, П. Глебкі, Ул. Караткевіча, М. Калачынскага, Я. Купалы, М. Танка. Склаў анталогію беларускай паэзіі «Хлеб-соль» (1974) і выбранае П. Броўкі «Лагоднасць» (1979). Памёр 23.VIII.1981 г.

## ЗМЕСТ




МАРЫС ЧАКЛАЙС

Чалавек — здабытак чалавека. *Пераклаў Васіль Сёмуха* 5

ЯНІС СУДРАБКАЛНС

Памяці Купалы. *Пераклаў Пятрусь Броўка* . . . . . 15
Элегія з пагрозай. *Пераклаў Сцяпан Гаўрусёў* . . . . 16
Зоркі невядомых жыццяў. *Пераклала Галіна Шарангові*ч . . . . . . . . . . . . . . . . . . 18
Дзе ты, мой горад? *Пераклаў Сымон Блатун* . . . . 19
Калючы дрот. *Пераклаў Анатоль Кудравец* . . . . . 21
Майскі пераварот. *Пераклаў Васіль Зуёнак* . . . . . 22
Сэрца. *Пераклала Еўдакія Лось* . . . . . . . . . 23
З запісной кніжкі. *Пераклаў Сымон Блатун* . . . . 23
Жывая мова. *Пераклаў Сяргей Грахоўскі* . . . . . . 24
Песня. *Пераклаў Васіль Зуёнак* . . . . . . . . . . 25
Вада з бярозавымі лістамі. *Пераклаў Рыгор Барадулін* 26
Яшчэ адна вясна. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . 27

ЯНІС ГРОТС

Яздок на санях. *Пераклаў Рыгор Семашкевіч* . . . . 29
Цвіценне лета. *Пераклаў Рыгор Яўсееў* . . . . . . . 30
Песня пра бярозы. *Пераклаў Рыгор Яўсееў* . . . . 32
Подых будучыні. *Пераклаў Рыгор Яўсееў* . . . . . 33

МІРДЗА КЕМПЭ

Латвія. *Пераклала Эдзі Агняцвет* . . . . . . . . . 35
Сэрцу Беларусі. *Пераклаў Сяргей Панізнік* . . . . . 36
Вада, хлеб, паветра. *Пераклала Эдзі Агняцвет* . . . . 36
Моцная душа. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . 37
Як добра. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . . 38
Адказы Райніса. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . 39

Музыка. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . . . . 39
Дрэва вечнае любові. *Пераклаў Максім Танк* . . . . 40
Вячэрняму сонцу. *Пераклаў Юрась Свірка* . . . . . 41
Бесказырка марака. *Пераклаў Міхась Калачынскі* . . 42
Як хораша... *Пераклаў Валянцін Лукша* . . . . . . 43

АНДРЭЙС БАЛАДЗІС

Камуніст. *Пераклаў Сяргей Грахоўскі* . . . . . . . 44
Радзіма. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . . . . . . 45
Балада пра матулю. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . 46
Я ўглядаюся ў жыццё. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . 47
Жар-птушка. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . . . . 48
Каханне. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . . . . . . 49
Верш. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . . . . . . . 50
Збан і паэзія. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . . . 50

ПЭТЭРЫС СІЛС

*Пераклаў Хведар Жычка*

Сэрцу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 52
Ружовы куст . . . . . . . . . . . . . . . . 53
Іней . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 53
Жменя верасу . . . . . . . . . . . . . . . . 54
Адказы . . . . . . . . . . . . . . . . . . 54
Ружовая цётка і інвалід . . . . . . . . . . . 55
Звіні, песня . . . . . . . . . . . . . . . . 56
Тры думкі . . . . . . . . . . . . . . . . . 56

ВАЛДЗІС ЛУКС

Шкадаванні. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . . . . 57
Пра каханне. *Пераклаў Уладзімір Шахавец* . . . . . 58
Ласка. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . . . . 59
Сумны маналог. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . 60
Несправядлівасць. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . 61
Пра зоркі. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . . 61
Будзь добрым. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . 62
Салдацкая кошаўка. *Пераклала Эдзі Агняцвет* . . . 63

АЛЯКСАНДРС ЧАКС

Прырода. *Пераклаў Анатоль Вярцінскі* . . . . . . 65
У Крамлі ў Леніна. *Пераклаў Анатоль Вярцінскі* . . . 67
Квітней, наша Рэспубліка! *Пераклаў Анатоль Вярцінскі* 72
Падвал. *Пераклаў Васіль Сёмуха* . . . . . . . . 74
Агонія. *Пераклаў Васіль Сёмуха* . . . . . . . . 76
У трамваі. *Пераклаў Васіль Сёмуха* . . . . . . . 76
Асфальтаванае вуліцы. *Пераклаў Васіль Сёмуха* . . . 77

ПАВІЛС ВІЛІПС
*Пераклаў Васіль Зуёнак*
Архімедава кропка апоры . . . . . . . . . . . . . . 79
Закрыем лёткі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 80
Начная патэтычная сімфонія . . . . . . . . . . . 81
Палаць! . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 82
Вярба на беразе ракі . . . . . . . . . . . . . . . 83

МІРДЗА БЭНДРУПЭ
*Пераклаў Рыгор Семашкевіч*
Далягляд . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 84
*** Вачэй не зводзячы шчаслівых і дзівосных... . . 85
Маленькі чорт з пекла душы . . . . . . . . . . 85
Сціплы сад . . . . . . . . . . . . . . . . . . 87
Летні сцяг . . . . . . . . . . . . . . . . . . 88
*** І зусім не трэба «ад» і «да»... . . . . . . . . . 88

МЕЙНХАРДС РУДЗІЦІС
*Пераклаў Уладзімір Шахавец*
Так бывае ў жыцці . . . . . . . . . . . . . . . 90
Зімовае сонца . . . . . . . . . . . . . . . . . 92
Жменя галькі . . . . . . . . . . . . . . . . . 93

ЮЛИЙ ВАНАГС
Ліст у Вязынку. *Пераклала Эдзі Агняцвет* . . . . . 96
Бяроза. Б а л а д а. *Пераклала Эдзі Агняцвет* . . . . 98
Два абеліскі. *Пераклаў Максім Танк* . . . . . . . 100
Саласпілс. *Пераклаў Васіль Вітка* . . . . . . . . 105

АРВІДС ГРЫГУЛІС
*Пераклаў Васіль Зуёнак*
Санет пра мора і жыццё . . . . . . . . . . . . 109
Іржавая балотная вада . . . . . . . . . . . . . 110
Асенні дождж . . . . . . . . . . . . . . . . . 111
Калі будзеш слухаць, што гавораць чараты . . . . . 112
Так Ленін нас вучыць. Г а з е л ь . . . . . . . . . . 113
Злосныя словы пасля спрэчкі . . . . . . . . . . 114

ЯНІС СІЛАЗАРС
*Пераклаў Кастусь Жук*
Развітанне з маладосцю . . . . . . . . . . . . . 116
Мужчыны ля печаў . . . . . . . . . . . . . . . 117
Дзікая яблынька . . . . . . . . . . . . . . . . 118

ФРЫЦЫС РОКПЕЛНІС
*Пераклаў Уладзімір Шахавец*
Песня стралкоў . . . . . . . . . . . . . . . . 119

На берагах Лавацi . . . . . . . . . . . . . . . . 120
Тры сябры . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 121
Невядомы салдат . . . . . . . . . . . . . . . . 122

АНАТАЛС IМЕРМАНIС

Дождж на ўскраiне. *Пераклаў Рыгор Барадулiн* . . . 123
*** Кажуць, што мой дзень у смутак хiлiцца... *Пераклаў Рыгор Барадулiн* . . . . . . . . . . . . 123
Шапаткое лiсце. *Пераклаў Рыгор Барадулiн* . . . . 124
Ап'яненне глыбiнёй. *Пераклаў Рыгор Барадулiн* . . . 125
Станцыя «Латышская». *Пераклаў Артур Вольскi* . . 126

ЗIЕДАНIС ПУРВС

*Пераклаў Генадзь Пашкоў*

Трыадзiнства . . . . . . . . . . . . . . . . . 129
*** Жыццё пякучае, як рапiца... . . . . . . . . . 130
*** Якi твой час?.. . . . . . . . . . . . . . . . 131
Радзiма . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 131
Хлеб . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 132
1905 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 133
*** Як бродзiць зямля... . . . . . . . . . . . . . 134
*** О, жыццё маё, як вочка... . . . . . . . . . . 134
*** Не, любоў не выпраўляе нас... . . . . . . . . 135
*** Водсвет зарнiцаў калiнавы... . . . . . . . . . 135
*** Разводдзе ночы. Суму боль... . . . . . . . . . 136
*** Хоць адну квяцiнку падары... . . . . . . . . . 136

БРУНА САЎЛIЦIС

*Пераклаў Васiль Зуёнак*

Свiтанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 138
Ленiн з намi . . . . . . . . . . . . . . . . . . 139
Час . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 140
Вiтраж . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 141
Дзень травы . . . . . . . . . . . . . . . . . . 142

ЛАЙМАНIС ПЭЛМАНIС

*Пераклаў Артур Вольскi*

Гайзiнь . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 144
Прыходзь заснежаная . . . . . . . . . . . . . . 145
Мова мора . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 145
Мора i ты . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 146

МОНТА КРОМА

*** — Якая нерухомасць у табе!.. *Пераклаў Артур Вольскi* . . . . . . . . . . . . . . . . 148
*** Снег паваліў... *Пераклаў Артур Вольскi* . . . . 149
*** Свiшча шпак... *Пераклаў Яўген Гучок* . . . . . 150
Баявым маiм сябрам. *Пераклала Аўгiння Кавалюк* . . 152

АНДРЫС ВЕЯНС
*Пераклаў Рыгор Барадулін*
Нашай Латвіі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 153
Балада Хатынскага звана . . . . . . . . . . . . 155
Мая першая беларуская песня . . . . . . . . . . 159
Пад цыганскім сонцам. *Партрэт Максіма Танка* . . . . 161

ВАЛІЯ БРУТАНЭ
*Пераклала Вольга Іпатава*
Матывы новага гарадскога раёна . . . . . . . . . 164
*** Ідуць, пасміхаюцца... . . . . . . . . . . . 166
Песня пеўня . . . . . . . . . . . . . . . . . 166
Будзённыя шэрыя тапачкі . . . . . . . . . . . . 169

ВАЛДЗІС РУЯ
Цыган у трамваі. *Пераклаў Уладзімір Караткевіч* . . 172
Латдывізія ідзе. *Пераклаў Сяргей Панізнік* . . . . . 173
Спадчына. *Пераклаў Сяргей Панізнік* . . . . . . . 174
*** Спыталі ў мяне... *Пераклаў Сяргей Панізнік* . . 175
Зарапад. *Пераклаў Сяргей Панізнік* . . . . . . . . 175
*** Мармур мемарыяльны... *Пераклаў Сяргей Панізнік* 176

АЛФРЭДС КРУКЛІС
Яблыня. *Пераклаў Ніл Гілевіч* . . . . . . . . . . 177
Балтыйскае мора. *Пераклаў Хведар Жычка* . . . . . 178
Песні мора. *Пераклаў Хведар Жычка* . . . . . . . . 179
Аржаное зярнятка. *Пераклаў Хведар Жычка* . . . . . 179
Птушкі, якія не ведаюць стомы. *Пераклаў Хведар Жычка* . . . . . . . . . . . . . . . . . . 180
Ядловец. *Пераклаў Хведар Жычка* . . . . . . . . 181
На тонкай былінцы... *Пераклаў Хведар Жычка* . . . . 182
Вячэрняя казка. *Пераклаў Хведар Жычка* . . . . . 182

ЯЗЭПС ОСМАНІС
*Пераклаў Уладзімір Скарынкін*
Адкуль? . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 184
Бяроста . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 185
Жаўрук . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 185
З лёгкай парай! . . . . . . . . . . . . . . . . 186
Калі? . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 187
Руплівасць . . . . . . . . . . . . . . . . . . 187
Жураўы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 188

ВІЗМА БЭЛШАВІЦА
*Пераклаў Васіль Сёмуха*
*** Візма — месяцава сцежка... . . . . . . . . . 189
Верш пра салаўіны інфаркт . . . . . . . . . . . 190

Словы пра вербы . . . . . . . . . . . . . . . . . 191
Яшчэ раз пра глыбіні . . . . . . . . . . . . . 192
Белы алень . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 193
Воўк . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 194
Мядзведзь . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 194
Сон . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 195
Чабор . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 196
Смех . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 197
*** Я не пастукаю табе у шыбу... . . . . . . . . . . 198
*** Ты — даруй... . . . . . . . . . . . . . . . 199
Шыпшына-радоста . . . . . . . . . . . . . . . 200
*** Час жыць, час паміраць... . . . . . . . . . . 200

ХАРЫЙ ХЕЙСЛЕРС

*Пераклаў Алег Лойка*

*** Не раз так можа стацца і сягоння... . . . . . . . 201
Птушка шчасця . . . . . . . . . . . . . . . . 202
Журавіны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 203
Цеплыня . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 204
Восеньская балада . . . . . . . . . . . . . . 205
*** Не трэба мне ціхая гавань... . . . . . . . . . . 205
Аднойчы тапіўся сабака . . . . . . . . . . . . 206
Чаромха Салацы . . . . . . . . . . . . . . . 208
Бо так мы не гаворым... . . . . . . . . . . . . 209

АРВІДС СКАЛБЭ

*Пераклаў Васіль Сёмуха*

Крыніца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 210
Сосны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 210
Парадокс . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 211
Дацкі матыў . . . . . . . . . . . . . . . . . 211
Тады . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 212
Як мала нам трэба... . . . . . . . . . . . . . 213
*** Народ, што зрокся мовы... . . . . . . . . . . 213
*** Не бойся каменя на сэрцы . . . . . . . . . . 214
46 імёнаў новай Германіі . . . . . . . . . . . . 214
*** Ты не стаіш паміж нябытаў двух... . . . . . . . . 216
*** Расквечана, як луг, начное неба... . . . . . . . . 216
Той знікне... . . . . . . . . . . . . . . . . . 217

ОЛГА ЛІСОЎСКА

*Пераклаў Анатоль Вярцінскі*

*** О, лёгка, са смехам, з парошай... . . . . . . . . 218
Каханне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 219
Летняя імпрэсія . . . . . . . . . . . . . . . 219

Асенні настрой . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 220
*** Не закоўвай у кольца мяне . . . . . . . . . 221
У чаканні снегу . . . . . . . . . . . . . . . . . 222
Чырвоны небасхіл . . . . . . . . . . . . . . . . . 222
*** І ў дні дажджоў і вятроў густых... . . . . . . . 223

КНУТС СКУЕНІЕКС

*Пераклаў Рыгор Барадулін*

*** У жылах маіх кроў дрэва... . . . . . . . . . . . . . 224
*** хай кажуць вернасць — годнасць... . . . . . . . . . 224
*** слова ў ваду ўтні... . . . . . . . . . . . . . . . 225
*** над Нёманам зорка гаворыць... . . . . . . . . . . 225
*** алень галаву на плячо кладзе мне... . . . . . . . . 225
*** цвітуць мае скроні як яблыні... . . . . . . . . . 226
*** губамі не разлашчу... . . . . . . . . . . . . . . . 227
*** нябёсы насцеж хочацца заплакаць... . . . . . . . . 227
*** на кладах сінічкі лічаць... . . . . . . . . . . . 228
*** усмешка сонца без адчаю... . . . . . . . . . . . . 228
*** ночы топяцца... . . . . . . . . . . . . . . . . . 229
*** смяецца веташок з-за хмары... . . . . . . . . . . 229
*** дзякуй пазное сонца... . . . . . . . . . . . . . . 230
*** развесім лета на мяжы... . . . . . . . . . . . . . 230

ЕРАНІМС СТУЛПАНС

Люблю жыццё. *Пераклаў Ніл Гілевіч* . . . . . . . . 232
Рукавіцы. *Пераклаў Язэп Пушча* . . . . . . . . . . 233
Хто яна? *Пераклаў Сяргей Грахоўскі* . . . . . . . . 234
Журавінка. *Пераклаў Уладзімір Караткевіч* . . . . . . 235
Касец. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . . . . . . 236
Хатынскія студні. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . 237
Праца. *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . . . . . . 238
*** Да агнёў... *Пераклаў Рыгор Барадулін* . . . . . 240

Біяграфічныя даведкі . . . . . . . . . . 242

**Латышская** савецкая паэзія: Анталогія. У
Л 27 2-х т. Т. 1/[Уклад. М. Абала, С. Панізнік];
Рэд. Р. Барадулін; [Прадм. М. Чаклайса].— Мн.:
Маст. літ., 1984.— 254 с.
У пер.: 1 р. 20 к.

Анталогія латышскай савецкай паэзіі знаёміць беларускага чытача з лепшымі ўзорамі прыгожага пісьменства братняга, суседняга народа. Сваіх калег перакладалі прадстаўнікі ўсіх пакаленняў, пачынаючы ад Петруся Броўкі і Максіма Танка, канчаючы таленавітай зменай.

Першы том анталогіі адкрываецца вершамі даўняга сябра Беларусі, народнага паэта Латвіі Яніса Судрабкалнса і заканчваецца паэзіяй Еранімса Стулпанса, хто многа зрабіў для прапаганды нашага паэтычнага слова ў Латвіі.

$Л \frac{4702340200-164}{М302(05)-84} 147-84$

ББК84Лат7
С(Лат)27

**Латышская советская поэзия**

*Антология в двух томах*

**Том 1**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Н. І. Тулупава
Мастак А. В. Ружо
Мастацкія рэдактары
А. І. Труханава, А. І. Цароў
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Л. Т. Калюжная

ІБ № 1370

Здадзена ў набор 25.06.84. Падп. да друку 26.10.84. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,32. Ум. фарб.-адб. 10,32. Ул.-выд. арк. 9,97. Тыраж 2000 экз. Зак. 515. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.